# Альтэрнатывы ў адукацыі

## Зборнік артыкулаў




Мінск, 2012

# Змест

# Прадмова

Гэты зборнік артыкулаў стаўся вынікам шырокай дыскусіі, да якой заклікалі грамадскія арганізацыі «Таварыства беларускай школы», «Цэнтар Супольнасьць» і партал Nastaunik.info. Паўгода ў інтэрнэт-прасторы цягнулася абмеркаванне і пошук шляхоў паляпшэння беларускай адукацыі, а ў сакавіку 2012 года адбыўся круглы стол «Альтэрнатывы ў адукацыі», дзе былі прааналізаваныя выклікі, з якімі сутыкаецца адукацыя ў Беларусі і ў свеце, падсумаваныя выказаныя прапановы.

Стан, у якім апынуліся беларуская адукацыя і беларускае настаўніцтва, выглядае, мякка кажучы, не вельмі прывабна: бясконцыя рэформы, паспешлівыя змены праграм і тэрмінаў навучання, якія адбываюцца ў апошнія гады, вынішчэнне нацыянальнага складніка і каштоўнасцей са школы не паляпшаюць становішча, а хутчэй маюць эфект землятрусу на адукацыйнай глебе. Але мэта гэтай публікацыі – не крытыка, не канстатацыя відавочных фактаў, а ПОШУК АЛЬТЭРНАТЫВАЎ, абмен станоўчымі практыкамі і шляхамі вырашэння праблем у адукацыі, вызначэнне таго, што можна зрабіць зараз і ў цяперашніх умовах, каб вырашыць праблемы, з якімі сутыкаемся мы і нашыя дзеці.

Гэты зборнік змяшчае невялікую частку артыкулаў, якія закранаюць розныя аспекты адукацыі. Іх напісалі як навукоўцы, так і звычайныя настаўнікі, бацькі, рэпетытары, юрысты. Абмеркаванне працягваецца. Для грамадскай дыскусіі на тэму «Крызіс у адукацыі – пошукі шляхоў выйсця» на сайце Nastaunik. info ёсць адмысловая старонка (http://www.nastaunik.info/info/conference/). На ёй з’яўляюцца новыя і новыя артыкулы. Настаўнікі, бацькі, выкладчыкі вышэйшай школы, эксперты і проста неабыякавыя людзі выказваюць свой погляд на праблемы, дзеляцца станоўчай ці адмоўнай практыкай альбо проста пакідаюць каментарыі ці пытанні калегам.

Гэты зборнік адрасаваны шырокаму колу педагогаў, а таксама адміністрацыі навучальных установаў і органам кіравання адукацыяй з надзеяй, што яны прыслухаюцца да голасу грамадскасці.

*Тамара Мацкевіч*

# Як уплываюць тэндэнцыі ў грамадстве на развіццё адукацыйнага працэсу?

***Мікалай Запрудскі***

*У артыкуле дадзена кароткая характарыстыка постіндустрыяльнага грамадства. Прыведзены меркаванні пра тое, у якіх кірунках у сучасных умовах настаўнікам пажадана развіваць сваю практыку.*

Выклікі часу, патрабаванні рынку працы, сустветныя тэндэнцыі, значныя адрозненні цяперашніх вучняў ад сваіх аднагодкаў, напрыклад, 20 гадоў таму, абумоўліваюць неабходнасць унясення ў адукацыйны працэс адпаведных змен. Есць такая прымаўка: “Вы можаце не змяняцца: выжыванне не з’яўляецца вашым абавязкам”. Сапраўды, калі педагог не адно дзесяцігоддзе застаецца на сваёй прафесійнай пазіцыі – толькі крыніцы ведаў па прадмеце, то, верагодна, яго не прымаюць вучні, ён не адпаведаеі іх чаканням і новай сацыякультунай сітуацыі. Такім чынам, зразумела, навошта настаўніку патрэбна ведаць тэндэнцыі развіцця грамадства і адукацыйнага працэсу:

- для ацэнкі свайго вопыту з пункту гледжання яго адпаведнасці патрабаванням грамадства, актуальнай і перспектыўнай адукацыйнай практыцы;
- для разумення таго, што неабходна змяняцца, бо змяняюцца грамадства, вучні;
- для асабістага самавызначэння ў кірунках дыдактычных пошукаў;
- для прафесійнага росту і павышэння якасці адукацыі вучняў.

Прыкладна на працягу 1000 гадоў нашы продкі жылі ў аграрным грамадстве. Людзі займаліся не толькі збіральніцтвам, паляваннем

і рыбалоўствам, але і жывёлагадоўляй, земляробствам. Большая частка насельніцтва працавала, менавіта, у сельскагаспадарчым сектары. Прыблізна з сярэдзіны XVII ст. цывілізацыя ўступіла ў эпоху індустрыяльнага грамадства, якая, па меркаванні экспертаў, доўжылася да сярэдзіны 50-х гадоў мінулага стагоддзя, калі пачаўся пераход да постінудстрыяльнага грамадства – грамадства, у якім індустрыяльны сектар губляе сваю вядучую ролю. (Ёсць падствы лічыць, што ў сілу гістарычных абставін, гэты пераход у краінах былога СССР пачаўся пазней – у пачатку дзевяностых гадоў). У апошнія дзесяцігоддзі на планеце адбыліся падзеі, якія насілі глабальны характар: тэхналагічная рэвалюцыя, энергетычны крызіс у 70-х гг., інфарматызацыя грамадства, крах сацыялістычнай сістэмы, інтэграцыя сусветнай эканомікі, гіганцкія экалагічныя катастрофы, міжнацыянальныя канфлікты, войны і тэрарыстычныя акты і інш. Названыя падзеі – сведчанне таго, што мы нечакана аказаліся ў другой гістарычнай эпосе. Для постіндустрыяльнага грамадства характэрна таксама рыначная эканоміка, якая, па сутнасці, з'яўляецца дасягненнем чалавечай цывілізацыі і стварыла перадумовы для таго, каб накарміць людзей, каб былі матэрыяльны дастатак, мноства бытавой тэхнікі і г. д.

Параўнаем постіндустрыяльнае грамадства з індустрыяльным. Гэта важна зрабіць, каб зразумець, ці прыстасаваны адукацыйны працэс у сучаснай школе да новых жыццёвых рэалій.

| **Індустрыяльнае грамадства** | **Постіндустрыяльнае грамадства** |
|---|---|
| Размеркаванне працаздольнага насельніцтва па сферах занятасці: у індустрыі, у сельскай гаспадарцы, у сферы паслуг, у інфармацыйнай сферы | Размеркаванне працаздольнага насельніцтва па сферах занятасці: у сферы паслуг, у сферы інфармацыі, у індустрыі, у сельскай гаспадарцы |
| Большасць людзей усё свядомае жыццё працавалі на адным працоўным месцы | Мабільнасць працоўных рэсурсаў, на працягу жыцця чалавек можна змяніць 5 – 7 працоўных месцаў |
| Планавая эканоміка | Рыначная эканоміка |
| Адносная стабільнасць | Нестабільнасць, мноства праблем, канфлікты |

| | |
|---|---|
| Асноўная роля ў вытворчасці – прыродныя рэсурсы | Асноўная роля ў вытворчасці – людскія рэсурсы (адукацыя, майстэрства, творчасць, кампетэнцыі) |
| Аўтаномнасць краін, вытворчасці | Глабалізацыя |
| Павольнае ўдасканаленне сродкаў вытворчасці | Тэхналагічны прарыў. Інфарматызацыя |
| Мінімальныя патрэбнасці людзей | Імкненне да таго, каб задаволіць растучыя патрэбы ("общество потребления") |
| Людзі, як правіла, не мянялі месца жыхарства | Актыўная міграцыя насельніцтва |
| Прыярытэт фундаментальнай навукі | Прыярытэт прыкладных навуковых ведаў, іх імклівае павелічэнне |
| Чалавек – сродак для дасягнення эканамічных, вытворчых мэт | Чалавек – вышэйшая каштоўнасць. Маюць важнейшае значэнне яго маральная пазіцыя, культура, здольнасці, адукаванасць, прафесіяналізм |
| Ідэал адукаванасці: чалавек, які шмат ведае | Адукацыя больш каштоўная, калі чалавек не столькі шмат ведае, колькі многае ўмее; не столькі ведае, колькі ведае, дзе знайсці неабходныя веды |
| Ведавы падыход у адукацыйным працэсе | Кампетэнтнасны падыход |

Заўважым, што паміж двума грамадствамі няма рэзкай мяжы. Напрыклад, і ў індустрыяльным грамадстве былі элементы рынку, а ў постіндустрыяльным – пэўнае дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі. Але, калі звярнуць увагу на характарыстыкі постінудстрыяльнага грамадства, то можна зрабіць выснову, што склалася новая сацыякультурная сітуацыя ў свеце, у тым ліку і ў нашай краіне; праяўляюць сябе новыя тэндэнцыі развіцця ўсіх сфер дзейнасці і жыцця чалавека. Асабліва значныя змены адбыліся на рынку працы: патрабуюцца людзі высокаадукаваныя, здольныя ставіць сабе мэты і вучыцца, вырашаць праблемы,

браць на сябе адказнасць і г. д. Гэта вымагае адпаведных змен у адукацыйным працэсе.

На думку многіх даследчыкаў сёння праяўляюцца наступныя адукцыйныя тэндэнцыі:

- гуманізацыя ў адносінах паміж суб'ектамі адукацыйнага працэсу (АП);
- тэхналагізацыя АП;
- узмацненне кампетэнтаснага падыходу;
- інтэграцыя ў АП;
- індывідуалізацыя і дыферэнцыяцыя навучання;
- імкненне настаўнікаў пераадолець матывацыйны крызіс;
- выхад настаўніка і вучняў за рамкі ўрока і інш.

Было цікава прасачыць, ці адпавядае ў нашай краіне грамадскім і пералічаным адукацыйным тэндэнцыям рэальная адукацыйная практыка, ці адбываюцца ў ёй адэкватныя выклікам часу пазітыўныя змены. Больш дакладна: ці ў патрэбным кірунку змяняецца практычная дзейнасць настаўнікаў непасрэдна на ўроках і на факультатыўных занятках.

Каб адказаць на дадзенае пытанне мы параўналі ўрокі фіналістаў конкурсу прафесінага майстэрства педагогаў “Настаўнік года – 2001” і “Настаўнік года – 2011”.

Ліній параўнання вельмі шмат, паколькі ўрок – гэта складаная сістэма, у якой узаемназвязаны мэты і задачы (сістэмаўтваральны кампанент), змест навучання, формы, метады і сродкі, узгодненая дзейнасць вучняў і настаўніка, вынік гэтай дзейнасці. Мы ўзялі пад увагу тыя лініі, якія ў большай ці меншай ступені паказваюць тэндэнцыі прафесійнага развіцця настаўнікаў, адпаведныя тэндэнцыям постіндустрыяльнага грамадства. Пры гэтым мы абмежаваліся мэтавым кампанентам, метадамі і сродкамі навучання і прафесійнай пазіцыяй настаўнікаў – фіналістаў конкурсу (іх было 22 і 21 адпаведна) 2001 і 2011 гадоў.

Мэтавы кампанент

| № | Лініі для параўнання | 2001 | 2011 |
|---|---|---|---|
| 1. | Вымярэнне на пачатку ўрока і ацэнка пачатковых умоў | 4 | 12 |
| 2. | Дыягнастычнасць пастаноўкі мэты | 7 | 15 |
| 3. | Уключэнне вучняў у працэс вызначэння асабістых мэт | 4 | 8 |
| 4. | Фіксацыя мэты на мове вучняў на дошцы (экране) і зварот да мэты на працягу ўрока | 3 | 8 |
| 5. | Вызначэнне настаўнікам (або выкарыстанне) крытэрыяў ацэнкі | 1 | 6 |
| 6. | Фармуліроўка задач выхавання, развіццё ў вучняў актуальных кампетэнцый і стварэнне на ўроках адпаведных адукацыйных сітуацый | 6 | 14 |
| 7. | Узаемакантроль (самакантроль), самаацэнка ступені дасягнення мэты | 4 | 13 |
| 8. | Карэкцыя ў выпадку выяўлення памылак | 4 | 8 |

Аналіз табліцы паказвае, што назіраецца пазітыўная дынаміка ў спосабах і сродках пастаноўкі мэт і задач ўрока. Разгледзім, да прыкладу, больш падрабязна некаторыя пазіцыі.

Зразумела, што дакладна вызначыць або ўдакладніць мэты магчыма толькі тады, калі вядомыя пачатковыя ўмовы: веды, уменні, прадстаўленні, суб'ектны вопыт вучняў, якія спатрэбяцца для паспяховага вывучэння новай тэмы, якія трэба настаўніку ўлічваць. Настаўнікі прымянялі для гэтага розныя сродкі: ўваходны тэст, дыктоўку, запаўненне табліц, выбар сцвярджэнняў і інш.

Дыягнастычная пастаноўка мэты з'яўляецца альтэрнатывай традыцыйнай практыцы, калі настаўнік дэкларуе свае намеры: сфарміраваць, даказаць, высветліць, паўтарыць, сістэматызаваць і г. д.

Добра, што многія педагогі ў якасці мэты ўказвалі, што вучні будуць ведаць і ўмець напрыканцы ўрока. Пры гэтым дзейнасць настаўніка і вучняў станавілася мэтанакіраванай на пэўны вынік занятку, а на яго завяршэнні мелася магчымасць ацаніць ступень дасягнення мэты.

Чаму пажадана ўключаць вучняў у працэс вызначэння асабістых мэт? Па-першае, калі чалавек сам ставіць мэты сваёй дзейнасці, то яна мае актыўны і пераўтваральны характар, калі ж за яго мэту вызначае іншы, то дзейнасць бывае толькі выканальніцкай. Па-другое, у працэсе фармуліроўкі мэт вучні набываюць важны вопыт, авалодваюць актуальным ўменнем: вызначаць для сябе мэты на ўрок, на дзень, на тыдзень і г. д., што потым спатрэбіцца ў жыцці. Многім настаўнікам больш-менш удавалася за невялікі час дапамагчы вучням вызначыць асабістыя мэты.

Вызначаная настаўнікам і (або) "вырашчаная" вучнямі мэта важна, каб была бачнай ўвесь урок. Што гэта дае? Прадстаўляецца магчымасць па ходзе ўрока назіраць і ацэньваць, наколькі паспяхова мы рухаемся да мэты, якія трэба ўнесці карэктывы ў працу, веды і ўменні вучняў. Пры гэтым вельмі карысна казаць вучням: "Што з вызначанага ў мэце вы ўжо ўмееце рабіць? Давайце праверым, ці так гэта. Чым вы будзеце займацца далей?". Такім чынам мы павышаем пазнавальную матывацыю і вельмі істотна падтрымліваем актыўнасць вучняў.

Крытэрыі ацэнкі вынікаў вучэбнай дзейнасці вучняў вызначаны адпаведным нарматыўным дакументам. Крытэрыі працэсу індывідуальнай, парнай і групавой работы настаўнікі могуць прапанаваць самі. Гэтыя крытэрыі таксама з'яўляюцца спосабам дыягнастычнай пастаноўкі мэты, бо іх веданне вучнямі дае ім і арыенціры дзейнасці, і сродкі для адсочвання правільнасці выканання задання. Заўважым, што крытэрыі могуць быць вызначаны з удзелам саміх вучняў. Як бачна з табліцы, праца з крытэрыямі на ўроках пакуль не з'яўляецца распаўсюджанай.

Фармуліроўка задач выхавання і развіцця ў вучняў актуальных кампетэнцый важна рабіць не "абы напісаць", а на падставе разумення, якімі кампетэнцыямі пажадана валодаць вучням. На ўроку ж ствараюцца адпаведныя адукацыйныя сітуацыі. Напрыклад, калі ёсць задача садзейнічаць развіццю ў вучняў уменняў ставіць мэты, то на ўроку ствараецца сітуацыя пастаноўкі мэты; калі задача – спрыяць фарміраванню ў вучняў адказнасці, то на ўроку павінна быць сітуацыя выбару; калі існуе

задача фарміраваць даследчыя ўменні, то арганізуецца даследчая дзейнасць вучняў і г. д.

Важнай каметэнцыяй сучаснага чалавека з'яўляецца ўменне ацэньваць працэсы, з'явы, аб'екты, ход і вынікі працы, узаеміны людзей. Таму на ўроку павінны ствараццa сітуацыі ўзамаацэнкі і самаацэнкі.

Метады і сродкі навучання

| № | Лініі для параўнання | 2001 | 2011 |
|---|---|---|---|
| 1. | Арыенціровачныя карты | 2 | 5 |
| 2. | Адкрытыя пытанні настаўніка | 11 | 14 |
| 3. | Ключавыя пытанні | 1 | 2 |
| 4. | Метад групавой работы | 12 | 18 |
| 5. | Рэфлексія | 7 | 18 |
| 6. | Прэзентацыі *PowerPoint* | 2 | 20 |
| 7. | Прэзентацыі *PowerPoint* з відэафрагментамі | - | 6 |
| 8. | Інтэрактыўная дошка | - | 1 |
| 9. | Флэш-анімацыі | - | 1 |
| 10. | 3D-адлюстраванні | - | 1 |
| 11. | Выхад у інтэрнэт непасрэдна на ўроку | - | - |

**2. Як бачым у табліцы, многія настўнікі прымяняюць адкрытыя пытанні** – гэта пытанні, на якія цяжка адказаць коратка, яны патрабуюць пэўнага тлумачэння, разумовай работы. Такія пытанні пачынаюцца словамі “чаму”, “навошта”, “якім чынам”, “якія ў вас меркаванні”, “якім і чаму будзе вашае рашэнне наконт” і г. д. Такія пытанні патрабуюць разгорнутага адказу ў свабоднай форме. Яны ставяцца з мэтай атрымаць дадатковыя звесткі, выявіць сутнасць рэальных матываў і пазіцыі, адносін вучняў. Яны дазваляюць высветліць не тое, наколькі вучань запомніў зададзены вучэбны матэрыял, а тое як ён мысліў, якія сэнсы ўкладае ў прадмет вывучэння або абмеркавання. Пры гэтым вучань знаходзіцца ў актыўным стане, паколькі павінен

абдумваць свае адказы; ён мае магчымасць самастойна выбіраць дадзеныя, інфармацыю і аргументы для абгрунтавання сваёй пазіцыі.

3. Ключавыя пытанні пакуль, як бачна, не карыстаюцца папулярнасцю ў настаўнікаў. **Яны тычацца шырокага кантэксту тэмы, якая вывучаецца на ўроку,** прадбачання або практычнага прымянення ведаў. **Напрыклад, на ўроку па геаграфіі, якi прысвечаны хімічнай прамысловасці, можа быць пастаўлена пытанне: "Хімічная прамысловаць – гэта пагібель для чалавецтва ці крыніца яшчэ большага дабрабыту?" Гэтыя пытанні стымулююць вучняў шукаць адказы, актывізуюць пазнавальную дзейнасць, ствараюць п**раблемную сітуацыю. Яны, як правіла, фармулююцца на пачатку ўрока. А ў заключэнні занятку абмяркоўваецца, ці знайшлі адказ на ключавое пытанне? У чым гэты адказ заключаецца?

4. Метад групавой работы на конкурсных уроках прымянаўся вельмі часта. І гэта зразумела, паколькі, па-першае, пры гэтым актывізуецца дзейнасць вучняў, па-другое, удасканальваецца актуальная каметэнцыя: уменне працаваць у камандзе. Зразумела, што на выкарыстанне групавой работы накладваецца абмежаванне: яна патрабуе нашмат больш часу, чым, напрыклад, выкладанне вучням матэрыялу ўрока. На жаль, групавая работа выглядала не заўседы пераканаўча: не ўсе вучні ў групе актыўна працавалі. Між тым ёсць эфектыўныя ў гэтым сэнсе стратэгіі: каапературыўнае навучанне, калектыўна-размеркаваная дзейнасць, педагагічныя майстэрні, эўрыстычнае навучанне па А. Хутарскому ды інш.

5. Рэфлексія (лат. – зварот назад) – гэта працэсс самапазнання суб'ектам унутраных псіхічных актаў і стану, а таксама ўсведамленне сябе ў дзейнасці. Рэфлексія з'яўляецца і метадам, і адной з кампетэнцый сучаснага чалавека. Прыемна адзначыць, што большасць настаўнікаў стваралі на ўроку (звычайна пры яго завяршэнні) рэфлексійныя сітуацыі. Пры гэтым яны выкарыстоўвалі тую ае разнавіднасць, якая тычыцца аналізу дзейнасці з мэтай фіксацыі яе ходу і вынікаў, павышэння яе эфектыўнасці. У працэсе рэфлексіі асэнсоўваецца не толькі

ажыццяўляемая або выкананая праца, але і абдумваецца, абмяркоўваецца будучая дзейнасць. На конкурсе іншы раз рэфлексія праводзілася фармальна: вучням прапаноўвалі толькі адказаць, ці спадабалася ім сёння на ўроку. У большай ступені гэта было характэрна для ўрокаў 2001 года.

6. Прэзентацыі *PowerPoint* набываюць усе большую папулярнасць. Амаль кожны ўдзельнік у фінале апошняга конкурсу выкарыстоўваў гэты сродак нагляднасці. Менавіта так: сродак нагляднасці, калі на экране прадстаўляліся адлюстраванні аб'ектаў вывучэння і тэксты. Між тым, магчымасці *PowerPoint,* на наш погляд, выкарыстоўваліся не поўнасцю. Пажадана, каб на экране вучні бачылі альтэрнатыўныя меркаванні; табліцы, схемы з "белымі плямамі"; заданні. Увогуле, добра, калі прэзентацыя выконвае не толькі (і не столькі) ілюстрацыйную функцыю, колькі функцыю арыенціроўкі для пазнавальнай дзейнасці вучняў.

8 – 11. Як бачым, найноўшыя сродкі нвучання: флэш-анімацыі, інтэрактыўныя дошкі, праца on-line ў інтэрнэце, 3D-адлюстраванні не сталі распаўсюджанымі на ўроках. Гэта тлумачыцца галоўным чынам тым, што адпаведная тэхніка, праграмнае забеспячэнне пакуль не вельмі даступны настаўнікам, а інтэрнэт, якім карыстаюцца ў школах, мае малую хуткасць. Між тым, ёсць падставы меркаваць, што магчымы значны педагагічны эфект ад прымянення дадзеных сродкаў. Сапраўды, сённяшнія вучні ў параўнанні з настаўнікамі значна больш дасведчаныя ва ўсім, што звязана з камп'ютарам, для многіх з іх віртуальны свет, інтэрнэт прадстаўляеца фантастычна цікавым, яркім, патрэбным. Таму настаўніку важна "гуляць на полі вучняў" – старацца выкарыстоўваць у сваёй прафесійнай дзейнасці сучасныя электронныя сродкі навучання. Пры гэтым у вучняў павышаецца пазнавальная матывацыя, яны пачынаюць разумець, што камп'ютар прыдатны не толькі для гульняў, але і для сур'ёзных рэчаў; таксама павышаецца аўтарытэт педагога.

Прафесійная пазіцыя настаўніка

| № | Лініі для параўнання | 2001 | 2011 |
|---|---|---|---|
| 1. | Дэманструе гуманныя адносіны да вучняў | 22 | 21 |
| 2. | Стараецца для вучняў быць партнёрам (не дамінуе над дзецьмі, а разам з імі ў пошуку) | 2 | 4 |
| 3. | Дае вучням магчымасці выбару | 3 | 9 |
| 4. | Стварае праблемныя сітуацыі | 5 | 11 |
| 5. | Імкнецца арганізаваць пазнавальную дзейнасць саміх вучняў | 8 | 16 |
| 6. | Скіраваны на тое, каб зрабіць адукацыйны працэс прывабным і цікавым | 21 | 21 |
| 7. | Дэлегіруе вучням паўнамоцтвы самакантроля і самаацэнкі | 3 | 9 |

З табліцы відаць, што ёсць пэўныя змены ў пазіцыі настаўнікаў у адносінах да вучняў, да матэрыялу, які вывучаецца. У той жа час ёсць аспекты, якія за 10 гадоў істотна не змяніліся. Спынімся на некаторых з іх.

2. Будуе партнёрскія адносіны. Такія адносіны настаўніка і вучняў не могуць існаваць, калі прымяняецца аўтарытарная схема франтальнага (фронт – супрацьстаянне) “кіравання” классам. Пры ўсёй яе эканамічнасці і дэклараваемай эфектыўнасці, яна паступова губляе сваю ўніверсальнасць. Партнерскія адносіны існуюць, калі на ўроку прысутнічае дыялог. Асабліва яны праяўляюцца, калі настаўнік і вучні сумесна ажыццяўляюць пошук адказаў на пытанні (пры гэтым сам настаўнік адказаў не ведае), выконваюць даследаванні і ствараюць праекты. Спрацоўвае формула: не над дзецьмі, а разам з імі ў пошуку. Верагодна, ва ўмовах абмежаванага часу на конкурсных уроках было цяжка арганізаваць праектную і даследчую дзейнасць.

3. Прадстаўляе вучням магчымасці выбару. Гэта вырашае шмат задач: па-першае, дапамагае выхоўваць адказных людзей (хто выбірае, той і адказвае за свой выбар); па-другое, стымулюе пазнавальную актыўнасць вучняў; па-трэцяе, узбройвае навучэнцаў важнай кампетэнцыяй (выбіраць), якая актуальная ў сітуацыі

розных магчымасцей, поліфаніі думак, альтэрнатыўнасці варыянтаў дзейнасці і г. д. Добра, што тут назіраецца станоўчая дынаміка.

4. Стварае праблемныя сітуацыі, у якіх вучні бачаць пэўныя супярэчнасці, непаўнату ведаў, нечаканыя вынікі, парадаксальныя з'явы, доследы, ход якіх незразумелы і г. д. У сітуацыі кагнітыўнага дысанансу вучні адчуваюць нейкую нявызначанасць, дыскамфорт. У іх з'яўляецца жаданне вырашыць праблему. Арганізуецца адпаведны пошук. Акрамя дыдактычнага значэння, праблемнае навучанне мае значэнне сацыяльнае: дапамагае вуням набыць уменні вырашэння праблем. Дарэчы, алгарытм іх вырашэння мае ўніверсальны характар: аднолькавая этапнасць ёсць у вырашэнні і пазнавальных, і сацыяльных, і тэхнічных, і іншых праблем. Адзначаем пазітыўную дынаміку ў дадзеным аспекце дзейнасці настаўнікаў.

7. Дэлегіруе вучням паўнамоцтвы самакантролю і самаацэнкі. Сучасны свет характарызуецца мноствам альтэрнатыў, мноствам разнастайнай і супярэчлівай інфармацыі. У многіх выпадках чалавеку прыходзіцца самому ацэньваць сітуацыю, сваю дзейнасць і яе вынікі, каб прыняць адэкватнае рашэнне. Важна валодаць уменнямі і інструментарыем ацэначнай дзейнасці. Ад стылю ацэньвання ў многім залежыць тое, якімі скляліся ўзаемаадносіны настаўніка і вучняў, ці будзе забяспечана эмацыйна спрыяльнае асяроддзе для іх развіцця і як вынік – эффектыўнасць адукацыйнага працэсу. Больш таго, самакантроль і самаацэнка ствараюць ўмовы для выхавання ў вучняў адказнасці. Трэба вітаць, калі настаўнік арганізуе на ўроках ацэначную дзейнасць саміх навучэнцаў.

Такім чынам, пры аналізе табліц можна зрабіць выснову, што на конкурсных уроках назіраюцца пазітыўныя тэндынцыі, адпаведныя зменам ў грамадстве.

Было важна высветліць, указаныя тэндэнцыі характэрны толькі для конкурсных урокаў, ці таксама для масавай адукацыйнай практыкі? Каб адказаць на гэтае пытанне настаўнікам і наменснікам дырэктароў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі – слухачам павышэння кваліфікацыі ў АПА было прапанавана ў спісе характарыстык урокаў адзначыць тыя пазіцыі, якія істотна змяніліся ў іх практыцы за апошнія 10 гадоў. Па выніках апытання можна зрабіць вывад,

што і ў масавай практыцы назіраюцца падобныя тэндэнцыі. Але ў удзельнікаў конкурсу яны выглядаюць, як правіла, больш пераканаўча.

У адукацыйнай практыцы апошнім часам актыўна пяўляецца яшчэ адна тэндэнцыя: выхад за рамкі ўрочных заняткаў:

- шырэй выкарыстоўваюцца адукацыйныя падарожжы;
- выкарыстоўваецца дыстанцыйнае навучанне з дапамогай электроннай пошты і настаўніцкіх сайтаў і блогаў;
- ажыццяўляецца пазаўрочная праектная і даследчая дзейнасці вучняў;
- вучні ўключаюцца ў тэлекамунікацыйныя інтэрнэт-праекты і інш.

На заканчэнні артыкула важна адзначыць наступнае:

- удзельнікі конкурсу 2011 года не больш таленавітыя за ўдзельнікаў конкурсу 2001 года;
- назіраецца станоўчая дынаміка ў развіцці адукацыйнай практыкі;
- гэтыя трансфармацыі можна патлумачыць дынамікай развіцця грамадства, зменамі на рынку працы, інфарматызацыяй усіх сфер жыцця, назапашваннем пазітыўнага вопыту і навуковых ведаў пра адукацыйны працэс, падтрымкай адукацыйных ініцыятыў з боку органаў кіравання адукацыяй, сістэмы дадатковай адукацыі дарослых і рэгіянальных метадычных службаў і г. д.
- тэндэнцыі развіцця адукацыйнай практыкі ў нашай краіне знаходзяцца ў русле глабальных сацыяльных і адукацыйных тэндэнцый.

Тэма ўдасканалення ўрочных, факультатыўных заняткаў невычарпальная. У артыкуле нельга раскрыць усе аспекты праектавання, правядзення і аналізу ўрока. Таму рэкамендуюцца адпаведныя кнігі і артыкулы аўтара (*Запрудскі, М. І.* Актыўная ацэнка новая стратэгія навучанне / М. І. Запрудскі // Кіраванне ў адукацыі,

2012 – № 12. *Запрудский, Н. И.* Моделирование и проектирование авторских дидактических систем / Н. И. Запрудский. – Минск : Сэр-Вит, 2008. *Запрудский, Н. И.* Современные школьные технологии-2 / М. И. Запрудский. – Минск : Сэр-Вит, 2010), а таксама матэрыялы з вопыту работы настаўнікаў на сайце www.acenka.by.

# Ключавыя кампетэнцыі як крытэрыі якасці навучання

*Тамара Мацкевіч*

Тэма гэтага артыкула была выбрана для таго, каб дапамагчы разабрацца, якую адукацыю можна лічыць якаснай. Як памераць гэтую якасць?

Для ацэнкі якасці школьнай адукацыі ў Беларусі сёння выкарыстоўваюцца, як правіла, колькасныя крытэрыі:

* колькі адсоткаў вучняў вучыцца не ніжэй, чым на 6;
* колькі пераможцаў алімпіяд;
* колькі пераможцаў конкурсаў даследчых работ і г. д.

Аднак само слова "якасць" патрабуе больш грунтоўнага і шырокага падыходу для вызначэння гэтага паняцця.

Логіка і здаровы сэнс падказвае, што якаснай адукацыю можна лічыць, калі яна адпавядае патрэбам індывіда, які яе набывае, а таксама патрэбам грамадства і часу. Аднак нарматыўныя акты Беларусі з гэтым не зусім згодныя. Якасць адукацыі, паводле Кодэкса аб адукацыі Рэспублікі Беларусь, – гэта "адпаведнасць адукацыі патрабаванням адукацыйнага стандарту, вучэбна-праграмнай дакументацыі адпаведнай адукацыйнай праграмы"[1].

Выходзіць, што адукацыйныя патрэбы беларусаў вызначае стандарт і дакументацыя. Але наколькі кваліфікаваныя людзі зацвярджаюць стандарт? Ці ўлічвае той стандарт хуткія змены рынку працы, ці здольны ён змяняцца, адпаведна патрэбам навучэнца? Ці можа сам суб'ект навучання ўплываць на стандарт і фармаваць свае патрэбы? І, нарэшце, як суадносіцца нашыя

1 Кодекс Республики Беларусь об образовании, 13 января 2011 г. № 243-З, http://www.pravo.by/main.aspx?guid=3871&p0=Hk1100243&p2={NRPA}

крытэрыі якасці з тымі крытэрыямі, якія існуюць у нашых бліжэйшых суседзяў.

Прагледзеўшы 352-старонкавы Кодэкс аб адукацыі, які рэгламентуе ўсю адукацыйную дзейнасць, высветлілася, што пытанню якасці адукацыі ў дакуменце прысвечана аж... паўстаронкі (для параўнання, дысцыплінарным пакаранням навучэнцаў вылучаны цэлы раздзел).

Тэрмін “якасць адукацыі” сустракаецца ў новым Кодэксе 21 раз, паняцце “кампетэнтнасны падыход” – 1 раз (дзякуй і за гэта!), “веды” – 43, “уменні” – 21, “каштоўнасці” – 14, “выбар” – 14. Затое выраз “асаблівасці псіха-фізічнага развіцця” – 115 разоў, “спорт” – 86, “здароўе” – 211, “кантроль” – 68, “парушэнне” – 165, “пакаранне” - 38, “заахвочванне” – 4.

Ці можна казаць пра якасць галоўнага адукацыйнага заканадаўчага дакумента, дзе слова “веды” сустракаецца ў 2 разы менш, чым слова “спорт”?!

Таму далей гаворка пойдзе пра крытэрыі якасці навучання, якія прынятыя ў сучасным свеце і зацверджаны ў дакументах Еўрасаюза. Для напісання гэтага артыкула выкарыстаны “Рэкамендацыі Еўрапарламента і Савета Еўропы аб ключавых кампетэнцыях навучання на працягу жыцця”[2] а таксама дакументы канферэнцыі “Падрыхтоўка і перападрыхтоўка настаўнікаў у Арменіі, Азербайджане, Беларусі, Грузіі, Малдове і Украіне”, якая прайшла пры падтрымцы Еўракамісіі ў Баку 11 - 13 кастрычніка 2011 года.

**Чаму кампетэнтнасны падыход?**

Сучасны лад жыцця характарызуецца:

- выключным дынамізмам;
- адыходам ад індустрыяльнага і традыцыйнага грамадства;

2 Рэкамендацыі Еурапарламента і Савета Еўропы аб ключавых кампетэнцыях навучання на працягу жыцця (2006/962/ЕС)
Recommendation on key competences for lifelong learning, (2006/962/EC), 18.12.2006
http://eur-lex.europa.eu/LexUriServ/site/en/oj/2006/l_394/l_39420061230en00100018.pdf

- наяўнасцю шырокага спектра выбару;

- уплывам глабалізацыі, дасягненняў у галіне інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій;

- адыходам ад патрыярхальнай сям'і.

У такіх умовах ад выпускніка школы ці ВНУ патрабуюцца зусім іншыя якасці, чым пару дзясяткаў год таму. Пры гэтым вельмі цяжка спрагназаваць, якія веды і ўменні прыдадуцца выпускніку праз 10 - 15 год.

Новыя патрабаванні грамадства і рынку працы пацягнулі за сабой і новы падыход да адукацыі.

Паколькі глабалізацыя працягвае ставіць перад грамадствам новыя задачы, кожнаму грамадзяніну спатрэбіцца валоданне шырокім колам кампетэнцый, каб гнутка адаптавацца да зменлівага ўзаемазвязанага свету.

Менавіта таму сёння ва ўсім цывілізаваным свеце прыняты кампетэнтнасны падыход да ацэнкі якасці навучання.

**Што ж такое кампетэнцыі?**

Некалі кіраўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі Чэхіі прывёў прыклад, які добра ілюструе розніцу паміж ведамі і ўменнямі, якія дае сённяшняя школа, – і кампетэнцыямі: для кіравання машынай кіроўцу патрэбныя веды правілаў дарожнага руху, уладкавання машыны, навыкі націскання педаляў і рычагоў. Але гэтага недастаткова, каб добра ездзіць у вялікім горадзе – тут патрэбныя кампетэнцыі. У дадатак, патрабаванні сучаснага свету палягаюць на тым, каб кіроўца аднолькава камфортна пачуваўся на вуліцах Лондана, Мінска і Нью-Ёрка. Кіроўцу будзе неабходны цэлы комплекс кампетэнцый: моўных, інфармацыйных, міжкультурных.

Выснова напрошваецца сама: кампетэнцыі набываюцца праз дзеянні. Таму і якасць адукацыі павінна ацэньвацца тым, што наш вучань умее рабіць. А якасны ўрок у сучасным разуменні – гэта арганізаваная настаўнікам дзейнасць вучняў па набыцці ключавых кампетэнцый.

*Ключавыя кампетэнцыі*, паводле вызначэння, дадзенага ў Рэкамендацыях Еўрапарламента і Савета Еўропы, – гэта сістэма ведаў, уменняў і каштоўнаснага стаўлення, патрэбная для жыцця ў сучасным грамадстве. Да гэтай сістэмы яшчэ дадаецца крытычнае мысленне, крэатыўнасць, уменне вырашаць праблемы, прымаць рашэнні, уменне кіраваць сваімі эмоцыямі і г. д.

Ключавыя кампетэнцыі – гэта крытэрыі, якія вызначаюць якасць навучання. А якасць навучання ў сённяшніх дакументах Еўрасаюза разглядаецца, як мінімум, з трох перспектываў:

*Індывідуальная перспектыва:*

- паўнавартаснасць (завершанае фармаванне) асобы;
- сацыяльная інклюзіўнасць і актыўная грамадзянскасць;
- працаўладкаванне (занятасць), кар’ера.

*Перспектыва для грамадства:*

- канструктыўная дэмакратыя.

*Перспектыва рынку працы:*

- навыкі для інавацый.

**Ключавыя кампетэцыі**

Савет Еўропы і Еўрапарламент распрацавалі Рамачныя ўстаноўкі, якія вылучаюць восем груп ключавых кампетэнцый, неабходных для самарэалізацыі, сацыяльнай згуртаванасці і магчымасці працаўладкавання ў сучасным грамадстве ведаў:

1. Валоданне роднай мовай;
2. Камунікацыя на замежных мовах;
3. Матэматычная пісьменнасць і базавыя кампетэнцыі ў навуцы і тэхналогіі;
4. Камп’ютарная (інфармацыйная) пісьменнасць;
5. Засваенне навыкаў навучання;
6. Сацыяльныя і грамадзянскія кампетэнцыі;

7. Наватарства, ініцыятыўнасць і прадпрымальнасць;

8. Дасведчанасць і здольнасць выяўляць сябе ў культурнай сферы.

На аснове «Рэкамендацыі Еўрапарламента і Савета Еўропы аб ключавых кампетэнцыях навучання на працягу жыцця», кожная краіна можа скласці свой спіс ключавых кампетэнцый. Прыкладам, Чэхія вызначыла шэсць груп ключавых кампетэнцый, паводле якіх і ацэньвае якасць навучання. Беларусь пакуль не мае акрэсленай афіцыйнай пазіцыі, хоць пераход да кампетэнтнаснага падыходу ацэнкі якасці навучання задэкларaваны ў Адукацыйным кодэксе. Пра кампетэнтнасны падыход у педагагічнай супольнасці гаворыцца даўно, але дакладныя рамкі не вызначаны, і кожны беларускі настаўнік можа (і мусіць!) сам вырашыць, на што ён павінен звярнуць увагу, каб вучні набывалі адпаведныя часу і патрэбныя для самарэалізацыі якасці. Не дарма ж кажуць, што ніводная адукацыйная рэформа не адбылася без змены ў свядомасці настаўніка.

Хочацца звярнуць увагу беларускіх педагогаў, што вялікае значэнне ў еўрапейскай адукацыі надаецца каштоўнасным арыенцірам: каштоўнаснае стаўленне – аснова, на якой трымаецца дэмакратычны лад кіравання і еўрапейская цывілізацыя цалкам.

Разгледзім больш дэтальна, што закладзена ў кожную з гэтых васьмі груп ключавых кампетэнцый.

**1. Валоданне роднай мовай** – здольнасць выразіць думкі, пачуцці, факты ў вуснай і пісьмовай форме ў любых сітуацыях.

*Веды, уменні:*

Камунікацыя на роднай мове патрабуе ад індывіда ведання слоўніка, граматыкі і функцый мовы. Яна ўключае ўяўленні пра асноўныя тыпы вербальнага ўзаемадзеяння, пра шэраг літаратурных і нелітаратурных тэкстаў, пра асноўныя рысы розных стыляў і ўзроўняў мовы, а таксама пра варыятыўнасць мовы і камунікацыі ў розных кантэкстах.

Індывід павінен валодаць навыкамі як вуснай, так і пісьмовай камунікацыі ў розных камунікацыйных сітуацыях, адсочваць і адаптаваць сваю камунікацыю да патрабаванняў сітуацыі. Гэтая кампетэнцыя ўключае таксама ўменне адрозніваць і выкарыстоўваць роз-

ныя тыпы тэкстаў, каб шукаць, збіраць і апрацоўваць інфармацыю, карыстацца дапамогай, фармуляваць і выяўляць свае вусныя і пісьмовыя аргументы пераканаўчым чынам, згодна з кантэкстам.

*Каштоўнаснае стаўленне:*

Станоўчае стаўленне да камунікацыі на роднай мове, гатовасць да крытычнага і канструктыўнага дыялогу, разуменне эстэтычных якасцей ды імкненне да іх, а таксама цікавасць да ўзаемадзеяння з іншымі, уяўленне пра ўплыў мовы на іншых.

**2. Камунікацыя на замежных мовах** – дыялог, мадэрацыя і міжкультурнае разуменне.

*Веды, уменні:*

Кампетэнтнасць у замежных мовах патрабуе ведання слоўніка і граматыкі, а таксама ўяўлення пра асноўныя тыпы вербальнага ўзаемадзеяння і моўных стыляў. Важна таксама веданне сацыяльных умоўнасцей, культурных аспектаў і культурнай разнастайнасці.

Неабходнымі навыкамі для камунікацыі на замежных мовах ёсць уменне разумець вусныя выказванні, ініцыяваць, падтрымліваць і завяршаць гутаркі, а таксама чытаць, разумець ды ствараць тэксты згодна з патрэбамі індывіда. Таксама індывід павінен умець выкарыстоўваць належным чынам дапамогу і вывучаць мовы нефармальна, як частку навучання на працягу жыцця.

*Каштоўнаснае стаўленне:*

Павага да культурнай разнастайнасці, а таксама цікавасць ды цікаўнасць да моў і міжкультурнай камунікацыі.

**3. Матэматычная пісьменнасць і базавыя кампетэнцыі ў навуцы і тэхналогіі.**

- здольнасць вырашаць задачы ў штодзённай сітуацыі: акцэнт на працэс і дзейнасць, а таксама на веды;

- здольнасць тлумачыць прыродны свет, рабіць заключэнні, якія грунтуюцца на відавочным; разумець, як змены, выкліканыя дзей-

насцю чалавека, так і адказнасць кожнага грамадзяніна за гэтыя змены.

*Веды, уменні:*

Неабходныя веды ў матэматыцы ўключаюць грунтоўнае веданне лічбаў, мераў і структур, базавых аперацый і базавых матэматычных выразаў, разуменне матэматычных тэрмінаў і паняццяў, а таксама веданне пытанняў, на якія матэматыка можа прапанаваць адказы. Індывід павінен валодаць уменнямі ўжываць базавыя матэматычныя прынцыпы і працэсы ў паўсядзённым кантэксце дома і на працы, а таксама праводзіць і ацэньваць ланцужкі аргументаў. Індывід павінен быць здольны ды матэматычных развагаў, разумець матэматычныя доказы, размаўляць на мове матэматыкі, а таксама карыстацца адпаведным апаратам.

У сферы навукі і тэхналогіі неабходныя веды складаюцца з базавых прынцыпаў прыроднага свету, фундаментальных навуковых паняццяў, прынцыпаў і метадаў, тэхналогій, тэхналагічных прадуктаў і працэсаў, а таксама ўключаюць разуменне ўплыву навукі і тэхналогій на прыродны свет. Гэтыя кампетэнцыі павінны спрыяць лепшаму разуменню індывідам дасягненняў, абмежаванняў і рызыкаў навуковых тэорый, іх ужывання ў тэхналогіі, у тым ліку для ўплыву на грамадства (у дачыненні да прыняцця рашэнняў, да каштоўнасцей, маральных пытанняў, культуры і г. д.).

Навыкі ўключаюць здольнасць выкарыстоўваць і ўжываць тэхналагічныя прылады і машыны, а таксама навуковыя звесткі для дасягнення мэт або здзяйснення заснаваных на доказах рашэнняў або высноў. Індывід таксама павінен умець распазнаваць асноўныя рысы навуковага даследавання і паведамляць высновы і падставы, якія прывялі да іх.

*Каштоўнаснае стаўленне:*

Грунтуецца на павазе да ісціны, на імкненні да пошуку доказаў і ацэнкі іх правільнасці. Кампетэнцыя ўключае крытычную ацэнку і дапытлівасць, цікавасць да этычных пытанняў і павагу як да бяспекі, так і да ўстойлівасці (напрыклад, стаўленне да навуковага і тэхналагічнага прагрэсу з гледзішча сваіх, сямейных, супольных, глабальных інтарэсаў).

**4. Камп'ютарная (інфармацыйная) пісьменнасць** – уключае свядомае і крытычнае карыстанне тэхналогіямі інфармацыйнага грамадства для працы, вольнага часу, зносінаў, камунікацыя і ўдзел у карпарацыйных сетках праз інтэрнэт.

*Веды, уменні:*

Камп'ютарная пісьменнасць вымагае добрага разумення і ведання прыроды, ролі і магчымасцей тэхналогій інфармацыйнага грамадства (ТІГ) у паўсядзённым кантэксце: у асабістым і грамадскім жыцці ды на працы. Яна ўключае асноўныя камп'ютарныя праграмы: тэкставыя рэдактары, табліцы, базы звестак, захоўванне і кіраванне інфармацыяй, а таксама разуменне магчымасцей і па-




тэнцыйных рызыкаў інтэрнэту і электронных камунікацый (электронная пошта, сацыяльныя сеткі) для працы, вольнага часу, абмену інфармацыяй і супрацоўніцтва, навучання і даследаванняў. Індывіды павінны разумець, як ТІГ могуць падтрымліваць творчасць і наватарства, быць дасведчанымі ў пытаннях надзейнасці даступнай інфармацыі, а таксама мець уяўленне наконт прававых і этычных прынцыпаў інтэрактыўнага карыстання ТІГ. Неабходныя навыкі ўключаюць здольнасць пошуку, збору і апрацоўкі інфармацыі

і выкарыстанне яе крытычным і сістэматычным чынам, з ацэнкай рэлевантнасці і адрозніваннем рэальнага ад віртуальнага пры карыстанні спасылкамі. Індывіды мусяць мець навыкі карыстання інструментамі для вытворчасці, прэзентацыі ды разумення складанай інфармацыі, а таксама здольнасць атрымліваць доступ, шукаць і карыстацца паслугамі інтэрнэту. Індывіды павінны таксама быць здольныя выкарыстаць ТІГ для падтрымкі крытычнага мыслення, творчасці і наватарства.

*Каштоўнаснае стаўленне:*

Крытычнае і рэфлексіўнае стаўленне да даступнай інфармацыі і адказнае выкарыстанне інтэрактыўных сродкаў інфармацыі. Цікавасць і далучэнне да справаў супольнасцей ды сетак з культурнымі, сацыяльнымі і/ці прафесійнымі мэтамі.

**5. Засваенне навыкаў навучання:**

– уменне знайсці, апрацаваць і засвоіць новыя веды і ўменні; уменне кіраваць працэсам сваго навучання;

– здольнасць займацца і ўпарта працягваць навучанне як індывідуальна, так і ў групах, валодаць навыкамі тайм-менеджменту, пошуку інфармацыі, усведамленне неабходнасці навучання, вызначэнне дасягальных магчымасцей, здольнасць пераадольваць перашкоды.

*Веды, уменні:*

Індывід павінен мець веды пра запатрабаваныя кампетэнцыі, веды, навыкі і кваліфікацыю. Ва ўсіх выпадках засваенне навыкаў навучання патрабуе, каб індывід ведаў і разумеў свае прыярытэтныя стратэгіі навучання, моцныя ды слабыя бакі сваіх навыкаў і кваліфікацый, а таксама быў здольны да пошуку магчымасцей адукацыі і навучання, даступнага кіравання або дапамогі.

Засваенне навыкаў навучання патрабуе, найперш, набыцця такіх фундаментальных базавых навыкаў, як моўная пісьменнасць, матэматычная пісьменнасць і ТІГ, якія неабходныя для далейшага навучання. На грунце такіх навыкаў індывід будзе здольны

атрымаць доступ, набыць, апрацаваць і засвоіць новыя веды і навыкі. Гэта патрабуе эфектыўнага кіравання працэсам уласнага навучання, схемамі кар’еры ды працы і, у прыватнасці, здольнасці быць настойлівым у вучобе, канцэнтравацца доўгі час і крытычна рэфлексаваць наконт мэт і задач вучобы. Індывід павінен умець вучыцца самастойна і дысцыплінавана, але адначасова быць здольны да супрацы ў навучальным працэсе, знаходзіць перавагі ў неаднароднай групе і дзяліцца тым, што ён ужо вывучыў. Індывід павінен быць здольны арганізаваць уласнае навучанне, ацаніць уласную працу, а таксама шукаць рады, інфармацыі і падтрымкі, калі гэта неабходна.

*Каштоўнаснае стаўленне:*

Матываванасць і ўпэўненасць у неабходнасці навучацца на працягу жыцця. Здольнасць мець справу з перашкодамі і зменамі. Жаданне выкарыстоўваць атрыманыя раней веды і жыццёвы досвед для пошуку магчымасцей для навучання і ў разнастайных жыццёвых сітуацыях.

**6. Сацыяльныя і грамадзянскія кампетэнцыі** – уключаюць пазітыўную сацыяльную, культурную і інтэркультурную камунікацыю, канструктыўны ўдзел у сацыяльным і працоўным жыцці. Веды канцэпцый дэмакратыі, правоў чалавека.

*Веды, уменні:*

А. Сацыяльная кампетэнцыя звязаная з асабістым і грамадскім дабрабытам, які патрабуе разумення таго, як індывіды могуць забяспечыць сваё аптымальнае псіхічнае і фізічнае здароўе, а таксама ведаў, як здаровы лад жыцця можа гэтаму спрыяць. Для паспяховага міжасабовага і грамадскага ўдзелу неабходна разуменне нормаў паводзін і манер, агульнапрынятых у розных грамадствах і сферах (напрыклад, на працы). Таксама важна быць дасведчаным у базавых паняццях, датычных асобы, груп, працоўных калектываў, грамадстваў, культур гендарнай роўнасці і недапушчэнні дыскрымінацыі. Ключавым з’яўляецца разуменне мультыкультурных і сацыяльна-эканамічных характарыстык

еўрапейскіх грамадстваў і таго, як культурная нацыянальная ідэнтычнасць стасуецца з еўрапейскай ідэнтыфікацыяй.

Ключавыя навыкі гэтых кампетэнцый уключаюць здольнасць мець канструктыўныя стасункі ў розных сферах, дэманстраваць талерантнасць, выяўляць і разумець розныя пункты гледжання, весці перамовы, ствараць атмасферу даверу і спагады. Індывід павінен быць здольны спраўляцца са стрэсам і пачуццём фрустрацыі, канструктыўным чынам выяўляць іх, павінен рабіць адрозненне паміж асабістай і прафесійнай сферамі.

B. Грамадзянскія кампетэнцыі грунтуюцца на веданні паняццяў дэмакратыі, справядлівасці, роўнасці, грамадзянства і грамадзянскіх правоў, уключна з тэкстам “Хартыі аб фундаментальных правах у Еўрапейскай супольнасці” і міжнародных дэкларацый, а таксама на веданні таго, як яны выкарыстоўваюцца рознымі інстытутамі на мясцовым, рэгіянальным, нацыянальным, еўрапейскім і міжнародным узроўнях. Яны ўключаюць веданне як сучасных падзей, так і асноўных падзей і тэндэнцый нацыянальнай, еўрапейскай і сусветнай гісторыі. Дадаткова павінна быць сфармавана ўяўленне пра мэты, каштоўнасці і палітыку грамадскіх і палітычных рухаў. Таксама вельмі важнае веданне працэсу еўрапейскай інтэграцыі і еўрапейскіх структур, асноўных мэт і каштоўнасцей, а таксама ўяўленне пра разнастайнасць і культурную ідэнтычнасць ў Еўропе.

Навыкі ў сферы грамадзянскіх кампетэнцый звязаны са здольнасцю эфектыўна ўзаемадзейнічаць з іншымі ў публічнай сферы і дэманстраваць салідарнасць ды зацікаўленасць у вырашэнні праблем, якія ўплываюць на мясцовыя і шырэйшыя супольнасці. Яны ўключаюць крытычную і творчую рэфлексію, а таксама канструктыўны ўдзел як у дзейнасці супольнасцяў, так і ў прыняцці рашэнняў на ўсіх узроўнях, уключна з галасаваннем.

*Каштоўнаснае стаўленне:*

Поўная павага да правоў чалавека, уключна з роўнасцю як асновай дэмакратыі, павагай і разуменнем адрозненняў паміж сістэмамі каштоўнасцей розных рэлігійных і этнічных груп. Гэта азначае як пачуццё прыналежнасці да сваёй мясцовасці, краіны, Еўропы, свету, так і жаданне ўдзельнічаць у дэмакратычным прыняцці рашэнняў на

ўсіх узроўнях. Пачуццё адказнасці, разуменне і павага да агульных каштоўнасцей, такіх, як павага дэмакратычных прынцыпаў, неабходных для сацыяльнай згуртаванасці. Канструктыўны ўдзел уключае таксама грамадскую дзейнасць, падтрымку сацыяльнай разнастайнасці і згуртаванасці і ўстойлівага развіцця, гатовасць паважаць каштоўнасці і прыватнае жыццё іншых людзей.

**7. Наватарства, ініцыятыўнасць і прадпрымальнасць:**

– здольнасць пераўтвараць ідэі ў дзеянні, уключае крэатыўнасць, інавацыі і ўменне ісці на рызыку, здольнасць планаваць і кіраваць праектамі.

*Веды, уменні:*

Неабходныя веды ўключаюць здольнасць выяўляць даступныя магчымасці для асабістай, прафесійнай дзейнасці і/ці бізнесу, у тым ліку "вялікую карціну" пытанняў, якія вызначаюць кантэкст жыцця і працы людзей, напрыклад, разуменне працы эканомікі, магчымасці і выклікі, якія стаяць перад наймальнікам або арганізацыяй. Індывід павінен усведамляць этычную пазіцыю прадпрыемстваў і тое, як яны могуць служыць дабру – напрыклад, сумленны гандаль або сацыяльнае прадпрыемства.

Навыкі звязаныя з праактыўным кіраваннем праектамі (у тым ліку, напрыклад, здольнасць планаваць, арганізоўваць, кіраваць, узначальваць, дэлегаваць, аналізаваць, мець зносіны, атрымліваць інфармацыю, ацэньваць і весці ўлік), эфектыўнай прэзентацыяй і перамовамі, здольнасцю працаваць як індывідуальна, так і ў камандзе. Здольнасці аналізаваць, выяўляць моцныя і слабыя бакі, ацэньваць ды ісці на рызыкі ў адпаведных выпадках з'яўляюцца ключавымі.

*Каштоўнаснае стаўленне:*

Разуменне этычных нормаў і каштоўнасцей, падтрымка добрага кіравання. Прадпрымальніцкае стаўленне вызначаецца ініцыятыўнасцю, актыўнасцю, незалежнасцю і наватарствам у асабістым і грамадскім жыцці, а таксама ў працы. Яно таксама ўключае матывацыю і рашучасць у дасягненні мэт.

**8. Дасведчанасць і здольнасць выяўляць сябе ў культурнай сферы** – прызнанне важнасці творчага выяўлення ідэй, досведу і эмоцый у медыях, музыцы, выяўленчым мастацтве, літаратуры і сінтэзаваных мастацтвах (тэатры, кіно).

Мастацтва, музыка павінны мець месца ў школьнай праграме, але не павінны мець высокага прыярытэту, патэнцыял маюць усе прадметы, інтэграванае навучанне.

*Веды і ўменні:*

Дасведчанасць у культуры ўключае веданне мясцовай, нацыянальнай і еўрапейскай культурнай спадчыны ды іх месца ў свеце. Яна ўключае веданне асноўных твораў культуры, разам з сучаснай папулярнай культурай. Важна разумець культурную і моўную разнастайнасць у Еўропе і іншых рэгіёнах свету, неабходнасць іх захоўвання і важнасць эстэтычных фактараў у паўсядзённым жыцці.

Навыкі тычацца як ацэнкі, так і выяўлення: ацэнка і асалода ад твораў мастацтва, а таксама самавыяўленне праз розныя сродкі з выкарыстаннем уласных здольнасцей. Навыкі ўключаюць таксама здольнасць выяўляць уласныя творчыя і выразныя пункты гледжання на меркаванні іншых і рэалізоўваць сацыяльныя і эканамічныя магчымасці ў культурнай дзейнасці.

Выяўленне сябе ў культурнай сферы важнае для развіцця творчых навыкаў, якія могуць быць рэалізаваныя ў разнастайных прафесійных кантэкстах.

*Каштоўнаснае стаўленне:*

Добрае разуменне ўласнай культуры і пачуццё ідэнтычнасці – аснова для павагі да разнастайнасці спосабаў выяўлення ў культуры. Пазітыўнае стаўленне ўключае таксама творчасць і жаданне развіваць эстэтычныя здольнасці праз мастацкае самавыяўленне і ўдзел у культурным жыцці.

## Роля ацэнкі ў павышэнні якасці навучання

Сучасная парадыгма адукацыі вымагае не толькі новага метадычнага падыходу і арганізацыі вучэбнага працэсу, але і новай сістэмы ацэнкі якасці адукацыі.

У мінулым у асноўным дамінавала падсумоўчая ацэнка (тэст, адзнака) з акцэнтам на трансляцыю ведаў ды іх узнаўленне.

Сёння ўзнікла патрэба выпрацоўкі ацэнкі ўсяго спектра кампетэнцый, прычым некаторыя з кампетэнцый перакрыжаваныя (інтэграваныя ключавыя кампетэнцыі).

Таму ацэнка павінна даваць карысную інфармацыю для тых, хто вучыцца, і для тых, хто навучае, каб палепшыць працэс навучання. Еўрапейскія краіны актыўна пераходзяць ад падсумоўчай ацэнкі (summative assessment) да актыўнай ацэнкі (formative assessment).

Якасная ацэнка – гэта:

- вучнецэнтрычная ацэнка;
- ацэнка навучання;
- ацэнка для навучання;
- ацэнка як частка навучання.

Сучасная тэндэнцыя ацэначнай дзейнасці адыходзіць ад бачання таго, што было ў мінулым, да бачання таго, што трэба для будучыні.

Беларускія настаўнікі ўжо пачалі выкарыстоўваць прынцыпы актыўнай ацэнкі і атрымалі добрыя вынікі. З імі можна пазнаёміцца на сайце www.aacenka.by, дзе педагогі абменьваюцца матэрыяламі, досведам, вынікамі.

## Школа як навучальная супольнасць

Толькі школа як навучальная супольнасць можа забяспечыць авалоданне ключавымі кампетэнцыямі.

Навучальная супольнасць мае на ўвазе:

Візію: распаўсюджвае каштоўнасці, мэты, чаканні і патрэбы ў кампетэнцыях.
Лідарства: размяркоўвае "інструменты і адказнасці для навучання".
Характар: адкрыты, базуецца на дыялогу, прафесійны, факусуецца на ўзаемным навучанні.
Якасці настаўніка: інфармаваны, выклікае давер, супрацоўнічае, эксперт, носьбіт і распаўсюднік каштоўнасцей.

**Як ацаніць якасць адукацыі**

Існуе шмат спосабаў ацаніць вынікі адукацыйнай працы. Самай аўтарытэтнай ў свеце лічыцца Міжнародная праграма ацэнкі адукацыйных дасягненняў вучняў (PISA), якая забяспечвае самы шырокі ў свеце і строгі набор міжнародных даследаванняў па ацэнцы ведаў і ўменняў вучняў сярэдніх школ. Ключавое пытанне даследавання – "Ці валодаюць навучэнцы 15-гадовага ўзросту, якія атрымалі агульную абавязковаую базавую адукацыю, ведамі і ўменнямі, неабходнымі ім для паўнавартаснага функцыянавання ў грамадстве?". Даследаванне PISA скіравана не на вызначэнне ўзроўню засваення школьных праграм, а на ацэнку здольнасці навучэнцаўвыкарыстоўваць атрыманыя ў школе веды і ўменні ў жыццёвых сітуацыях. У гэтым адлюстроўваюцца сучасныя тэндэнцыі ў ацэнцы адукацыйных дасягненняў.

PISA праводзіць даследаванні раз на тры гады. У запланаваных на 2012 г. Даследаваннях прымуць удзел 67 краін свету, Беларусі там не будзе, бо для ўдзелу краіны, якія зацікаўленыя ў аб'ектыўнай ацэнцы школьнай адукацыі і шляхах яе паляпшэння, мусілі падаць заяўкі да сакавіка 2010 г. Беларусь заяўкі не падала.

Нашая краіна, відаць, пакуль не зацікаўлена аб'ектыўна паглядзець на сябе ў люстэрка, убачыць хібы адукацыі, перавагі і шляхі паляпшэння. Аднак кожная школа ці настаўнік з дапамогай пашукавіка Google можа знайсці і спампаваць заданні, якія распрацоўваюць міжнародныя эксперты, пераняць падыходы, самастойна наблізіцца да сучасных тэндэнцый і зрабіць навучанне больш якасным. Не дарма ж сярод ключавых кампетэнцый ёсць ініцыятыўнасць і навучанне на працягу ўсяго жыцця.

не ведае, што па-беларуску будзе не *«збор кофе»*, а толькі *«збор кававых бабоў»*; што ЗША – гэта *«НАЙбуйнейшая»* (а не проста *«буйнейшая»*) з гледзішча эканомікі краіна ў Паўночнай Амерыцы). Асабліва, аднак, расчароўвае зроблены М. Страхой пераклад зусім нядаўна выдадзенага дапаможніка «Грамадазнаўства. 11 клас» [8]. Што праўда, тут нехта можа запярэчыць: маўляў, руская версія кнігі напісана выключна... нават не «суконнай», а «дубовай» мовай і нагадвае афіцыёзныя старонкі «Советской Белоруссии». Разам з тым, пэўныя намаганні перакладчыка ўсё-ткі маглі б хоць крыху падправіць арыгінал. Выразы накшталт *«палітыка беларускай дзяржавы нацэлена...»*, *«заканадаўства не ўтрымлівае вызначэння...»* або *«адной з найважнейшых задач з'яўляецца...»*, безумоўна, можна было б і збеларусіць, але перакладчык, відаць, па-сапраўднаму такой мэты сабе і не ставіў.

*Пераклады Т. Р. Сяржант і Л. А. Цімафеевай.*

Т. Сяржант паўдзельнічала ў перакладзе вучэбных дапаможнікаў па досыць аддаленых адна ад адной дысцыплінах. Самастойна яна пераклала падручнік па фізіцы для 7 класа [10], а разам са сваёй калегай адзначылася і перакладам дапаможніка па сусветнай гісторыі для 7 класа [6]. У межах тэрміналагічнай парадыгмы, прынятай дэ-факта ў існуючых школьных падручніках фізікі, пераклад Т. Сяржант у цэлым падаецца лепшым за вышэйзгаданыя пераклады дапаможнікаў па фізіцы, выкананыя Н. Ляўчук. Вядома, пры гэтым мне цяжка пагадзіцца з выразамі накшталт: *«Зрабіце вывад аб суадносіне сіл, што дзейнічаюць на блок»* [10, с. 165]. Не так шмат відавочных недахопаў утрымлівае і тэкст дапаможніка па сусветнай гісторыі: у сваёй большасці гэтыя хібы выпраўляюцца простай заменай аднаго слова на другое.

Падсумоўваючы сказанае, нельга не прыйсці да наступных высноў:

- і Міністэрства адукацыі, і Нацыянальны інстытут адукацыі, відавочна, не ўсведамляюць праблему дасканалай арганізацыі навучання ў і без таго нешматлікіх беларускамоўных сярэдніх школах, гімназіях, ліцэях;
- нягледзячы на тое, што Міністэрства адукацыі РБ выдала нямала дакументаў аб «моўным і арфаграфічным рэжыме», яно, у

прыватнасці, само не выконвае функцыі моўна-арфаграфічнага кантролю за якасцю выдаванай па-беларуску вучэбнай літаратуры; гэта ж, у сваю чаргу, вядзе да далейшага зніжэння ўзроўню моўнай культуры сярод тых настаўнікаў, якія павінны выкладаць і весці выхаваўчую працу па-беларуску;

- праблема выдання якаснай беларускамоўнай вучэбнай літаратуры не стаіць на парадку дня дзейнасці гэтых устаноў;
- ніякім чынам не стымулюецца напісанне падручнікаў, навучальных дапаможнікаў у арыгінале на беларускай мове;
- беларускія адукацыйныя чыноўнікі перакананыя, што перакладам рускамоўных рукапісаў на беларускую мову сфармуляваная вышэй праблема можа быць вырашаная цалкам;
- якасць перакладаў вучэбнай літаратуры на беларускую мову фактычна не кантралюецца нікім: усё гэта аддадзена на водкуп выдавецкім рэдактарам, сярод якіх трапляецца нямала выпадковых людзей;
- заказы на пераклады вучэбнай літаратуры не размяшчаюцца сярод тых, хто мае багаты досвед выкладання па-беларуску адпаведнай дысцыпліны; да гэтай справы практычна не прыцягваюцца ні навукоўцы, якія працуюць у Акадэміі навук або ў ВНУ краіны, і прафесійныя літаратары-перакладчыкі.

## Выкарыстаныя крыніцы

### *а) Аналізаваныя падручнікі або вучэбныя дапаможнікі*

1. Алгебра. 9 клас / Пад рэд. Л. Б. Шнэпермана. (Пераклад Н. М. Алганавай). Мн.: Нар. асвета, 2008.

2. Белазаровіч В. А., Крэнь І. П., Ганушчанка Н. М. Гісторыя Беларусі: Другая палова XVI – XVIII ст. 8 клас. Мн.: Выд цэнтр БДУ, 2010.

3. Галай І. П. і інш. Пачатковы курс геаграфіі. 6 клас. (Пераклад М. Л. Страхі). Мн.: Нар. асвета, 2010.

4. Геаграфія мацерыкоў і краін. 8 клас / Пад рэд. П. С. Лопуха. (Пераклад М. Л. Страхі). Мн.: Нар. асвета, 2009.

5. Гісторыя старажытнага свету. 5 клас. Ч. 1 (Пераклад В. А. Рабкова). Ч. 2. / Пад рэд У. С. Кошалева. Мн.: Нар. асвета, 2009.

6. Гісторыя сярэдніх вякоў. 7 клас / Пад рэд. В. А. Фядосіка.

(Пераклад Т. Р. Сяржант, Л. А. Цімафеевай). Мн.: Нар. асвета, 2009.

7. Грамадазнаўства. 10 клас / Пад рэд. М. І. Вішнеўскага. (Пераклад Т. А. Світы, М. В. Супрунчука). Мн.: Нар. асвета, 2009.

8. Грамадазнаўства. 11 клас / Пад рэд. М. І. Вішнеўскага. (Пераклад М. Л. Страхі). Мн.: Нар. асвета, 2010.

9. Забароўскі Г. А., Лапо А. І., Пупцаў А. Я. Інфарматыка. 9 клас. (Пераклад Н. М. Алганавай). Мн.: Нар. асвета, 2009.

10. Ісачанкава Л. А., Ляшчынскі Ю. Д. Фізіка. 7 клас. (Пераклад Т. Р. Сяржант). Мн.: Нар. асвета, 2009.

11. Ісачанкава Л. А., Ляшчынскі Ю. Д. Фізіка. 8 клас. (Пераклад Н. Г. Ляўчук). Мн.: Нар. асвета, 2010.

12. Ісачанкава Л. А., Пальчык Г. У., Сакольскі А. А. Фізіка. 9 клас. (Пераклад Н. Г. Ляўчук). Мн.: Нар. асвета, 2010.

13. Камлюк Л. В., Шалапёнак А. С. Біялогія. 8 клас. (Пераклад Г. І. Кулеш). Мн.: Нар. асвета, 2010.

14. Кошалеў У.С. Сусветная гісторыя. 11 клас. (Пераклад Л. Г. Кісялёвай, Н. У. Морневай). Мн.: Выд цэнтр БДУ, 2009.

15. Кошалеў У. С. Сусветная гісторыя Новага часу: XIX – пачатак XX ст. 9 клас. Мн.: Выд цэнтр БДУ, 2010.

16. Кошалеў У. С., Кошалева Н. У., Цемушаў С. М. Сусветная гісторыя Новага часу: XVI – XVIII ст. 8 клас. Мн.: Выд цэнтр БДУ, 2010.

17. Латоцін Л. А., Чабатарэўскі Б. Д. Матэматыка. 10 клас (12-гадовая школа). Мн.: Нар. асвета, 2006.

18. Маглыш С. С., Карэўскі А. Я. Біялогія. 11 клас. (Пераклад В. У. Клімко). Мн.: Нар. асвета, 2010.

19. Машчанка М. В., Барысаў А. Л. Біялогія. 9 клас. (Пераклад В. У. Клімко). Мн.: Нар. асвета, 2011.

20. Штыхаў Г. В., Бохан Ю. М., Краснова М. А. Гісторыя Беларусі. 7 клас. Мн.: Нар. асвета, 2009.

***б) Слоўнікі і даведнікі***

21. Анатомический словарь / С. П. Ярошевич и др. Мн.: Дизайн ПРО, 1998.

22. Андрыеўская З. Я., Галай І. П. Руска-беларускі фізіка-геаграфічны слоўнік. Мн.: Нар. асвета, 1994.

23. Беларуская навуковая тэрміналогія: У 4-х кнігах. Мн.: ARCHE, 2010.

24. Геаграфічныя паняцці і тэрміны: Энцыкл. даведнік. / Рэд. калегія: М. М. Курловіч і інш. Мн.: БелЭн, 1993.

25. Матэматычная энцыклапедыя. / Гал. рэд. В. Бернік. Мн.: Тэхналогія, 2001.

26. Радкевич В. А. и др. Биологическая терминология и номенклатура: Словарь русско-белорусско-латинский, белорусско-русский. Мн: Вышэйшая школа, 1993.

27. Савіцкі М. Тлумачальны слоўнік па інфарматыцы. Мн.: Энцыклапедыкс, 2009.

28. Самайлюкевіч У. і інш. Руска-беларускі фізічны слоўнік. Мн.: Наўвка і тэхніка, 1994.

29. Хімічны слоўнік навучэнца. / Б. М. Качаргін і інш. Мн.: Нар. асвета, 2003.

30. Чалавек і грамадства: Энцыкл. даведнік. / Рэд. калегія: Г. П. Пашкоў, Я. М. Бабосаў і інш. Мн.: БелЭн, 1998.

# Каб не ператварыцца ў педагагічнага парабка

***Павел Сапелка,***
*юрыст*

Вядома, працы настаўніка, «педагагічнага работніка» (паводле азначэння новага Кодэкса аб адукацыі), не пазайздросціш... Як большасць шараговых супрацоўнікаў бюджэтнай сферы, настаўнік не распешчаны матэрыяльна, не аблашчаны ўладай, не заўсёды адэкватна ацэнены бацькамі і вучнямі. Не буду падрабязна аналізаваць прычыны і ўмовы, якія прывялі школу да цяперашняга стану, спынюся толькі на тых, што грунтуюцца на прававым рэгуляванні адукацыйнай сферы.

**1. Якімі законамі рэгулюецца час працы і адпачынку педагагічных работнікаў?**

На першым этапе прааналізуем асноўныя прававыя нормы, якія рэгламентуюць час працы і адпачынку педагагічных работнікаў. Здаецца, прасцей няма куды: разгортвай Працоўны кодэкс ды карыстайся яго нядрэнна дэклараванымі і прапрацаванымі нормамі. Аднак, артыкул 319 ПК "Асаблівасці рэгулявання працы некаторых катэгорый работнікаў" стрымана выпраўляе працягваць пошукі: *«Асаблівасці рэгулявання працы творчых, педагагічных, навуковых работнікаў (конкурснае замяшчэнне пасад, пагадзінная аплата працы ды інш.) усталёўваюцца заканадаўствам».* Гэта значыць, з агульных правілаў, усталяваных ПК, існуюць выключэнні і правілы гэтых выключэнняў вызначаюць у межах сваёй кампетэнцыі зацікаўленыя ведамствы. На жаль, ведамасная норматворчасць, нягледзячы на ілюзію прагрэсіўнага зместу, а то і на прагрэсіўны змест, не заўсёды ёсць юрыдычна абгрунтаванай ды ўзгодненай паміж суб'ектамі.

На маю думку, у гэтым і палягае прычына большасці практычных праблем з выкарыстаннем, напрыклад, працоўнага часу.

Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 01.09.2003 № 1134 (рэдакцыя ад 08.07.2010) «Аб усталяванні скарочанай працягласці рабочага часу асобным катэгорыям педагагічных работнікаў» прызначае скарочаную працягласць працоўнага часу настаўнікам агульнаадукацыйных школ не больш за 36 гадзін на тыдзень і норму гадзін выкладчыцкай працы на стаўку 18 гадзін на тыдзень.

Пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 25.11.2004 № 70 (рэдакцыя ад 07.10.2008) зацверджана «Інструкцыя аб парадку вызначэння аплатных гадзін арганізацыйна-выхаваўчай працы і дадатковага кантролю вучэбнай дзейнасці навучэнцаў у агульнаадукацыйных установах, дапаможных школах (школах-інтэрнатах), установах, якія забяспечваюць атрыманне прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай адукацыі».

Арганізацыйна-выхаваўчая праца ў навучальных установах ажыццяўляецца за межамі часу, адведзенага на правядзенне навучальных заняткаў згодна з навучальнымі планамі, і ўключае наступныя віды працы:

Класнае кіраўніцтва ці праца куратара навучальнай групы, індывідуальная і групавая выхаваўчая праца з навучэнцамі, ідэалагічная, культурна-масавая праца, арганізацыя мера-прыемстваў выхаваўча-аздараўленчага кірунку, прапаганда і фармаванне навыкаў здаровага ладу жыцця, арганізацыя грамадска-карыснай дзейнасці, працоўнае выхаванне і прафарыентацыя, прафілактыка супрацьпраўных паводзін навучэнцаў, сацыяльна-педагагічная праца з бацькамі;

Арганізацыя і выкананне працы па забеспячэнні навучальнага працэсу ў навучальных кабінетах, майстэрнях, лабараторыях, цыклавых, прадметных і метадычных камісіях навучальных устаноў.

Для выканання арганізацыйна-выхаваўчай працы ў навучальным годзе прызначаецца ў сярэднім 5 гадзін на тыдзень на адзін клас у агульнаадукацыйных установах.

Дадатковы кантроль навучальнай дзейнасці вучняў (далей – дадатковы кантроль) – гэта правядзенне настаўнікамі працы па

праверцы ведаў навучэнцаў з выкарыстаннем дыферэнцыяваных і індывідуальных формаў, уключна з праверкай пісьмовых работ, і выкарыстаннем сучасных тэхналогій.

Дадатковы кантроль здзяйсняецца па асобных вучэбных прадметах, дысцыплінах (акрамя вучэбных прадметаў / дысцыплін: «Выяўленчае мастацтва», «Музыка», «Працоўнае навучанне», «Фізічная культура і здароўе», «Дапрызыўная і медыцынская падрыхтоўка», факультатыўных заняткаў вайскова-патрыятычнай, музычнай, харэаграфічнай, мастацкай, тэатральнай, спартыўнай скіраванасці), за межамі часу, які адводзіцца на правядзенне вучэбных заняткаў згодна з вучэбнымі планамі.

Кожнаму настаўніку ў залежнасці ад вучэбных прадметаў, якія ён выкладае, прызначаецца не менш за 0,5 і не больш за 2 аплатныя гадзіны на тыдзень з разліку на стаўку, зыходзячы з усталяванай нормы гадзін выкладчыцкай працы (18 гадзін на тыдзень).

Пад педагагічнай нагрузкай пры злічэнні стаўкі педагагічным работнікам разумеецца аб'ём працы педагагічных работнікаў, які вызначаецца ў астранамічных гадзінах (на тыдзень, год) на падставе вучэбных планаў, вучэбных праграм, планаў арганізацыйна-выхаваўчай, гуртковай, карэкцыйнай працы і ўключае выкладчыцкую, арганізацыйна-выхаваўчую працу і ажыццяўленне дадатковага кантролю вучэбнай дзейнасці навучэнцаў (Пастанова Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 30.03. 2007 № 25 «Аб некаторых асаблівасцях рэгулявання працы педагагічных работнікаў», разам з «Інструкцыяй па методыцы злічэння ставак педагагічных работнікаў з улікам педагагічнай нагрузкі»).

Такім чынам, стаўка з улікам педагагічнай нагрузкі настаўніка складзе тарыфную стаўку, памножаную на суаднясенне гадзін педагагічнай нагрузкі да ўсталяванай нормы гадзін выкладчыцкай працы (18 гадзін).

Астатнія выплаты носяць характар даплат і прэмій.

**2. Ці можна прыцягваць настаўніка на працягу працоўнага дня да прац, не пазначаных у яго кантракце і не прадугледжаных заканадаўчымі актамі?**

Для чаго я так падрабязна спыніўся на вызначэнні нагрузак і вылічэнні ставак? Бо гэтыя нормы вызначаюць межы аплатнай працы настаўніка. Заканадаўчае рэгуляванне выкарыстання астатняга часу (з 36 гадзін на тыдзень) надзвычай размытае. Будзе дарэчы выказаць здагадку, што гэты час павінен выкарыстоўвацца для забеспячэння педагагічнай дзейнасці. Дарэчы, у Расіі вялікая частка пытанняў аб працы педагагічных работнікаў урэгулявана ў загадзе Міністэрства адукацыі і навукі РФ «Аб асаблівасцях рэжыму працоўнага часу і часу адпачынку педагагічных і іншых работнікаў адукацыйных устаноў». Так, *«пры складанні раскладаў вучэбных заняткаў адукацыйная ўстанова абавязана выключыць нерацыянальныя выдаткі часу педагагічных работнікаў, якія вядуць выкладчыцкую працу, з тым, каб не парушалася іх бесперапынная паслядоўнасць і не ўтвараліся працяглыя перапынкі (гэтак званыя "вокны"), якія, у адрозненні ад кароткіх перапынкаў паміж кожным вучэбным заняткам, прызначаных для навучэнцаў, выхаванцаў, працоўным часам педагагічных работнікаў не з'яўляюцца».*

Тады ці можна прыцягваць настаўніка пад час працоўнага дня да працы, не пазначанай у яго кантракце і не прадугледжанай заканадаўчымі актамі? Вядома, не. Дзеянне Працоўнага кодэкса і адпаведных яму актаў, якія вызначаюць правы і абавязкі работнікаў, распаўсюджваюцца і на педагогаў-настаўнікаў.

### 3. Якія законы і заканадаўчыя акты рэгулююць прававы стан настаўніка?

Тут будзе дарэчы зрабіць выснову, якую ролю павінен граць Працоўны кодэкс у вызначэнні прававога стану настаўніка. Згодна з арт. 7 ПК, крыніцамі рэгулявання працоўных і звязаных з імі дачыненняў з'яўляюцца:

1) Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь;
2) Працоўны кодэкс ды іншыя акты заканадаўства аб працы;
3) калектыўныя дамовы, пагадненні ды іншыя лакальныя нарматыўныя прававыя акты, заключаныя і прынятыя згодна з заканадаўствам;
4) працоўныя дамовы.

Лакальныя нарматыўныя прававыя акты, у якіх акрэслены ўмовы, што пагаршаюць стан работнікаў у параўнанні з заканадаўствам аб працы, з'яўляюцца несапраўднымі.

Наймальнік мае права прызначаць дадатковыя працоўныя ды іншыя гарантыі для работнікаў у параўнанні з заканадаўствам аб працы.

У выпадку супярэчнасці нормаў заканадаўства аб працы роўнай юрыдычнай сілы прымяняецца норма, якая змяшчае больш ільготныя ўмовы для работнікаў.

Акрамя таго, Рэспубліка Беларусь прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і забяспечвае адпаведнасць ім заканадаўства аб працы.

Нормы дзейных міжнародных дамоў Рэспублікі Беларусь або канвенцый Міжнароднай арганізацыі працы, удзельніцай якіх з'яўляецца Рэспубліка Беларусь, з'яўляюцца часткай дзейнага на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь заканадаўства аб працы, падлягаюць непасрэднаму прымяненню, акрамя выпадкаў, калі з міжнароднай дамовы або канвенцыі вынікае, што для прымянення такіх нормаў неабходна выданне ўнутрыдзяржаўнага акта (арт. 8 ПК).

Наймальнік не мае права патрабаваць ад работніка выканання працы, не абумоўленай працоўнай дамовай, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўчымі актамі. Дарэчы, заканадаўчыя акты: Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, законы Рэспублікі Беларусь, дэкрэты і ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (арт. 1, Закон Рэспублікі Беларусь ад 10.01.2000 №361-З «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь»). Лакальныя нарматыўныя акты кшталту службовых інструкцый, іншых актаў ведамаснай нарматворчасці заканадаўчымі не з'яўляюцца.

А заканадаўчыя акты практычна ніколі не паказваюць на настаўніка, як на абавязанага суб'екта. Напрыклад, Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24.11.2006 № 18 "Аб дадатковых мерах па дзяржаўнай абароне дзяцей у сацыяльна-неўладкаваных сем'ях" ускладае на работнікаў установаў адукацыі абавязак паведаміць пра вядомыя ім факты аб неналежным выкананні бацькамі абавязкаў па выхаванні і

ўтрыманні дзяцей. Але ніякім чынам нельга патлумачыць, што гэтая норма абавязвае педагога «хадзіць гатаваць суп» у «праблемныя» сем'і.

Як я ўжо згадаў, цытуючы ПК, правы ды абавязкі бакоў працоўнай дамовы могуць прызначацца і вызначацца калектыўнай дамовай (пагадненнем). Гэтыя дамовы могуць прадугледжваць іншыя правілы, чым закон. Дыскрымінацыйныя ўмовы калектыўных дамоў, пагадненняў з'яўляюцца несапраўднымі, а тыя, што скіраваны на карысць работніка, могуць і павінны працаваць.

Так, нярэдка калектыўныя дамовы прадугледжваюць абавязак наймальніка працягнуць (заключыць новы) кантракт па сканчэнні тэрміну яго дзеяння, калі работнік, напрыклад, не парушаў працоўнай дысцыпліны; могуць таксама прадугледжваць дадатковыя падставы скасавання працоўнай дамовы, дадатковыя выплаты і гарантыі.

Пры прыёме на працу наймальнік абавязаны пазнаёміць работніка з калектыўнай дамовай.

Паводле іншых, акрамя прадугледжаных калектыўнай дамовай, падставаў, вылучаць патрабаванні працягнуць (заключыць новы) кантракт, заключыць кантракт на пэўны тэрмін могуць толькі асобныя катэгорыі работнікаў: працуючыя жанчыны, якія знаходзяцца ў адпачынку па цяжарнасці і родах, маці (бацькі дзіцяці замест маці, апекуны), якія знаходзяцца ў адпачынку па доглядзе за дзіцём да дасягнення ім узросту трох гадоў, работнікі перадпенсійнага ўзросту, цяжарныя жанчыны (Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 12.04.2000 № 180 «Аб парадку прымянення Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 ліпеня 1999 г. №29»).

Важнае новаўвядзенне заканадаўства: наймальнік з пісьмовай згоды работніка, які не меў парушэнняў працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны, прапрацаваў у гэтага наймальніка не менш за пяць гадоў, пасля сканчэння тэрміну дзеяння кантракта мае права заключыць з работнікам працоўную дамову на неакрэслены тэрмін.

Пры адмове работніка ад заключэння працоўнай дамовы на неакрэслены тэрмін паводле пісьмовай згоды паміж бакамі кантракт можа быць працягнуты або заключаны новы кантракт.

Пра намер працягнуць працоўныя адносіны на ўмовах працоўнай дамовы на неакрэслены тэрмін наймальнік пісьмова папярэджвае работніка не пазней чым за адзін месяц да заканчэння тэрміну дзеяння кантракта (Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 31.03.2010 № 164 «Аб унясенні змяненняў і дадаткаў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 12 красавіка 2000 г. № 180»).

Аднак, як бачна з прыведзенага тэксту, абавязак заключыць працоўную дамову на неакрэслены тэрмін на наймальніка названым актам не ўскладаецца.

Работнікі, сярод іншых правоў, паказаных у ПК, маюць права на:

- гарантаваную справядлівую долю ўзнагароды за працу згодна з яе колькасцю, якасцю і грамадскім значэннем, але не ніжэй за ўзровень, які дае работнікам і іх сем'ям свабоднае і годнае існаванне;
- штодзённы і штотыднёвы адпачынак, у тым ліку выходныя дні падчас дзяржаўных святаў і святочных дзён, і адпачынак працягласцю не ніжэй за вызначаны ПК;
- неўмяшальніцтва ў прыватнае жыццё і павагу асабістай годнасці;
- судовую і іншую абарону працоўных правоў.

## 4. Куды звяртацца, калі парушаюцца Вашыя правы?

Сродкі судовай "ды іншай" – пракурорскай, Камітэта дзяржкантролю, прафсаюзнай – абароны я прапаную выкарыстоўваць у максімальнай ступені. Прадбачу пярэчанні і скептычнае стаўленне да гэтай прапановы, але скажу: без пачатку і канца не было б. Вядома, лягчэй абгрунтаваць бяздзейнасць, чым прапанаваць план дзеянняў. Пісьмова абгрунтаваная, аргументаваная скарга ў кампетэнтны орган – гэта магутны сродак. Вядома, тактычна больш слушна, калі з ёй звернецца той, хто не баіцца патрапіць пад прэсінг; а такіх стала нямала, мяркуючы з выказванняў настаўнікаў пра каштоўнасць прафесіі…

Дарэчы, калі скарга даслана ў кампетэнтны орган, у ёй выказваюцца крытычныя заўвагі, скіраваныя на скасаванне парушэнняў, заяўнік не можа пераследвацца ў парадку абароны гонару і годнасці (дзе абавязак давесці сапраўднасць паведамленых звестак ляжыць на

асобе, што выдала звесткі, якія ганяць гонар і годнасць), калі заяўнік не злоўжывае сваім правам.

Інакш так і будзе небагаты настаўнік замест набыцця метадычных дапаможнікаў на 22 650 рублёў у месяц (што само па сабе смешыць) зачытвацца "Юным спасателем", мыць падлогі ў калідорах, ляпіць вырабы замест адсутных талентаў, рэгулярна «падвышаць» пасяховасць на фоне дэградацыі вучняў.

Чакаць, што дзяржава са сваёй ініцыятывы павернецца тварам, не мае сэнсу.

Бярэ моц Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адукацыі. Ці моцна ён зменіць становішча ў школе? Сумняюся: як і раней, нормы, якія рэгулююць прававы стан удзельнікаў адукацыйнага працэсу, збольшага дэкларатыўныя.

Так, настаўніку далі ў рукі сродак супраць нядбайных вучняў – увялі дысцыплінарную адказнасць навучэнцаў агульнаадукацыйных школ. З 1 верасня 2011 г. стане магчымым пазбавіцца ад нядбайнага "обучающегося" (тэрміналогія Кодэкса), калі той завяршыў засваенне зместу адукацыйнай праграмы базавай адукацыі і дасягнуў 16-годдзя, за сістэматычнае (паўторнае на працягу навучальнага года) невыкананне або неналежнае выкананне абавязкаў навучэнца альбо за працяглы прагул. Пытанне ў тым, ці гатовая школа распачаць удзел у сотнях, а то і тысячах судовых працэсаў па абскарджанні ўжытай меры дысцыплінарнага спагнання. А што рабіць з тымі, каго суд пасля трох – чатырох месяцаў судовага разбору і, адпаведна, адсутнасці адновіць у навучальнай установе? На каго залічаць працэсуальныя выдаткі? Ці гатовыя настаўнікі сустрэцца ў судах з адвакатамі, якія будуць прадстаўляць непаўналетніх, або, як мінімум, рыхтаваць для іх дакументы (дарэчы, бясплатна), калі вучань або яго законны прадстаўнік у парадку, прадугледжаным Кодэксам, абскарджвае накладанне спагнання?

Вядома, сам-насам здужаць гадамі дасканаленую сістэму заняволення настаўнікаў няпроста, амаль немагчыма. Таму неабходна ствараць грамадскія аб'яднанні, незалежны прафесійны саюз педагагічных работнікаў, у рамках дзейнасці якіх, з прыцягненнем кваліфікаваных юрыстаў, адстойваць свае правы.

Дастаткова на прыкладзе некалькіх спраў пераламіць сітуацыю, каб нармалізаваць становішча педагога, прынамсі ў той ступені, што дазволена эканамічным і палітычным станам дзяржавы. На першым этапе зарганізавацца могуць тыя з педагогаў, хто паводле сямейнага і матэрыяльнага стану, стажу працы ды інш., менш залежыць ад адміністрацыі.

*Пераклад з рускай Nastaunik.info, паводле:*

*http://www.nastaunik.info/news/?id=5793*

# Каштоўнасці грамадства і псіхалогія дзейнасці

*Алена Палейка*

Паводле сацыялагічнага апытання, праведзенага сярод старшакласнікаў ды іх настаўнікаў, тройка сучасных каштоўнасцей выглядае так: сям'я (90%), справядлівасць (70%), стабільнасць (60%). Такія каштоўнасці як «уласнасць», «салідарнасць» у якасці прыярытэтных не выбралі ні дзеці, ні настаўнікі. А свабода як каштоўнасць сталася прывабнай для 50%. Вынікі цікавыя. З аднаго боку, квітнее «махровы» кансерватызм. З іншага, назіраецца «памяркоўная» лібэральнасць. І поўная адсутнасць разумення, што быць свабодным, не маючы нічога, і чакаць справядлівасці, не праяўляючы салідарнасці, немагчыма.

«Мая сям'я перш за ўсё!» – кажуць школьнікі, бацькі і настаўнікі, якім даводзіцца кожны дзень выконваць загады, дырэктывы, пастанаўленні і распараджэнні. Кожнаму свае: дзіцяці – загады настаўнікаў, настаўнікам – распараджэнні школьнай адміністрацыі, бацькам – загады кіраўніцтва. І гэта вельмі зручна: выканаў (ці зрабіў выгляд, што выканаў) загад і… зняў з сябе адказнасць. Гэта працуе як уласнае апраўданне, бо ўся адказнасць перакладаецца на кіраўніка, адміністрацыю, уладу. «Ад мяне нічога не залежыць? Што я магу зрабіць? Вы самі ўсё добра разумееце…»

Гэткі канфармізм у спалучэнні са спажывецкім стаўленнем да жыцця і ёсць асновай сённяшняй філасофіі жыцця беларускага грамадства. З аднаго боку, гэта выклікае жах: такая моладзь абсалютна не падрыхтаваная да паспяховага жыцця ў сучасным зменлівым свеце, а дарослыя, сталыя людзі не змогуць спадзявацца на спакойную, забяспечаную старасць.

З іншага боку, з'яўляецца спадзеў, бо ў грамадстве ўзрастае разуменне складанасці сучаснага цівілізацыйнага «выкліку» і нараджаецца

здольнасць прыняць адказнае рашэнне аб неабходных зменах у сістэме адукацыі. Гэты «адказ» трэба даць супольнасці дзяцей, бацькоў, настаўнікаў. Сучасныя менеджары і лідары-адукатары, слова за намі!

# Праблемы адукацыі вачыма настаўніка

***Агляд медыяў***

*17 сакавіка 2010 года газета «Звязда» надрукавала ліст настаўніка з Віцебшчыны «Самаадданасць педагога нельга эксплуатаваць бясконца». Журналісты звярнуліся да настаўнікаў, каб тыя дасылалі ў рэдакцыю свае пытанні, агучвалі праблемы школы. Рэдакцыя абяцала перадаць усе пытанні і прапановы Міністэрству адукацыі і надрукаваць адказ.*

*Артыкул збіраў і збірае водгукі настаўнікаў больш за паўтара года. На сённяшні дзень настаўнікі даслалі 326 лістоў. Рэдакцыя перадала гэтыя водгукі ў Міністэрства адукацыі, каб тое адрэагавала на праблемы школы і настаўніка, але рэакцыі не дачакалася.*

*Я паспрабавала сістэматызаваць сказанае ў каментарах, каб выявіць, што думалі самі настаўнікі пра стан адукацыі. Звяртаю ўвагу, што гэтае абмеркаванне было яшчэ да крызісу 2011 г., які ўдвая знізіў заробкі педагогаў. Некаторыя высновы ілюструюцца цытатамі з настаўніцкіх лістоў на мове арыгінала з захаваннем аўтарскага правапісу.*

*Тамара Мацкевіч*

**Праблемы (пазначаныя настаўнікамі ў каментарах)**

• нізкі заробак і, як наступства, фемінізацыя школы;
• шмат папер;
• прыпіскі (існуе ціск начальства пры выстаўленні адзнак, каб школа добра выглядала);
• паборы (суботнікі, у дадатак адлічэнне дзённага заробку ў фонд суботніка, падпіскі на «Юный спасатель», «Советскую Белоруссию», «Настаўніцкую газету», зараблянне школай грошай);

• навязванне планавага задання па платных паслугах;
• хамства адміністрацыі: дырэктары і начальнікі запалохваюць, пагражаюць; улюбёная фраза *«вплоть до увольнения без права восстановления»*;
• малая ўвага адукацыйнай функцыі ў школе: *«дырэктар ператварыўся ў гаспадарніка, які павінен займацца найперш вырашэннем фінансава-гаспадарчых пытанняў, а не арганізацыяй адукацыйнага працэсу ў школе»*;
• вялікая колькасць і пагардлівае стаўленне правяраючых інспекцый;
• абавязковыя шматлікія конкурсы, праекты і г. д.;
• адсутнасць абароны (сапраўдных прафсаюзаў);
• выкананне ненастаўніцкай працы: дзяжурствы на дыскатэках, «всеобуч», праца з сацыяльна-небяспечнымі сем'ямі, дагляд іх дзяцей, рамонт школы, спагнанне грошай з бацькоў, праца на прышкольных участках і ў калгасах, выбары (зверка спісаў, стаянне ў пікетах);
• жыллё: *«аграгарадкі пабудавалі для п'яніцаў-даярак. настаўнік, які працуе ў аграгарадках не можа прэтэндаваць на жытло»*;
• непрыняцце новых падыходаў у навучанні.

**Настроі**

• нявер'е ў змены;
• любоў да прафесіі;
• пачуццё прыніжанасці;
• страх перад будучыняй;

Вось некалькі цытат у пацверджанне:

*«І не папракайце, калі ласка, мяне ў маладушнасці і непрынцыповасці, бо на нязгодных заўсёды знаходзіцца ўправа (ды яшчэ якая!). За сябе ўжо не баюся, аднак у школе вучацца мае дзеці».*

*«Шкада, што ўся намі тут напісаная праўда нікому непатрэбна. За месяц з лішнім, што цягнецца данная дыскусія, ... ніхто нават не паспрабаваў праверыць праўдзівасць інфармацыі. А яна на 100% (нават 200%) праўдзівая!!! Вы сабе пішыце – нікому гэта ваша праўда непатрэбна».*

*«Прочитал почти все высказывания. К кому мы обращаемся?... Поэтому, все эти действительно “крики души”, только для нас – учителей возможность “выкричать” свою боль».*

*«Только наплевать всем высокосидящим на это. Как было, так и останется. Придумают еще кучу конкурсов и бумаг, чтобы не было времени в Интернете сидеть и образование наше порочить».*

*«Дзякуй “Звяздзе” хаця б за прадстаўленую магчымасць выпусціць пару, якая скапілася ўжо за колькі гадоў».*

*«Вспомните, как обошлись с профильным обучением. Зимой все на педсоветах восхваляли и пропагандировали его, отчитываясь о результатах и мониторингах, а весной объявили вредным и нерезультативным».*

**Хто вінаваты**

• кіраўніцтва (чыноўнікі)

*«На мой погляд, як раз тут “сабака і закапаны”. Нашым кіраўнікам, відаць, зручна, калі настаўнік будзе так загружаны, што і галавы падняць не здолее. Тады з яго вяроўкі віць можна, а калі паабяцаць грашовую падачку ці пару адгулаў, дык ён і зорку з неба дастане».*

*«Сколько нам ожидать, ...чтобы уровень образования упал настолько, чтобы чиновники, наконец, признали, что “у нас в образовании существуют некоторые проблемы” ?»*

• самі настаўнікі

*«Тут то мы пишем, изливаем душу, но своё настоящее имя не называем. Вот где зарыта собака».*

*«Ліст, які я чытаю ўверсе, увесь прасякнуты сутнасцю, прабачце, раба. Дзе і калі Вы так пачалі папускацца, што і не заўважылі, як імі сталі...»*

• сістэма

*«Всё дело в том, что школа – это зеркало общества».*

*«Кто не хотел прогибаться под систему, того уволили, или сам ушёл. Остаются только пенсионеры, которым уже деваться некуда, молодые, которых силой распределили и те, которые равнодушно относятся к тому, чем они занимаются».*

*«Да, мы не подписываемся. Любого из нас любой чиновник в порошок сотрёт, если узнает. И причину найдёт очень просто – несоблюдение какой-нибудь инструкции».*

*«Учитель – продукт общества. Наивно звучит, что учителя сами виноваты в своем положении. В такое уж положение нас поставили. Перефразируя слова известной песни группы "Кино": "Умные, храбрые, да сильные все погибли в школе, в бою...". Сколько замечательных учителей, чувствуя, что они борются с ветряными мельницами, что они не нужны обществу, ушли и уходят из школ. А вы предлагаете оставить нас наедине со своими проблемами?»*

**Шляхі вырашэння**

• барацьба памяркоўнымі метадамі (негвалтоўны супраціў);
• нельга маўчаць: трэба падаваць скаргі ў суд, пракуратуру ды інш.;
• кансалідацыя;
• вывучаць паспяховы досвед іншых педагогаў;
• пачынаць з сябе: заняць уласную пазіцыю (у першую чаргу маральную);
• звальняцца;
• уносіць прапановы ў Міністэрства адукацыі.

*«Впрочем, ничто ведь вам всем не мешает с этим бороться – хотя бы нашими "памяркоўнымі" методами. На все кандидатуры, выдвигаемые в профлидеры – против. Голосовать за 18 – 20% премии – и вы увидите, что уважения к вам прибавится сразу. Можно сказать, в разы».*

*«Лепш маўклівае супраціўленне, чым стагнаць на форумах і кухнях!»*

*«И правильно здесь многие говорят – нельзя молчать. Есть суд, прокуратура, можно писать жалобы начальникам на их самих же. И показав что на шею сесть на даешься, и трогать тогда больше не будут, не будут мешать работать, не будут издеваться».*

*«Я 17 лет отработала в городской школе, но проблемы знакомые».*

*«Вот уже 2 года работаю в иной сфере, и только теперь почувствовала себя человеком».*

*«Так вот – раба в себе сначала подавить надо, а потом уж глобально проблему решать... А знаете что – а давайте пригласим коллег (может, есть ещё смелые) рассказать свои победительные истории работы в школе. Наверняка же есть такие! Ребята, не бойтесь вы, – никто вам ничего не сделает, просто расскажите, как удалось остановить чиновнический произвол на местах цивилизованно и убедительно. Может, кому-то пригодится, и тогда "вопящих в пустыне" меньше станет».*

*«Мы пишем, бедствуем, жалуемся, но беда в том, что мы себе ни в чём помочь не можем, ни нам помочь не могут. Всё возвращается на круги своя. Все пишущие говорят правду, которая никому не нужна».*

*«Наверное, пора все высказанное на форуме и написанное в газете, представить официально Министерству образования и ЦК профсоюзов образования и науки. Приглашать на круглый стол учителей и просить высказаться о правдивости написанного, нереально, у человека сработает чувство самосохранения».*

*«Для нас сейчас главное – это консолидация. Если мы будем сейчас в одиночку сражаться каждый в своей школе против всей этой системы, то нас просто переломают по одному как спички».*

*«Мушу зайважыць: у пэўным сэнсе нас ужо зламала гэтая самая сістэма. І цяпер казаць пра кансалідацыю зарана – не саспела сітуацыя».*

*«Праблема больш глабальная, чым яна падаецца асобным настаўнікам. Створаная пачварна-бюракратычная сістэма разбурае этычны падмурак, на якім мусіць базавацца сфера адукацыі. Яна штораз прапануе настаўніку зрабіць маральны выбар далёка не лепшага гатунку. Падаваць тую бязглуздую справаздачу альбо не падаваць, падпісвацца на газеты, што навязваюцца, альбо не падпісвацца, здаваць кожны веснавы месяц*

*грошы ў фонд суботніка альбо не здаваць... І настаўнік ідзе супраць сумлення – робіць тое, што хоча сістэма (і яе прадстаўнікі!). Падставовы маральны імунітэт страчаны, яго заступіў рэфлекс самазахавання. Дзеля яго мы ўжо гатовыя здрадзіць усяму, нават святому. Загадаюць нам перавесці выкладанне з роднай мовы на расійскую – моўчкі пагадзімся. Скажуць, дык супраць закону не папрэш, так схацелі бацькі вучняў. Яно ж так, на жаль. Але, дзе наша ўласная пазіцыя?»*

# Каб я была міністрам адукацыі, або што трэба зрабіць у школьнай сістэме Беларусі, каб яна палепшылася

*Наталля Ільініч*

Дыскусія ў газеце «Звязда» пасля публікацыі ліста настаўніка з Віцебскай вобласці пацвердзіла мае асабістыя адчуванні пра школу: усё вельмі дрэнна і, на жаль, так думаюць многія мае калегі.

Што трэба зрабіць, каб палепшыць становішча?

Гэта маё асабістае меркаванне – звычайнай беларускай настаўніцы з педстажам 25 гадоў. Некаторыя з гэтых крокаў не патрабуюць ніякіх фінансавых укладанняў, трэба толькі палітычная, адміністратыўная воля.

Зменшыць апарат кіравання, асабліва на раённым узроўні. Што гэта дасць? Такі крок адразу зменшыць паток папераў, якія прадукуюць гэтыя людзі самі і патрабуюць ад школаў у геаметрычнай прагрэсіі. Карысці ад гэтых асоб няма, толькі шкода, якую метадычную дапамогу яны могуць аказаць настаўніку, калі самі яны, як правіла, у школе не працавалі (перапрашаю сапраўдных метадыстаў, якіх мне прыйшлося сустрэць у жыцці вельмі мала) , а калі працавалі, то сышлі адтуль, бо не змаглі там працаваць. Больш таго, я заўважыла такую з'яву: цікавыя, творчыя настаўнікі не прыжываюцца на гэтых пасадах, уцякаюць з іх вельмі хутка. Прыжываюцца там толькі тыя, хто атрымаў гэта месца «па блаце», каб пазбегнуць працы ў школе. Скарачэнне чыноўніцкага апарату дасць яшчэ і вызваленне грашовых сродкаў, якія цяпер ідуць на заробак «інспектарам-метадыстам».

Увесці ў школах сапраўднае самакіраванне. Дырэктар абіраецца тайным галасаваннем настаўнікамі, у школе ствараецца і працуе Рада школы, у якую ўваходзяць акрамя прадстаўнікоў адміністрацыі настаўнікі, бацькі і вучні. Рада надзелена вялікімі паўнамоцтвамі.

Дырэктар, абраны народам, будзе служыць школе – вучням і настаўнікам, а не начальству.

Беларусізацыя школ. Усе школы ў краіне Беларусь павінны быць беларускімі па сутнасці і па мове. На пераходны перыяд (5 гадоў) дапускаецца існаванне асобных класаў з рускамоўным выкладаннем. Ужо з наступнага навучальнага года рускамоўныя школы могуць ўвесці выкладанне гісторыі і геагарафіі Беларусі па-беларуску. Настаўнікам, якія ажыццяўяць пераход на беларускую мову сваіх ўрокаў, даць павышэнне заробку на 20%.

Адмена татальнай кантрактнай сістэмы. Сёння кантракты ў нашай краіне сталі спосабам расправы з іншадумствам, з тымі работнікамі, хто мае ўласнае меркаванне. Дырэктар падбірае працаўнікоў не па прафесійных якасцях, а па лаяльнасці да яго асабіста і да існуючай сістэмы. Ідзе натуральны адбор наадварот – атрымліваюць працу тыя, хто падтаквае начальніку, а не прафесійныя, творчыя, таленавітыя. А што ж застаецца рабіць гэтым творчым, але не вельмі зручным для начальства? Ведаю некалькі выпадкаў, што добрыя настаўнікі сышлі са школы і з’ехалі ў Расію працаваць нянькамі.

Адмяніць прымусовае зараблянне грошай школай. Цяпер гэтыя грошы збіраюцца з настаўнікаў, з іх і так невялікіх заробкаў.

Адмяніць прымусовую падпіску. Няхай журналісты «Настаўніцкай газеты» зробяць яе цікавай для настаўнікаў, тады мае калегі і без прымусу выпішуць сваю прафесійную газету. Чаму дыскусія пра праблемы школы і настаўніцтва разгарнулася на старонках газеты «Звязда», а не ў «Настаўніцкай газеце»? Бо наша настаўніцкая газета далёкая ад нашых праблем.

Прымусовая падпіска на «Юный спасатель», «Адукацыю Міншчыны», «Советскую Беларусь» стварае ў тых, хто іх выпускае, скажонае ўяўленне пра рэчаіснасць: яны, напэўна, думаюць, што даюць якасны прадукт. А гэта ж проста прымусовая падпіска…

Адмяніць прымусовыя паборы на суботнікі, у Фонд міру, Чырвоны Крыж, Асвод і да т. п. Акрамя таго што гэта вытрасанне небагатых настаўніцкіх кішэняў, гэта яшчэ і спосаб прынізіць настаўніка, паказаць яму, што яго воля і розум нічога не значаць.

Вяртанне да профільнага выкладання. Пагаршэнне вынікаў ЦТ за апошнія 2 гады паказала, што адмена профільных класаў – памылка. Зрэшты, гэта было зразумела настаўнікам яшчэ тады, калі гэта рашэнне прымалася без усякага абмеркавання.

Стымуляванне працы настаўніка, заахвочванне творчасці, ініцыятывы, інавацый. Заробак сярэдняга настаўніка роўны заробкам дзяржаўных служачых, а за дасягненні, поспехі вучняў – прэмія, падвышаны працэнт.

Вызваліць настаўніка ад прац, якія не прадугледжаны яго прафесійнымі абавязкамі – дзяжурыць на вячэрніх дыскатэках і вуліцах, выхоўваць бацькоў-п’янтосаў, збіраць металалом і макулатуру, працаваць на калгасных палях, быць членам выбарчых камісій і да т. п. Гэта дасць настаўніку больш часу на выкананне сваіх прафесійных абавязкаў, самаадукацыю, уласных дзяцей і сям’ю.

Школьныя праверкі павінны быць зменшаны і іх сутнасць зменена.

Хто толькі не правярае школу – РАА, абласное упраўленне адукацыі, міністэрства, санстанцыя, пажарнікі. Кожная праверка ліхаманіць установу, перашкаджае працаваць, трэпле нервы адміністрацыі, настаўнікам, а тыя – вучням. Праверкі, канечне, патрэбныя, але яны павінны быць рэдкія і правяраць важныя, сутнасныя рэчы. Цяпер правяраючыя часцей за ўсё праглядаюць паперкі – ці ўсё аформлена, ці з вялікай (або малой) літары напісаны назвы прадметаў у журнале і дзённіках, колькі радкоў прапусціў вучань у сшытку пасля папярэдняй работы. Гэта называецца «Адзіны арфаграфічны рэжым». На поўным сур’ёзе правяралася і ўказвалася, што ў мінулым годзе ў класным журнале пры запісе дамашняга задання трэба было скарачаць слова «старонка» – «с.», а цяпер трэба – «стар.» і ніяк інакш. Я думаю, наданне такой вялікай увагі дробязям тлумачыцца проста: правяраючыя не ўмеюць ацаніць і праверыць сутнасныя рэчы (а гэта сапраўды не так лёгка) – як працуюць настаўнікі, адміністрацыя, які ўзровень ведаў і выхаванасці вучняў. Для таго каб праверыць гэта, трэба самім быць прафесіяналамі ў гэтых пытаннях, а ці заўсёды намі кіруюць такія асобы?

Настаўніцкі прафсаюз павінен стаць сапраўдным абаронцам настаўнікаў, а не начальства. Зрабіць гэта проста – прафсаюз павінен стварацца знізу, самімі настаўнікамі, тады ў прафлідары будуць абраныя асобы, якія будуць бараніць настаўнікаў, а не начальства. Заробак прафсаюзных дзеячаў павінен аплочвацца з прафсаюзных грошай, а не з дзяржаўных.

# Школы – пад апеку грамадства

*Міхась Булавацкі*

Першапачаткова школы пачалі ствараецца з патрэб грамадства, а не з патрэб дзяржавы. Паступова дзяржава стала ўключацца ў гэты працэс, так ці інакш рэгуляваць і перайначваць яго. Але й сёння ў разумна ўпарадкаванай дзяржаве адукацыя і выхаванне чалавека застаецца клопатам найперш грамадства. Дзяржава ж прымае на сябе абавязкі ўпарадкаванага фінансава-матэрыяльнага сілкавання працэсу, прагназавання патрэб і на яго падставе вылучэнне заказаў.

Сённяшняя Беларусь вельмі далёкая ад разумна ўпарадкаванай дзяржавы. Дзяржаўныя інстанцыі, дзяржаўныя органы, дзяржаўныя чыноўнікі імкнуцца кантраляваць і ўпарадкаваць адукацыйна-выхаваўчы працэс цалкам, не пакідаючы грамадству нават самай драбнюткай магчымасці ўплыву на яго.

Школьны будынак? – Мы вам пабудуем, аднолькавы для ўсіх.
Абсталяванне? – Мы забяспечым.
Падручнікі? – Мы надрукуем. Натуральна ж, аднолькавыя для ўсіх.
Настаўнікі? – Мы навучым і прызначым.
Вучэбныя планы, праграмы? – Мы распрацуем.
Працягласць заняткаў? – Мы вызначым.
Мову навучання? – І тут не турбуйцеся, мы выберам…

І будуюць, друкуюць, прызначаюць, вызначаюць, распрацоўваюць, забяспечваюць… аднолькава для ўсіх. Усё гэта загортваецца ў прывабны фанцік «прынцып роўнасці». «Роўныя ў беднасці» – трапна заўважыў аднойчы У. Чэрчыль на словы І. Сталіна «У нас усе роўныя». І нашы школьнікі сёння роўныя ў беднасці адукацыйных магчымасцей.

«Тады што? – спытаюць у мяне. – Вы прапануеце адмовіцца ад удзелу дзяржавы ў адукацыйным працэсе?» Адмовіцца – не. Але

істотна абмежаваць яго было б карысным і для грамадства, і для дзяржавы, якая зможа пазбавіцца ад процьмы кантралёраў і чыноўнікаў, эканомячы немалыя сродкі. Я не летуценнік і марыць аб тым, што можа быць праз сто-дзвесце гадоў не стану. Але крыху пазней паразважаю, што тут можна змяніць у сённяшніх варунках.

Толькі спачатку патлумачу, чаму татальнае дзяржаўнае назіранне за адукацыйна-выхаваўчым працэсам і грубае ўмяшальніцтва ў гэты працэс шкодныя.

Пачнем з таго, што ў сучаснай Беларусі амаль цалкам захавалася савецкая сістэма адукацыі, адукацыя ў дзяржаве з «дыктатурай пралетарыяту», чытай: з дыктатурай маламаёмасных і малапісьменных людзей. Што трэба малапісьменнаму чалавеку ў дачыненні да яго дзіцяці? Каб яно было накормлена, абута-апранута і не швэндалася без нагляду па вуліцы, калі бацькі на працы. Таму ў школу аддаюць дзеля таго, «каб не швэндалася», каб не зрабіла якой шкоды, за якую бацькам давядзецца адказваць, каб за дзіцём прыглядвалі. А калі не навучаць матэматыцы? Дык і што? І я той матэматыкі не ведаю, але неяк жыву. Не навучаць гісторыі? Ну і што? Я не ведаю гісторыі, але някепска абыходжуся без яе. Дый навошта дзіцяці ведаць, што там было ў пятнаццатым стагоддзі ці ў якойсьці Старажытнай Грэцыі? Мове не навучаць? Такой бяды! І я з памылкамі пішу. Але электрыку, трактарысту, слесару, майстру-плітачніку, кіроўцу машыны гэта ніколькі не шкодзіць. Яно б і хацелася, каб дзіця выбілася ў начальнікі, каб працавала ў цёплым і чыстым памяшканні, але што ж я тут магу зрабіць. Хай само выбіваецца, мо й атрымаецца. Такім чынам, прызнаем, што ў «пралетарыяў» зніжаная патрэба ў добрай адукацыі для сваіх дзяцей.

Другое. Дзяржаўны чыноўнік таксама не адчувае патрэбы, каб навучэнцы падначаленых школ атрымалі як мага лепшую адукацыю. Гэта бачна, напрыклад, па тым, што даволі часта ў школу ўладкоўваюць не лепшых выпускнікоў педагагічных ВНУ, у той час, як лепшыя застаюцца без працы. Такое было паўсюдна ў СССР пры размеркаванні маладых настаўнікаў у гарадскія і райцэнтраўскія школы і захавалася пасёння. Прычым у больш пачварным выглядзе.

Нядаўна на сайце nastaunik.info была змешчана паказальная ў гэтым кантэксце перапіска вопытнага настаўніка матэматыкі з начальнікам упраўлення адукацыі. Настаўнік, будучы ўжо ў пенсійным узросце, захаваў сілы і цікавасць да працы і прапаноўваў свае **безаплатныя** дадатковыя заняткі матэматыкай у адной з школ горада. Начальнік дазволу на такія заняткі не даў. І вучні хадзілі да гэтага настаўніка дадому і займаліся з ім матэматыкай ужо за плату.

Ці такі выпадак. Я неяк падарыў знаёмай настаўніцы дзве кнігі па матэматыцы для школьнікаў. «Паставіце іх у школьным кабінеце, можа, хто зацікавіцца, прачытае.» – «Ну што вы! Я іх у школьны кабінет не пастаўлю. Нам зараз даслалі спіс кніг, якія могуць быць у кабінеце матэматыкі і ў іншых кабінетах таксама. Калі інспектар знойдзе ў кабінеце кнігі, якіх няма ў спісе, мне могуць зрабіць вымову.» Мне засталося толькі развесці рукамі, бо да такога нават у савецкіх школах не дадумаліся.

Дзяржаўны чыноўнік працаўладкоўвае ў школу слабападрыхтаванага настаўніка, бо гэты настаўнік – яго сваяк, ці добры знаёмы, ці за адпаведны хабар. І якасць адукацыйнага працэсу цікавіць яго ў апошнюю чаргу, калі ўвогуле цікавіць. Нават тады, калі ў гэтай школе вучыцца яго дзіця. Спрабую заглянуць у думкі такога чыноўніка. «Ай, не навучыць настаўнік, давучыць рэпетытар, грошы знайду…» Ці так: «Не навучыць, але адзнакі будзе добрыя ставіць. А я сваё дзіця і так, куды трэба, уладкую».

Для чыноўніка важней тое, што такі настаўнік будзе вельмі паслухмяным і будзе выконваць «патрэбнае»: выводзіць дзяцей на чыстку вуліц, на суботнікі, уцягваць іх у бээрэсэм, збіраць грошы з бацькоў на рамонт класнага пакоя ці яшчэ на што і г. д. Карацей, будзе фармаваць чалавека дзяржаўнай ідэалогіі, бездакорна паслухмянага, цярплівага, здольнага на ахвярнасць дзеля дзяржавы, «патрыёта сваёй радзімы». Ці не нагадвае гэта табе, чытач, пэўныя рэлігійныя секты, у якіх людзі натоўпам ідуць на смерць, верачы, што так трэба нейкаму Яму?

На шчасце, дзеці маюць нейкі прыродны імунітэт, інстынкт абароненасці ад такога ўплыву і таму не ўсё ў такога чыноўніка і ў

такога настаўніка атрымліваецца. Не ўсё, але нечага жаданага і яны дасягаюць: колькасць «пралетарыяў», на жаль, не змяншаецца.

Такім чынам, ні бацькі, якія ў большасці “пралетары” і маюць пралетарскае мысленне, ні дзяржаўныя чыноўнікі (за рэдкім выключэннем) не зацікаўленыя ў тым, каб школа давала найбольш якасную адукацыю. Што можа зрабіць у такіх варунках невялікая частка актыўнага грамадства? І ў якіх з пазначаных вышэй пунктах?

Прыглядзімся да гэтых пунктаў.

Будынак школы павінен быць разлічаны на 500 – 700 навучэнцаў (ацэнка В. Сухамлінскага) і размешчаны ў ціхім месцы пры добрай транспартнай сувязі з жылой часткай горада, пасёлка. Вось напісаў гэтую фразу і адразу ўявіў скептычную ўсмешку чытача: ну дзе ты бачыў у горадзе школу на 500 – 700 вучняў ды яшчэ ў ціхім месцы! Так, сапраўды, дзяржава і тут эканоміць, будуючы каробкі на 3 – 4 тысячы навучэнцаў, бо вось вам адзін дырэктар замест пяці ды іншых штатных адзінак уключна з настаўнікамі менш трэба будзе. А па меркаванні В. Сухамлінскага, у школах з «насельніцтвам» да 700 навучэнцаў ствараецца адчуванне еднасці, роднаснасці, адчуванне нейкай сямейнасці і ў стасунках паміж вучнямі, і паміж вучнямі і настаўнікамі, і паміж настаўнікамі і адміністрацыяй. У такой атмасферы немагчымы праявы дзіцячай «дзедаўшчыны» ці іншай анамаліі, якой перанасычана сённяшняя школа. Гэта нагадвае сітуацыю невялікай вёскі, дзе ўсе пра ўсіх усё ведаюць і таму імкненні да шкодніцтва значна заніжаныя. Школа ж на некалькі тысяч навучэнцаў – гэта ўжо «горад», дзе можна згубіцца сярод людзей і ўзнікае спадзяванка, што тваё шкодніцтва застанецца нявыкрытым і беспакараным.

Класныя пакоі павінны быць абсталяваны аднамеснымі столікамі, не прывінчанымі да падлогі, каб іх можна было перасоўваць, арганізуючы працу ў парах ці групах або расстаўляць паўколам ці прамакутнікам для нейкай агульнай працы. Вельмі пажадана, каб у столікаў можна было змяняць вышыню і нахіл крышкі. Бо для вучняў, для іх здароўя і развіцця карысна перыядычна змяняць становішча. Спынюся толькі на адным гэтым патрабаванні, абмінуўшы праблему дошкі з крэйдай і бруднымі анучкамі,

праблему камп’ютарнага абсталявання ды інш. Бо ведаю, што ў некаторых школах (дакладней, у некаторых класах) бацькі самі абсталявалі класны пакой аднамеснымі столікамі, што значна спрасціла праблему падтрымання дысцыпліны на ўроках па сведчаннях настаўнікаў і станоўча паўплывала на якасць урокаў.

Праблема падручнікаў – адна з самых балючых. Падручнікі гісторыі, літаратуры, грамадазнаўства сталі ў значнай меры аб’ектамі ідэалагічнага разгулу і навучэнцам трэба мець добры імунітэт, каб не заразіцца хваробамі, бацыламі якіх перанасычаныя гэтыя падручнікі. Трэба адзначыць, што некаторыя вучні такім імунітэт маюць, дзякуючы найперш бацькам ці сябрам, чым ствараюць пэўныя праблемы для настаўніка (прыемна адзначыць тое, што некаторых настаўнікаў тое радуе). Падручнікі матэматыкі, прыродазнаўчых навук маюць іншыя праблемы, пра што можна было б грунтоўна гаварыць асобна. Тут важна, каб у настаўніка была магчымасць выбару. Але ідэя стварэння альтэрнатыўных падручнікаў не знаходзіць падтрымкі ў Міністэрстве адукацыі. Пры сённяшняй камп’ютарызацыі настаўнікаў можна было б чакаць, што найбольш вопытным з іх (да якіх адносіць сябе і аўтар гэтых радкоў) мэтазгодна было б дазволіць карыстацца сваімі вучэбна-метадычнымі распрацоўкамі і ўвогуле абыходзіцца без падручнікаў. Але ж як крамольна сёння гэта гучыць?!

Тут своечасова сказаць некалькі слоў аб праграмах. Дзяржаўная праграма па той ці іншай школьнай дысцыпліне (як заказ дзяржавы) не павінна ахопліваць увесь адведзены на гэтую дысцыпліну час, пакідаючы пэўную і немалую частку гэтага часу на ініцыятыву настаўніка. Слабы настаўнік проста скарыстае гэты час на дапрацоўку таго, што заказвае дзяржава. А настаўнік з шырокім кругаглядам знойдзе чым дапоўніць і як зацікавіць сваіх вучняў «сваёй» навукай ці «сваім» мастацтвам. Асабліва такое патрабаванне павінны выстаўляць настаўнікі літаратуры. Але і для іншых такое трэба, нават для настаўнікаў матэматыкі. Вось сапраўды, ці шмат хто з тых, хто даўно ці нядаўна закончыў школу, калі ён не настаўнік матэматыкі, помніць, як знайсці вытворную лінейнай функцыі? Але ж на вывучэнне гэтай вытворнай патрачаны пэўны час, які мог бы быць патрачаным з нашмат большай карысцю для чалавека.

Напрыклад, увёўшы ў вучэбныя планы агульнай сярэдняй адукацыі асновы логікі, навукі, якую не здолеў засвоіць гімназіст Валодзя Ульянаў і якая з гэтай прычыны была выключана з вучэбных планаў савецкай школы.

Праскакаўшы бегла па некаторых з пазначаных пазіцый, спынюся больш падрабязна на апошняй (апошняй у маім пераліку, але першай па важкасці), на праблеме мовы навучання. Вось дзе сёння найбольш гарачы фронт паміж дзяржавай і грамадскасцю. Дзяржаўныя чыноўнікі (магчыма, нашчадкі тых, якіх насаджаў сюды Мураўёў-вешальнік) на чале з галоўным чыноўнікам ужо выбралі сабе мову зносін і гэтай адной мовай ім хацелася б абыходзіцца. Праблему для іх ствараюць некаторыя няўрымслівыя грамадзяне, якія лічаць роднай сабе мову беларускую. Ад гэтых няўрымслівых нельга проста адмахнуцца, бо іх сяк-так абараняюць Канстытуцыя і адпаведныя ёй законы, дзе ўнармаванае двухмоўе. Таму нейкія моўныя падачкі ім дзяржава робіць. Калі ж справа даходзіць да пытанняў прынцыповых, чыноўнікі пачынаюць бараніць «сваё» метадамі самай дасканлай казуістыкі.

Напрыклад, калі ў Магілёве ў першай палове 90-х пачалі стварацца ліцэі, паўстала пытанне аб тым, што адзін з ліцэяў павінен быць беларускамоўным. «Распрацоўвайце дакументацыю», – сказаў ініцыятарам начальнік упраўлення адукацыі. (Заўважце: *прыём першы – перакласці сваю працу на плечы патрабавальнікаў.*) Ініцыятары не сталі адмаўляцца, зрабілі неабходныя дакументы. «Добра, будзем выносіць на аблвыканкам», – пагадзіўся начальнік. «Мы хацелі б удзельнічаць у тым пасяджэнні аблвыканкама». – «Не трэба, самі разбярэмся». (*Прыём другі – прымаць рашэнні патаемна без удзелу грамадскасці ў іх абмеркаванні.*) На пасяджэнні начальнік паведаміў членам аблвыканкама, што маюцца дакументы на стварэнне беларускага ліцэя, але паколькі гэта новы орган адукацыйнага працэсу, трэба ўвесці ў штат упраўлення некалькі новых штатных адзінак (намесніка начальніка па беларускамоўным навучанні, беларускамоўнага інспектара ды інш.). Палічыўшы выдаткі на стварэнне такога ліцэя занадта вялікімі, аблвыканкамаўцы вырашылі адкласці пытанне на нявызначаны тэрмін. (*Прыём трэці – запалохаць тых, ад каго залежыць прыняцце рашэння, дарагоўляй праекта.*) Беларускага ліцэя ў Магілёве дагэтуль няма.

З беларускімі гімназіямі атрымалася інакш. Іх нібыта стварылі нават дзве. Але адну стварылі на базе непадрыхтаванай школы, дзе настаўнікі не валодалі беларускай мовай і не любілі яе. Таму, пераназваўшы звычайную школу нацыянальнай гімназіяй, не сталі пераводзіць яе на беларускамоўнае навучанне, а проста дадалі некалькі гадзін факультатыўных заняткаў мовы, ды праводзілі гэтыя заняткі так, што вучні ішлі туды з вялікай неахвотай. (*Прыём чацвёрты – даручыць справу няўмеламу выканаўцу, каб той сваім абыякавым выкананнем давёў усім, што справа не вартая, каб на яе траціць сродкі, бо «людзі самі не хочуць».*) У другой гімназіі справы пайшлі лепш, бо дырэктар парупіўся знайсці кваліфікаваных беларускамоўных настаўнікаў, але гэтага дырэктара за яго заслугі перавялі на больш высокую і больш аплатную пасаду, а ў гімназію прызначылі дырэктарам чалавека, якога лёс беларускай мовы не вельмі турбаваў. (*Прыём пяты, як дапаўненне чацвёртага – пазбаўляцца ад умелых і руплівых выканаўцаў, пакідаць няўмелых і абыякавых.*) Беларускіх гімназій зараз у Магілёве няма.

Тут паказаны толькі пяць прыёмаў заціскання ідэі, але ў арсенале вопытнага чыноўніка іх значна болей. Ці можна што зрабіць у такіх варунках? Жыццё паказвае, што нешта можна. Там, дзе людзі праяўляюць настойлівасць у дасягненні мэты з чыстай верай у сваю правату, чыноўніцкія перашкоды рушацца. Гэтаму ёсць ужо шмат маленькіх прыкладаў, але вялікая перамога складаецца з перамог маленькіх.

Успомнім сям'ю Каральковых з Горак, якія на пачатку стагоддзя запатрабавалі для сваёй дачкі Машы беларускамоўнага навучання. Былі абяцанкі: маўляў, будзе клас, але пазней, а зараз няхай павучыцца ў рускамоўным класе. Меркавалі, прывыкне дзіця, змірацца бацькі – і праблема знікне. Не змірыліся, не знікла. Было два гады хатняга навучання. Былі публікацыі ў прэсе, у адказ быў арганізаваны ціск «грамадскасці» на сям'ю, калі былыя вайскоўцы на бацькоўскім сходзе крычалі: вы не любіце Беларусь, бо колькі грошай пойдзе на клас з аднаго чалавека, а дзе іх Беларусі знайсці. Не дні, не месяцы, а гады жыцця на мяжы нярвовага зрыву. Пераадолелі. Маша пачала вучыцца ў беларускім класе, які пакрысе стаў папаўняцца. Заканчвала школу Маша ў беларускім класе з 15 аднакласнікамі.

Аналагічнай перамогі дабіліся бацькі Янкі Лапіцкага з Жодзіна.

Зараз у Магілёве маецца беларускамоўны клас з трох чалавек. Зноў жа, настойлівасць Надзеі і Зміцера Салаўёвых мела плён: для іх дачкі Ялінкі адкрыты беларускі клас з аднаго чалавека, пазней далучыліся яшчэ двое навучэнцаў. Цікава будзе прасачыць за развіццём падзеі. Зараз гэта другі клас і з класам працуе адна настаўніца. Праз два гады клас стане пятым і спатрэбяцца шмат настаўнікаў-прадметнікаў, якія валодаюць мовай. Ці знойдуць іх улады? Ці ўвогуле будуць шукаць? Ці не захочуць яны пазбавіцца ад такога класа? Маўляў, няма сродкаў. На беларускае ў нас заўсёды не хапае сродкаў: то газеты беларускія закрываюць, то гадзіны беларускай мовы скарачаюць, а потым спыняюць набор у ВНУ на спецыяльнасць «беларуская мова і літаратура» з-за «непатрэбы». Нават надрукаваць бланкі афіцыйных папер на мове – «не хапае сродкаў».

Як абараняцца Салаўёвым? Па-першае, яны ўжо зараз павінны паклапаціцца пра настаўнікаў для сваёй Ялінкі. Настаўнік матэматыкі, здаецца, ёсць. Гэта той самы, якога чыноўнік не пусціў у школу нават на безаплатныя заняткі. У Магілёве няма настаўніка з такімі заслугамі ў выкладанні матэматыкі і з такім добрым валоданнем мовай. Але яго дзесяць гадоў не пускалі ў школу – «не было вакансій». Да таго ж, трэба і настаўнікі геаграфіі, біялогіі. А дзе знайсці беларускамоўнага настаўніка фізкультуры? Упэўнены, чыноўнікі самі не будуць шукаць гэтых настаўнікаў. Тады ці знойдуць іх самі Салаўёвы? Ці пойдуць на кампраміс: маўляў, частку прадметаў можна і на рускай мове. Яе ж таксама дзеткі павінны ведаць.

Як бы там ні было, але перамагаць і ў нашых варунках магчыма. І перамогі рэальныя, бо адзін бок змагаецца адкрыта (за сваю мову!), а другі таемна. Ну сапраўды, не скажа чыноўнік адкрыта, што ён супраць мовы, хоць будзе шкодзіць ёй усім арсеналам «таемных» сродкаў.

Мы як бы паступова вяртаемся у сітуацыю XVI ст., калі школы стваралі рэлігійныя брацтвы. Брацтва знаходзіла дырэктара, запрашала настаўнікаў. Да прыкладу, Магілёўскае брацтва запрашала для сваёй школы настаўнікаў з Полацка і Кіева. Брацтва

засноўвала друкарню, у якой друкаваліся патрэбныя падручнікі. Усе праблемы школы вырашала брацтва.

І можна зразумець магілёўцаў, якія ў сярэдзіне VII стагоддзя адчынілі вароты маскоўскім войскам пад слова «беспарадкаў не чыніць і старыны не рушыць». Але шматтысячны гарнізон маскавітаў, які атабарыўся ў Магілёве, і не збіраўся выконваць абяцанне. «Давай гарэлкі! Давай мёду! Дзевак! Золата!..» Магілёўцы цярпелі. Калі разрабавалі цэрквы, – цярпелі. Калі разабралі і вывезлі ў Масковію абсталяванне школы і друкарні, – цярпелі. Але калі сталі забіраць і вывозіць святароў і настаўнікаў, гэта значыць самых разумных людзей, тут ужо магілёўцы раз’ятрыліся. Менавіта гэта і стала той кропляй, якая перапоўніла бочку цярпення. Вось тут і крыкнуў бурмістр Левановіч сваё знакамітае “Пара!” і ўзняў катаўскі меч. І загучаў вечавы звон. І кінуліся магілёўцы ўсім скопам – і стары, і малы, – на крыўдзіцеляў. І не было да іх літасці... Самусёву гару, дзе былі пахаваны целы салдат, дагэтуль у Магілёве завуць Касцерняй.

Сённяшні герб Магілёва нагадвае пра тыя падзеі. Гісторыю сваю мы не забылі, а таму застаецца надзея. Дарэчы, герб гэты – яшчэ адзін сімвал перамогі грамадскасці над дзяржавай.

# Ці трэба школе альтэрнатыва?

***Уладзімір Колас***

Ідэальнай школы няма, як няма нічога ідэальнага. Прэтэнзіі да сістэмы адукацыі і прапановы наконт таго, як яе палепшыць, будуць існаваць заўсёды, у любой краіне. Напрыклад, у свой час мы, ствараючы Беларускі гуманітарны ліцэй, бралі за ўзор мадэлі французскага і польскага ліцэяў. Тады яны нам здаваліся проста дасканалымі. А не так даўно і ў Польшчы, і ў Францыі адбыліся магутныя выбухі пратэстаў якраз у галіне адукацыі. Але, як кажуць, нам бы іх праблемы…

Школа паўсюль мусіць пастаянна ўдасканальвацца, мяняцца, адаптоўвацца да патрэб часу. І, разам з тым, яна павінна быць абароненай ад рэзкіх хістанняў і рамантычных авантур. А ролю пляцоўкі для смелых эксперыментаў, якія, тым не менш, неабходныя для ўдасканальвання і эвалюцыі ўсёй сістэмы, павінны выконваць якраз альтэрнатыўныя школы. Гэта – галоўная функцыя такіх пляцовак. Хаця могуць быць, безумоўна, і іншыя. Што да прыватных школ, то ў нас гэта перадусім – падвышаны камфорт і нібыта больш высокі ўзровень навучання. Хоць апошняе як раз не можа быць гарантавана, асабліва ў нашых умовах.

Галоўныя мэты і кірункі пошукаў альтэрнатыўных школ павінны не проста адпавядаць перспектывам развіцця краіны. Яны павінны значна выпярэджваць гэтае развіццё, рыхтаваць будучых лідараў перамен.

Што да Беларускага гуманітарнага ліцэя – мэты мы бачылі абсалютна ясна.

Па-першае: даць магчымасць маладым беларусам вучыцца па-беларуску.

Па-другое: пазбавіць гуманітарную сферу ад ідэалагічнай тэндэнцыйнасці, прапагандысцкай хлусні, якой былі працятыя праграмы і падручнікі па гісторыі, літаратуры…

Па-трэцяе: разняволіць вучня, даць яму магчымасць выбару таго кірунку, які яго найбольш цікавіць. Асабліва – у старэйшых класах, дзе адбываецца працэсператварэння падлетка ў дарослую асобу.

Гэтыя мэты вымагалі вырашэння шматлікіх іншых задач: пошуку адпаведных сучасных методык, стварэння новых праграм і падручнікаў, іншых захадаў для навучання і выхавання сучаснай моладзі, гатовай да функцыянавання ў сённяшнім і заўтрашнім грамадстве.

Але, як ні парадаксальна гэта гучыць, і сёння, у нібыта незалежнай Беларусі, усе праблемы нашай адукацыйнай сістэмы выглядаюць практычна гэтак сама, як і ў савецкія часы.

Безумоўна, заўсёды былі і ёсць настаўнікі-самародкі, ёсць школы, дзе воляю лёсу падабраўся ўдалы педагагічны калектыў. Але гэта – выключэнні. Для ўсёй беларускай сістэмы адукацыі неабходнасць у альтэрнатыўных пляцоўках сёння папросту крытычная. Без іх мы рызыкуем атрымаць новыя пакаленні беларусаў, якія не будуць гатовыя да выклікаў не толькі будучыні, але і сучаснасці. І Беларусь, з яе аўтарытарна-калгасным менталітэтам на дзяржаўным узроўні, які цяпер рэпрадукуецца праз сістэму адукацыі, проста знікне з мапы свету, таму што будзе не ў стане адстойваць сваё месца ў працэсе глабалізацыі.

Відавочна, нехта лічыць, што так і трэба. Але мы думаем іначай.

# Настаўнік і рэпетытар – паплечнікі ці канкурэнты?

*Міхась Булавацкі*

Няўдалыя школьныя рэформы апошніх гадоў, асабліва пераход на 12-гадовую праграму і раптоўная адмова ад яе, выбілі настаўнікаў з наезджанай каляіны – гэта, натуральна, не паспрыяла павышэнню эфектыўнасці іх працы. У сітуацыі, калі набор у ВНУ павялічваецца і адпаведна ўзрастае патрэба і жаданне атрымаць вышэйшую адукацыю ў большай колькасці выпускнікоў школ, паўстае праблема дастатковасці школьнай падрыхтоўкі для больш-менш прыстойнага навучання ў ВНУ. Вырашаць гэтую праблему ў такім масавым парадку наша школа яшчэ не навучылася. І людзі кінуліся шукаць памочнікаў у гэтай справе – «рэпетытараў». Дзяржава, не змогшы адолець гэтае «зло», урэшце прызнала карыснасць працы рэпетытараў і ўзаконіла іх дзейнасць, атрымліваючы дадатковыя падаткі ў бюджэт. Цяпер хатнія настаўнікі працуюць афіцыйна і цікава прасачыць за развіццём іх узамаадносін са школьнымі настаўнікамі.

Шчыра скажу, калі я працаваў у школе ці ліцэі, мяне зусім не турбавала, карыстаецца хтосьці з маіх вучняў паслугамі рэпетытара ці не. Калі карыстаецца, і гэта яму дапамагае, то і на здароўе. А калі б шкодзіла, я са сваім досведам адразу б тое заўважыў і прыняў меры. Ды і сам вучань хутка разабраўся б, што дапамога рэпетытара вядзе не туды і адмовіўся б ад яго паслуг.

А цяпер, калі я ўжо стала займаюся хатнім настаўніцтвам (мне такі тэрмін падабаецца больш, чым «рэпетытар»), заўважаю цікавую рэч: некаторыя настаўнікі вельмі раўніва ставяцца да таго, што іх вучні займаюцца з рэпетытарамі. У нейкім сэнсе настаўніка (часцей настаўніцу) можна зразумець. Вось яна выпускае свае адзінаццатыя класы, і ёй на наступны год даюць пяцікласнікаў, з якімі яна некалі дойдзе да адзінаццатага і зноў будзе тлумачыць асаблівасці вылічэнняў з лагарыфмамі, сінусамі-тангенсамі. Але ж за пяць-шэсць год яна прызабудзе гэтыя асаблівасці і дзе-нідзе

заблытаецца, дзе-нідзе зробіць памылку. Натуральна, што вучні (нават найлепшыя) гэтай памылкі не заўважаць, бо ў новай тэме яшчэ не асвоіліся. Але ж вось устае нейкі верад, які ўжо разабраўся ў тэме з рэпетытарам, і гаворыць на ўвесь клас: «А тут у вас памылка, трэба рабіць вось так…».

І настаўніца разумее, што вучань мае рацыю, але як патлумачыць гэтым заціхлым у зацікаўленым чаканні галовам, што ў яе дома свае дзеці, якія патрабуюць шмат увагі, а там справаздача па класным кіраўніцтве, а там візіты ў праблемныя сем'і, і яшчэ, і яшчэ… І на тое, каб грунтоўна паўтарыць няпростую тэму, часу не хапіла.

Падобныя сітуацыі сустракаюцца ў маёй цяперашняй практыцы. Прыходзіць дзяўчына і хваліцца:

– А нам настаўніца новую тэму тлумачыла, дык я ў яе памылку знайшла.
– І што?
– Сказала на ўвесь клас.
– А яна?
– Накрычала на мяне. А потым пакінула пасля ўрокаў і папрасіла, каб іншым разам я гаварыла пра яе памылкі не пры вучнях, а сам-насам.
– Так і трэ было зрабіць.
– Ага! А яна пра мае памылкі пры ўсіх крычыць.
– Дык ты рада, што адпомсціла?
– Ну не рада…
– Вось бачыш, радасці тут мала. Далей рабі так, як яна папрасіла.

Такім чынам, зраблю першую выснову: рэпетытараў недалюбліваюць слабыя настаўнікі. У значнай меры гэта так. Але не заўжды. Здараецца, што скепсіс да рэпетытараў маюць і найлепшыя настаўнікі. Дапамога рэпетытараў іх вучням як бы закранае іх імідж, прыніжае яго. Толькі ж гэтую сітуацыю трэба асэнсаваць больш грунтоўна.

Рэч у тым, што індывідуальнае навучанне, несумненна, больш эфектыўнае, чым калектыўнае. Як бы ні пацеў школьны настаўнік са сваім класам у трыццаць чалавек, ён не зможа навучыць кожнага,

скажам, той жа матэматыцы да ўзроўню, якога ён дасягнуў бы, працуючы з вучнем паасобку. Дзеці розныя. Адзін хутка ўспрымае і рвецца наперад, але яму: «Пачакай, іншыя за табой не паспяваюць». Да другога ж усё даходзіць марудней, яму патрэбен пэўны час, каб усвядоміць пачутае, але дзе настаўніку той час знайсці.

Маруднае мысленне не раўназначна кепскаму мысленню. У лётчыкі няхай ідуць тыя, хто хутка мысліць, а вось будаўнікі мастоў няхай бы думалі доўга і надзейна. Грамадству патрэбны і адны, і другія.

Школа ж сваім калектыўным навучаннем спрабуе паправіць прыроду, спрабуе «выраўняць» навучэнцаў. І хоцькі-няхоцькі, некаторым для атрымання паўнавартаснай адукацыі патрабуецца дадатковая дапамога. Асабліва, калі чалавек мяркуе атрымаць спецыяльнасць у нейкай прэстыжнай ВНУ.

З гэтай прычыны кваліфікаваныя рэпетытары будуць заўсёды запатрабаваныя. «А некваліфікаваныя?» – спытаюць у мяне. Закранем і гэтае пытанне. Мне аднойчы давялося пачуць параўнанне настаўнікаў і рэпетытараў адпаведна з урачамі і знахарамі. Мяркую, сёння ўжо не трэба даказваць некарэктнасць такога параўнання. Усё ж любы рэпетытар мае і педагагічную адукацыю, і пэўны досвед педагагічнай працы. Скажу болей. Рэпетытар – гэта свабодны настаўнік, настаўнік рынкавы. А на рынку, як вядома, існуе жорсткая канкурэнцыя, у якой выжываюць мацнейшыя. Людзі сёння асцярожныя і не аддадуць сваё дзіця і свае грошы нейкаму «а можа». Яны распытаюць сяброў, сваякоў, знаёмых, у каго дзеці толькі скончылі школу і кудысьці паступілі, і скарыстаюцца іх парадамі.

«Рэпетытар» – з аднаго боку, слова трапнае, бо хатні настаўнік вытрэніроўвае (рэпетыруе) выкарыстанне тых ведаў, якія вучань у школе ўсё ж атрымлівае. Яшчэ кажуць: рэпетытар дрэсіруе, «нацягвае» вучня на рашэнні пэўнага тыпу задач. У гэтых задзірыстых словах ёсць доля праўды, бо, натуральна ж, рэпетытар арыентуецца ў сваёй працы з вучнем на тыя заданні, якія традыцыйна прапануюць на цэнтралізаваным тэставанні. Пераважна дзеля гэтага і прыходзяць вучні да рэпетытара. Але дасведчаны рэпетытар яшчэ і ўпарадкуе веды, атрыманыя вучнем у школьнага настаўніка. Бо на адным

занятку рэпетытара вучань можа асэнсаваць інфармацыю, якую ў школе ён успрымаў маленькімі порцыямі на працягу дзесяці-пятнаццаці школьных урокаў і якая так і засталася ў яго памяці наборам не звязаных паміж сабой звестак. Прычым рэпетытар яшчэ і дапаўняе тыя веды (тады яго можна назваць «давучальнікам»).

Да прыкладу, я магу навучыць маладога чалавека развязваць пераважную большасць квадратных раўнанняў вусна з дапамогай просценькай тэарэмы Віета. Гэтую тэарэму ў школе вывучаюць мімаходзь  дый забываюць. А тут выяўляецца, што яна значна аблягчае далейшыя стасункі з матэматыкай, бо квадратнымі раўнаннямі працятая школьная праграма па матэматыцы апошніх пяці год. Чалавек бачыць, як яму дапамагае гэтая тэарэма і радуецца, больш за тое, пачынае выкарыстоўваць яе ў класе. І тут зноў канфлікт. Настаўніца не разумее, як ён развязаў тое раўнанне на кантрольнай («Ты ўгадаў корані! Ці падгледзеў у каго!»), і прадбачліва зніжае адзнаку. Ёй бы самой напрасіцца на адзін урок да таго рэпетытара, але ж зноў – не хапае часу.

Мяркую, было б мэтазгодным упраўленню адукацыі запрасіць якога-небудзь дасведчанага рэпетытара прачытаць пару лекцый на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Аднойчы я такое прапанаваў чалавеку, які займаецца арганізацыяй курсаў, і пачуў цікавае: «Цяпер настаўнікі самі прапануюць нам, якіх лектараў запрасіць на такія курсы». Атрымліваецца, што паслухаць умелых рэпетытараў не хочуць самі настаўнікі? Не разумею.

Шаноўныя настаўнікі! Вам не трэба нервавацца, калі бацькі якога-небудзь з вашых вучняў знайшлі сродкі на працу з рэпетытарам. Парадуйцеся гэтаму, бо далейшыя поспехі вашых выпускнікоў падвышаюць і ваш настаўніцкі імідж. Праўда, тут калі-нікалі славай даводзіцца дзяліцца.

Я ведаў аднаго таленавітага хлопца, у якога быў добры настаўнік матэматыкі, але ён і з рэпетытарам займаўся, пра што настаўнік не ведаў. Хлопец некалькі разоў перамагаў на рознага ўзроўню алімпіядах. Пазней я сказаў настаўніку, што хлопцу яшчэ дапамагаў рэпетытар. «Ага, – сказаў той, – я навучыў, а ён грошы зарабляў». «Ну так, – усміхнуўся рэпетытар, калі я перадаў яму словы настаўніка, –

чыёй заслугі ў тых перамогах болей, яшчэ трэба разабрацца, а буйныя прэміі і падзякі за іх толькі яму аднаму». Як кажуць, кожнаму сваё.

Але перамогі на алімпіядах – гэта ўжо матэматычны спорт, да якога рэпетытары маюць малое дачыненне. Яны працуюць больш на агульнае матэматычнае развіццё. І было б натуральна, калі б настаўнікі і рэпетытары сталі паплечнікамі ў агульнай справе.

P.S.

Напрыканцы лютага газета «Вечерний Брест» надрукавала артыкул «Охота на знания», у якім распавядаецца пра платнае рэпетытарства ў школах як пра альтэрнатыву свабоднаму рэпетытарству. Працытуем частку:

«*Платные образовательные услуги, которые “повесили” на школу в качестве дополнительной нагрузки, стали своеобразным бонусом для озабоченных родителей будущих абитуриентов. Меньше головной боли: не надо искать преподавателя, договариваться о подъемных для семейного бюджета расценках и т. д. Ну и школа не в убытке, даже наоборот… дополнительные занятия по учебным предметам пользуются спросом, по которому, собственно, и составляется план работы. Как правило, родители заключают договор сразу на весь учебный год – с сентября по май.*

*— Плюсов у подобных услуг в школе немало, — делится мнением мама будущего выпускника. — Во-первых, занятия проходят в знакомых стенах. Во-вторых, сын хорошо знает учителя, не надо никаких адаптаций и т. д. В-третьих, это гораздо дешевле, чем репетитор со стороны. Мы выбрали групповые занятия, поэтому час обходится всего в 9 тысяч рублей. А наша знакомая репетитору дочери платит почти 35 тысяч! Причем эффект тот же: наши дети репетиционное тестирование по русскому языку сдали одинаково*» (усе вылучэнні ў тэксце мае — М.Б.).

Можна было б крыкнуць «Салют!» кіраўнікам адукацыі (не толькі берасцейскім), якія, здавалася б, знайшлі панацэю супраць «дзікіх» рэпетытараў. Але не ўсё так проста.

Калі рэпетытараў вывелі з «чорнага» рынку ў «белы», г. зн. дазволілі ім афіцыйную рэгістрацыю з выплатай дзяржаве падаткаў, і ўбачылі памеры гэтай з’явы, наверсе жахнуліся і задумаліся. З аднаго боку, добра, што дадатковыя настаўнікі дапамагаюць навучэнцам засвоіць школьную праграму на больш высокім узроўні. Школы выпускаюць лепш падрыхтаваных абітурыентаў — і хвала школе! З іншага боку, такая колькасць памочнікаў сведчыць пра тое, што не ўсё ў школе ладна, што школа відавочна не дапрацоўвае. І гэтае сведчанне кідае цень на ўсю сістэму адукацыі ў дзяржаве.

Да таго ж, чаму не паспрабаваць Міністэрству адукацыі пагаспадарыць і на гэтым рынку. Бо неяк жа зарабляць грошы трэба, іх заўсёды не хапае — не толькі той ці іншай сям’і, але і розным міністэрствам. А грошы, якія паступаюць ад падаткаў рэпетытараў, ідуць жа не Міністэрству адукацыі, а Міністэрству фінансаў. Як бы — нехта іншы гаспадарыць на тваім полі. Несправядліва і няправільна!

І вось — знойдзены варыянт, пры якім «і ваўкі сытыя, і козы цэлыя».

Але паслухаем што распавядаюць вучні:

— Настаўніца аб’явіла аб тым, што будуць праводзіцца факультатывы па матэматыцы і што калі хто не будзе хадзіць на факультатывы, у таго будуць праблемы з адзнакамі. Ніхто туды не хоча хадзіць, але будуць. На тых факультатывах будзе тое, што і на ўроках. Акрамя таго, факультатывы пастаўлены сёмым і восьмым урокамі, калі мы ўжо стомленыя і кепска разумеем. А плата невялікая: дзесяць тысяч за ўрок, значыць, сорак тысяч за месяц…

Магчыма, сапраўды, для яго сям’і сорак тысяч — сума невялікая. Але падлічым: дваццаць пяць вучняў па сорак тысяч за месяц — і ліцэй мае дадатковы мільён. Вось так паступова наша бясплатная адукацыя становіцца платнай. Скажуць: ну дык гэта ж дадатковая адукацыя. Наколькі гэтая дадатковая адукацыя добраахвотная, — мы ўжо ведаем. Але асэнсуем яшчэ адзін аспект. Да прыкладу, тэма «Лагарыфмы» ўваходзіць у абавязковую праграму па матэматыцы для сярэдняй школы, таму яна павінна вывучацца на асноўных занятках. Але, калі ўвесь клас наведвае факультатыўныя заняткі,

настаўніца можа перанесці гэтую тэму сюды, вызваліўшы час асноўных заняткаў на нешта іншае. І калі ў класе знойдзецца адзін «пратэстант», які не захоча наведваць факультатыўныя заняткі (напрыклад, па той прычыне, што для яго сям'і і сорак тысяч — істотная сума), то вось ён і папаўся: на кантрольнай па лагарыфмах атрымай «законны» нізкі бал за тое, што не ведаеш праграмны матэрыял і потым даказвай, што ты «не вярблюд». Як гэта падобна на ўсю беларускую прававую сістэму!

З цягам часу знаходзяцца ўсё новыя і новыя падставы гаварыць пра маральнасць настаўніцкай працы. Раней настаўнікі неяк саромеліся займацца рэпетытарствам са сваімі вучнямі. Атрымлівалася так, што сам не навучыў, а цяпер і нажываешся на гэтым. У асобных выпадках ствараліся «тандэмы»: настаўнік А раіў сваім вучням настаўніка Б у якасці рэпетытара, настаўнік Б у сваю чаргу перадаваў сваіх вучняў настаўніку А. Зараз гэтая сарамлівасць адышла ў нябыт, настаўнікі самі імкнуцца шчыраваць на сваім полі. І не папракнеш іх: усе ў краіне заклапочаны тым, як зарабіць, кожны вырашае гэтую праблему, як можа і як дазваляе ўсё больш скамечанае сумленне. Бо на гэтым жыве ўся дзяржава.

Пратэставаць у прыстойнай форме вучні не ўмеюць, дый бацькі ім таго не раяць. «Сабе даражэй!» Так паступова школа плодзіць прыстасаванцаў і (моднае зараз слова) «пафігістаў». Праблема тут нават не толькі і не столькі ў грошах. Куды важней тое, што чалавека зневажаюць і прывучаюць яго цярпець тую знявагу. І чалавек прывыкае жыць з прыніжаным гонарам, з усведамленнем права іншага чалавека распараджацца тваім часам, тваімі жаданнямі і ўрэшце тваім лёсам. Людзі яшчэ як бы разумеюць і як бы яшчэ адчуваюць ненармальнасць усяго такога, але ж...

Бацькам здаецца, што вось скончыць сын школу, пойдзе ў дарослы свет і там будзе інакш. Не, не будзе інакш. Будзе тое ж, магчыма нават у больш жорсткай форме. І калі не навучыць абараняцца, чалавек загіне (я – не пра фізічную смерць).

На жаль, прававая культура бацькоў (і тым больш іх дзетак) вельмі нізкая, амаль на нулі. Абараняцца не ўмеем, лепш уціснем галаву

ў плечы і перачакаем-перацерпім. Мо, як абыйдзецца. Таму адміністрацыя навучальнай установы раскашуе тут як толькі можа. І беларуская школа пачынае ўсё больш і больш нагадваць рабаўладальніцкую прастору. Праўда, там і настаўнікі — рабы. Рабы над рабамі. І пад такімі ж рабамі. А як інакш можа быць у рабаўладальніцкай дзяржаве?..

# Грамадзянскія кампетэнцыі: што трэба беларусу, каб стаць грамадзянінам

***Тамара Мацкевіч***

Гэты артыкул – спроба прааналізаваць выклікі, якія сёння стаяць перад беларускім грамадствам з пункту гледжання пабудовы дэмакратыі, і сфармуляваць грамадзянскія кампетэнцыі, якія патрэбны для дасягнення гэтай мэты. Фармаванне гэтых кампетэнцый і будзе галоўнай задачай грамадзянскай адукацыі ў сучаснай Беларусі.

Ключавыя кампетэнцыі, як гэта прапісана ў дакументах Еўрапарламента і Савета Еўропы, ёсць сістэмай ведаў (*knowledge*), уменняў (*skills*) і каштоўнаснага стаўлення ці пазіцыі (*attitudes*). Да гэтай сістэмы дадаецца крытычнае мысленне, крэатыўнасць, уменне вырашаць праблемы, прымаць рашэнні, уменне кіраваць сваімі эмоцыямі і г. д.



Як вядома, рамкавыя ўмовы, прапанаваныя Еўрапарламентам і Савета Еўропы, прадугледжваюць 8 груп ключавых кампетэнцый (гл. малюнак). Разгледзім асобна грамадзянскія кампетэнцыі, прапісаныя ў тым жа дакуменце[1]. Яны таксама складаюцца з ведаў, уменняў і каштоўнаснай пазіцыі.

**Веды:**

- веданне паняццяў дэмакратыі, справядлівасці, роўнасці, грамадзянства і грамадзянскіх правоў;
- веданне таго, як яны выкарыстоўваюцца рознымі інстытутамі на мясцовым, рэгіянальным, нацыянальным, еўрапейскім і міжнародным узроўнях;
- веданне як сучасных падзей, так і асноўных падзей ды тэндэнцый нацыянальнай, еўрапейскай і сусветнай гісторыі;
- уяўленне пра мэты, каштоўнасці і палітыку грамадскіх і палітычных рухаў;
- веданне працэсу еўрапейскай інтэграцыі ды еўрапейскіх структур, асноўных мэт і каштоўнасцей, а таксама дасведчанасць наконт разнастайнасці і культурнай ідэнтыфікацыі ў Еўропе.

**Уменні:**

- здольнасць эфектыўна ўзаемадзейнічаць з іншымі ў публічнай сферы;
- здольнасць выяўляць салідарнасць і зацікаўленасць у вырашэнні праблем, якія ўплываюць на мясцовыя і шырэйшыя супольнасці;
- навыкі крытычнай і творчай рэфлексіі;
- канструктыўны ўдзел як у дзейнасці супольнасцей, так і ў прыняцці рашэнняў на ўсіх узроўнях: ад мясцовага да нацыянальнага і еўрапейскага, уключна з галасаваннем;

**Каштоўнасная пазіцыя:**

- павага да правоў чалавека, уключна з роўнасцю як асновай дэмакратыі;
- павага і разуменне адрозненняў паміж сістэмамі каштоўнасцей розных рэлігійных і этнічных груп;

1 Recommendation on key competences for lifelong learning, (2006/962/EC), 18.12.2006 http://eur-lex.europa.eu/LexUriServ/site/en/oj/2006/l_394/l_39420061230en00100018.pdf.

- пачуццё прыналежнасці да сваёй мясцовасці, краіны, ЕС і Еўропы, свету;
- жаданне ўдзельнічаць у дэмакратычным прыняцці рашэнняў на ўсіх узроўнях;
- пачуццё адказнасці, разуменне і павага агульных каштоўнасцей (напр., павага дэмакратычных прынцыпаў);
- канструктыўны ўдзел (уключае грамадскую дзейнасць, падтрымку сацыяльнай разнастайнасці і згуртаванасці, ды ўстойлівага развіцця, гатоўвасць паважаць каштоўнасці і прыватнае жыццё іншых людзей).

Калі прааналізаваць, што закладзена ў рамкавыя ўмовы Еўрапарламента і Савета Еўропы, то мы ўбачым, што грамадзянскія кампетэнцыі ў еўрапейскім разуменні ўключаюць веды, уменні і каштоўнаснасці, неабходныя для сацыялізацыі і жыцця ў «гатовай дэмакратыі», а не ў той, якую яшчэ трэба адваяваць і пабудаваць.

У нас грамадства далёкае ад дэмакратыі. Мы маем іншыя выклікі, таму Еўрапейскія рамкі грамадзянскіх кампетэнцый для нас занадта вузкія. Перад беларускім грамадствам стаяць задачы пазбаўлення ад аўтарытарызму ды пабудовы дэмакратыі, таму і грамадзянскія кампетэнцыі, патрэбныя для гэтай мэты, могуць адрозніваецца ад грамадзянскіх і сацыяльных кампетэнцый, сфармуляваных у дакументах Савета Еўропы.

Прааналізаваўшы гэтыя выклікі, можна будзе сфармуляваць кампетэнцыі, адэкватныя патрэбам сучаснага беларускага грамадства і грамадзяніна, каб шукаць механізмы іх фармавання сродкамі грамадзянскай адукацыі.

## Аўтарытарызм: версія 2.0

У якасці асноўнага дакумента, які апісвае сітуацыю ў сучасным свеце, разгледзім вынікі даследаванняў, якія правяла ў 2009 г. арганізацыя “Freedom House” разам з радыё «Свабодная Еўропа» і «Свабодная Азія«. У прыватнасці, даклад экспертаў, які носіць назву «Падрыў дэмакратыі: дыктатары XXI стагоддзя»[2]. У ім праводзіцца

2 http://www.UnderminingDemocracy.org.
On June 4, 2009, a high level conference will take place in Washington DC to examine the strategies of modern authoritarian regimes.

аналіз агульных рыс аўтарытарных рэжымаў XXI стагоддзя, а таксама таго, якім чынам яны здолелі ў апошнія гады дамагчыся значнага скарачэння палітычных свабодаў ва ўсім свеце.

У дакладзе вызначаны асноўныя небяспекі, якія сыходзяць ад аўтарытарных рэжымаў сёння:

- перафармулёўка і скажэнне паняцця дэмакратыі (*Democracy Redefined*);
- інтэрнэт пад пагрозай (*Internet Under Threat*);
- міжнародная дапамога аўтарытарным рэжымам (*Authoritarian Foreign Aid*);
- кантраляванне і ўплыў на палітыку дэмакратычных інстытутаў (*Rules-Based Organizations Under Siege*);
- несвабодная адукацыя – інструмент для разлажэння наступнага пакалення (*Illiberal Education — Tainting the Next Generation*).

Асноўныя высновы даклада экспертаў наступныя:

- сёння аўтарытарныя рэжымы расхістваюць дэмакратыю больш дасканалымі і вытанчанымі спосабамі, атрымоўваючы на гэтыя мэты шчодрае фінансаванне. Гэты новы клас дыктатараў увасабляе самую сур’ёзную пагрозу пабудове міжнароднай сістэмы, заснаванай на ўладзе закону, захаванні правоў чалавека і адкрытым выказванні думак.
- сучасныя аўтакратыі карыстаюцца як традыцыйным, так і інавацыйнымі падыходамі дзеля дасягнення сваіх мэт. Сярод традыцыйных дзеянняў, скіраваных на падрыў дэмакратыі: маніпуляванне праваой сістэмай, кантроль сродкаў масавай інфармацыі і наўпростае запалохванне. Тут нічога новага з часоў Сталіна ці Мао – дыктатура і ёсць дыктатура.

У дакладзе таксама зазначаецца, што сучасныя аўтакратычныя рэжымы:

- выкарыстоўваюць з падрыўнымі мэтамі дыскусіі і зносіны на прасторах інтэрнэту (кідаюць у бой цэлыя войскі каментатараў і правакатараў для зводу ў бок і зрыву цалкам разумных і правамерных онлайнавых дыскусій);

- прыстасаваліся да сучаснага глабальнага капіталізму, выкарыстоўваючы рынак для ўзмацнення свайго кантролю: камерцыйныя медыі адцягваюць увагу ад палітыкі і праблем; грамадзянам дазволена атрымліваць асалоду ад асабістых свабод, у тым ліку паездак за мяжу ды багацця спажывецкіх тавараў, немагчымых у колішнім СССР;

- новыя аўтарытарныя рэжымы таксама фармуюць міжнародныя каштоўнасці, выкарыстоўваючы самыя передавыя і добра фундаваныя медыйныя прадпрыемствы. Напрыклад, Крэмль запусціў і шчодра фінансуе тэлеканал «Russia Today», спадарожнікавы тэлеэфір запоўнены рознажанравымі кітайскім ды іранскімі каналамі;

- прыкладаюць масу сілаў для падрыву дзейнасці міжнародных арганізацый, што дзейнічаюць на аснове ўсталяваных правіл і выступаюць у падтрымку дэмакратыі і правоў чалавека. Сярод іх Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ), Арганізацыя амерыканскіх дзяржаў і Еўрапейскі суд па правах чалавека. У Арганізацыі Аб'яднаных Нацый гэтыя краіны ствараюць часовыя кааліцыі для пазбягання крытыкі на свой адрас, выступаюць супраць прыняцця санкцый і прасоўваюць антыдэмакратычныя захады.

- замест татальнага кантролю выкарыстоўваюць «кіраваны палітычны дыскурс», у якім ужо нібыта адсутнічае відавочны дыктат. Такая кіраванасць забяспечваецца за кошт замоўчвання некаторых навін ці інфармацыі або іх перапрацоўкі.

**Выклікі, якія стаяць перад беларускім грамадствам**

Як мы бачым, праблемы і метады дзеяння, найбольш характэрныя для сучасных аўтарытарных рэжымаў, апісаных у дакладзе, прысутнічаюць і ў Беларусі. У такіх умовах грамадзянскія кампетэнцыі, прызначаныя для паўнавартаснага існавання ў дэмакратычнай цывілізаванай прасторы, не патрэбныя для жыцця ў сучаснай Беларусі. Больш за тое – яны перашкаджаюць сацыялізацыі. Гэта правакуе адцёк маладых найбольш адукаваных і амбітных людзей з краіны.

Разам з традыцыйнымі метадамі знішчэння дэмакратычных інстытутаў і адносін (такімі, як рэпрэсіўны ціск на эканоміку, судовую сістэму, армію, адукацыю, медыцыну...), кіруючы рэжым таксама выкарыстоўвае ўсё больш хітрыя і завуаляваныя метады, якія існуюць у інфармацыйным грамадстве. Сярод іх:

- **дыскрэдытацыя брэндаў**: мы бачым, як на вачах некалі моцныя, аўтарытэтныя ды гучныя дэмакратычныя арганізацыі і палітычныя структуры нібыта драбнеюць, пазбаўляюцца інтэлектуалаў, расколваюцца на часткі. Але адмыслова не ліквідуюцца дзяржавай, а працягваюць існаваць, дэманструючы грамадзянам сваю слабасць і недзеяздольнасць;
- **знішчэнне і дыскрэдытацыя яркіх асобаў і лідараў**: тут найбольш яскравы прыклад – палітычныя зняволеныя: кандыдаты ў прэзідэнты, сябры іх перадвыбарчых штабоў, праваабаронца Алесь Бяляцкі. Апошняга ўлады нейтралізавалі за тое, што яго арганізацыя фіксавала факты парушэння беларускага заканадаўства, у тым ліку фальсіфікацыі выбараў. Аўтарытэтнага ў свеце і вядомага, бадай, кожнай беларускай сям'і праваабаронцу прапагандаператварыла ў злодзея і падатканяплатніка;
- **выкарыстанне псеўданезалежнай і незалежнай прэсы**: незалежная прэса паступова жаўцее, адштурхоўваючы ад сябе эліту і адцягваючы ўвагу дэмакратычнага электарату ад сур'ёзных тэм;
- **стварэнне псеўдадэмакратычных структур грамадзянскай супольнасці**: тут гаворка ідзе не толькі пра БРСМ і «Белую Русь». Цяпер з боку ўлады сур'ёзна вядзецца размова пра стварэнне «канструктыўнай апазіцыі»;
- **выкарыстанне сацыяльных сетак, нанятых каментатараў**: сацыяльныя сеткі, форумы робяцца пляцоўкамі прапаганды і адтулінамі для выпуску пары ў віртуальную прастору для незадаволеных, тым самым зніжаецца сацыяльная і пратэставая актыўнасць;
- **немагчымасць працаваць адкрыта**: структуры грамадзянскай супольнасці загнаныя ў падполле, вымушаны хаваць інфармацыю, таму грамадству цяжка зарыентавацца, хто ёсць кім. Адсюль лёгкасць маніпулявання нават сябрамі адной арганізацыі;

- **расколы грамадства паводле розных параметраў**: кожны месяц нам прапануюць групы, якія мы мусім зненавідзець: прадпрымальнікі, апазіцыя (пятая калона), заможныя, банкіры, палякі, аўтамабілісты (што скупілі валюту), беларускамоўныя, неправаслаўныя і г. д.;
- **свядомае знішчэнне нацыянальнай ідэнтычнасці, мовы, культуры краінатворчай нацыі**: сённяшняя дзяржава не зацікаўлена, каб беларусы ўсвядомілі свае нацыянальныя карані, аднавілі традыцыйныя каштоўнасці. Тады ж высветліцца, што абсалютная большасць нашых грамадзян – прадстаўнікі заходняй цывілізацыі: яны маюць еўрапейскую ментальнасць ды каштоўнасці, а дэмакратыя – гэта наш цывілізацыйны выбар. Цяпер уладам лягчэй маніпуляваць масавай свядомасцю, навязаць нам шлях у нікуды;
- **выкарыстанне ў сваіх мэтах інстытутаў замежных краін**: праграмы дэмакратычнага свету, скіраваныя на супрацоўніцтва з недэмакратычнымі ўладамі і псеўдаграмадскімі структурамі толькі шкодзяць пабудове грамадзянскай супольнасці Беларусі, разбураюць веру ў дэмакратычную салідарнасць.

Для выжывання ў такіх умовах замест грамадзянскіх кампетэнцый, прапісаных у еўрапейскіх дакументах, сённяшняму беларусу патрэбны канфармізм, пасіўнасць, уменне падпарадкоўвацца, уменне апраўдаць сваю неграмадзянскую ці далёкую ад маралі пазіцыю.

Крытычнае мысленне трэба завуаляваць дэмагогіяй, уменне вырашаць праблемы замяніць пазіцыяй «мая хата з краю». Для кар’ернага росту спатрэбяцца навыкі маніпуляцыі людзьмі і групамі людзей. Што праўда, крэатыўнасць і ўменне кіраваць эмоцыямі давядзецца пакінуць – гэтыя кампетэнцы крытычна важныя для фізічнага існавання і прыстасавання да беларускай рэчаіснасці.

### Ключавыя кампетэнцыі для беларускага грамадства

Аднак, грамадзянскія кампетэнцыі – гэта не кампетэнцыі для выжывання. Яны маюць прынамсі тры вымярэнні. У плане індывідуальнай перспектывы – гэта кампетэнцыі для паўнавартаснай самарэалізацыі і самаактуалізацыі асобы, яе сацыяльнай

інклюзіўнасці і актыўнай грамадзянскасці, працаўладкавання і кар'еры. З пункту гледжання перспектывы для грамадства – гэта кампетэнцыі для існавання канструктыўнай дэмакратыі. І трэцяе вымярэнне – перспектыва для далейшага развіцця і рынку працы – гэта навыкі для інавацый.

Калі ўлічыць гэтыя перспектывы, то сучаснаму беларускаму грамадзяніну найбольш патрэбны:

- **юрыдычныя кампетэнцыі**: гэта найперш юрыдычныя веды. У школах няма практычна-арыентаванага юрыдычнага мінімуму: падліку падаткаў, асноваў працоўнага права, правоў грамадзяніна. Кожная грамадская арганізацыя Беларусі павінна праводзіць прававы лікбез для сваёй мэтавай групы. Найпершая задача беларусаў – вяртанне законнасці;
- **уменне прымаць адказныя рашэнні і ўменне бараніць свой выбар**;
- **крытычнае мысленне**: уменне адрозніць інфармацыю ад прапаганды, веданне прыёмаў, якімі карыстаюцца медыя для «прамыўкі мазгоў», уменне аналізаваць, выбудоўваць лагічныя ланцугі;
- **кампетэнцыя «шукаць і знаходзіць праўдзівую інфармацыю»**;
- **моўныя кампетэнцыі**: у беларускіх умовах іх трэба аднесці да грамадзянскіх. Беларусам як мага хутчэй неабходна вырвацца з рускамоўнай інфармацыйнай прасторы. Рускамоўная прастора – не свабодная, не сучасная і не дэмакратычная, паколькі не ёсць свабоднай Расія, дзяржаўны строй якой згаданыя эксперты вызначылі як «выбарна-капіталістычная клептакратыя». Звяртаючыся да расійскіх крыніц, мы маем скажоную, апрацаваную тымі ж «хітрымі» метадамі інфармацыйнага грамадства карціну свету;
- **культурная самаідэнтыфікацыя і культурнае самавыяўленне**: усведамленне, што дэмакратыя – частка нашай культуры, нашай ментальнасці;
- **імунітэт да спроб расколоць беларускае грамадства**: па лініях, па якіх ніколі не праходзіў падзел;
- ну і асноўнае – **вяртанне ў грамадства каштоўнасцей**: з самага верху нам навязваюць скажоныя сямейныя каштоўнасці,

> на прыгонна-кантрактнай працы знікае прафесійная этыка, у школах дзяцей заганяюць у піянеры і БРСМ. А калі ты адзін раз пераступіў мараль ці пайшоў супраць уласнай волі, то і надалей можна быць амаральным… Сёння настаўнікі адкрыта збіраюць грошы на аднолькавыя ручкі, каб дзецям лягчэй было спісваць на экзаменах, бухгалтары падганяюць пад патрэбныя лічбы справаздачы, дактары выпісваюць тыя лекі, якія трэба прадаць, няма маральнага асуджэння злачынцаў, што сфальсіфікавалі выбары…

У Беларусі паступова знікла праўда, справядлівасць, а разам з імі і вера ў лепшыя перспектывы.

Таму сярод задач грамадзянскай адукацыі на першае месца трэба ставіць выхаванне грамадзянскай мужнасці: казаць праўду, адстойваць правы, не падпарадкоўвацца амаральным і незаконным загадам. Сёння быць нармальным чалавекам з маральнага пункту гледжання патрабуе ад беларусаў грамадзянскай мужнасці. І толькі вызначыўшыся ў сваёй грамадзянскай, прафесійнай пазіцыі, заснаванай на каштоўнасцях, можна казаць пра наступныя крокі.

Задачу фармавання грамадзянскіх кампетэнцый немагчыма вырашыць толькі сродкамі грамадзянскай адукацыі. Тут неабходны змены ў самім грамадстве, якое вызначыць запатрабаванасць тых кампетэнцый. Міжнародныя эксперты прызналі, што і сёння палітыкі і дзяржаўныя дзеячы ў дэмакратычных краінах не здолелі знайсці эфектыўны падыход да пазбягання небяспек, якія нясе ўсяму свету аўтарытарызм новай версіі. Але ясна адно – замест нас саміх нашую частку працы ніхто не зробіць.

# Тэхналогія «Развіццё крытычнага мыслення праз чытанне і пісьмо»: прыклады з практыкі

*Алена Радзевіч*

Важнасць крытычнага мыслення ў актыўным інфармацыйным асяроддзі відавочна. Гаворачы пра тэхналогію развіцця крытычнага мыслення, часта робяць такую памылку: яе прымаюць за набор актыўных метадаў, якія настаўнік выкарыстоўвае на ўроках (часам у вялікай колькасці). Урок ператвараецца ў калейдаскоп метадаў, якія змяняюць адзін аднаго, і не мае нічога агульнага з удумлівым асэнсаваннем, аналізам і ацэнкай атрыманай у ходзе ўрока інфармацыі. Некаторым настаўнікам здаецца, што яны зробяць урок больш разнастайным, накіраваным на развіццё мыслення вучняў, калі пасадзяць дзяцей у групы і будуць выкарыстоўваць актыўныя метады. Часткова гэта так. Павярхоўных змен дасягнуць даволі проста: перакроіць план урока гэтак жа лёгка, як перафарбаваць валасы. А вось больш глыбокія змены – справа зусім іншая. Калі мы разлічваем дасягнуць глыбокіх і ўстойлівых змен у свядомасці нашых вучняў і ў грамадстве, адпаведна ключавым кампетэнцыям, настаўнікі павінны быць гатовыя змяніць уласныя настаўніцкія звычкі, напрацаваныя метады навучання, традыцыйнае ацэньванне вучняў. Атрымаць гэты вынік не так проста. Такім чынам, тэхналогія не з'яўляецца спосабам разнастаіць урок, даць дзецям задавальненне ад гульнявых прыёмаў, групавых формаў работы, частай змены дзейнасці. Выкарыстанне тэхналогіі «Развіццё крытычнага мыслення праз чытанне і пісьмо» паступова крок за крокам дапамагае педагогам перагледзець мэты, дзеля якіх яны выкладаюць, прымаць розныя думкі, спрыяць актыўнасці вучняў у навучальным працэсе, цаніць праявы крытычнага мыслення, развіваць упэўненасць у сабе і разуменне каштоўнасці сваіх меркаванняў і ідэй.

Першы семінар для настаўнікаў заўсёды паказальны: у тэксце, з якім працуе педагог, трэба адзначыць месца, з якім настаўнік згодны і месцы, якія выклікаюць супярэчлівыя пачуцці (метад INSERT). У вачах большасці настаўнікаў здзіўленне: як мы можам паставіць пад сумненне меркаванне аўтараў, бо тое, што напісана, не павінна аспрэчвацца. Шматлікія педагогі лічаць, што любы тэкст мае адзін пэўны сэнс. Адрозненні ў разуменні тэксту, якія ўзнікаюць у навучэнцаў звычайна не вітаюцца, паколькі разыходзяцца з «афіцыйнай» трактоўкай. Ужо ў дзяцінстве, у пачатковых класах, дзеці губляюць незалежнасць меркаванняў. Яны імкнуцца засвоіць агульнапрынятыя меркаванні, думаць «як усе». Іх рэдка пытаюцца пра асабістыя перажыванні ў сувязі з тэкстам. Нешматлікія настаўнікі імкнуцца скіраваць навучэнцаў на пошукі ўласнай трактоўкі прачытанага. Калі настаўнік ўсведамляе важнасць стварэння ўласнага ўсвядомленага кантэксту любой інфармацыі, ён зможа навучыць кожнае дзіця выпрацоўваць уласнае меркаванне на аснове асэнсавання рознага вопыту, ідэй і ўяўленняў, будаваць высновы і лагічныя ланцужкі доказаў, выказваць свае думкі ясна, упэўнена і карэктна ў адносінах да суразмоўцаў.

Прынцып «актыўна ўдзельнічаць, а не расказаць, растлумачыць» ляжыць у аснове навучання настаўнікаў, якія вырашылі ўкараняць тэхналогію РКМЧП. Таму навучанне тэхналогіі па кнізе, якой бы добрай яна ні была, недастаткова. І гэта найважнейшы момант, таму што распавесці можна пра прыёмы, метады, але не пра тое, як будаваць з вучнямі партнёрскія зносіны. У працэсе ўкаранення тэхналогіі настаўнікі вучацца не столькі прыёмам (многія з іх вядомыя), колькі зносінам з дзецьмі і фарміраванню развіваючага асяроддзя, дзе камфортна і вучню, і настаўніку.

# Квантавае навучанне як сродак выяўлення здольнасцей вучняў

*Валянціна Быстрык*

Сустрэла калісьці думку, што ўяўленне чалавека пра свае здольнасці моцна ўплывае на гэтыя самыя здольнасці. Калі згадаць, што ў шараговым класе мы звычайна маем каля 25% паспяховых вучняў, можна зрабіць выснову пра колькасць людзей, упэўненых у сваім інтэлекце. Астатнія 75% залічваюцца у «сераднякі» ды «двоечнікі». Такую характарыстыку, на жаль, мы атрымліваем у даволі пяшчотным узросце, то бок у пачатковых класах школы. І жывём з ёю, як мінімум, да выпуску, а часта і далей.

Хто ставіць такую «пячатку»? Настаўнік. Гэта ён бярэ на сябе такі грэх. Не з уласнай ініцыятывы, зразумела. За ім – уся наша традыцыйная сістэма адукацыі. Яна абавязала настаўніка праводзіць кантрольныя замеры засвоеных ведаў і ўзброіла яго для гэтага інструментам – адзнакай. Паводле гэтых замераў вучні і дзеляцца на згаданыя катэгорыі. Мы ўсе да гэтага прызвычаіліся, сістэма здаецца нам лагічнай і правільнай. І бацькі сарамліва тлумачаць адсутнасць школьных поспехаў у свайго дзіцяці: «Зусім памяць слабая», альбо: «Не хоча зусім за кніжку садзіцца. Яму / ёй бы ўсё машынкі / камп'ютар / лялькі / тусавацца / пекчы штонебудзь...».

Але што б мы адказалі, каб нам давялося параўнаць Пікаса, Эйнштэйна, Міцкевіча, Вайду ды Азаранку? Хто з гэтых выбітных людзей мае мацнейшы розум?

Тэорыя множнасці інтэлектаў доктара Говарда Гарднэра (Howard Gardner) з Гарвардскага ўніверсітэта дазволіла трансфармаваць пытанне «Наколькі ты разумны?» у пытанне «Які ў цябе розум?». У сваёй бліскучай працы ён апісвае 8 тыпаў інтэлекту, якія маюць роўную вартасць для жыцця ў чалавечай супольнасці: прасторава-візуальны, лінгвістычны, міжасабовы, музычны, натуралістычны,

цялесна-кінестэтычны, унутрыасабовы, лагічна-матэматычны. Зразумела, усім вядомы IQ для гэтай тэорыі ўжо не працуе. Гэта тэорыя прапануе нашмат шырэйшы погляд на розум як на нешта, што можа змяняцца на працягу ўсяго жыцця. Працы Гарднэра, якія выйшлі ў 1991 і 1993 гг., адкрылі для адукатараў новыя магчымасці, паказалі новыя шляхі.

Дзякуючы гэтым новым уяўленням, пытанне «Хто разумнейшы?» страчвае права на існаванне. Адсюль – зусім новыя магчымасці для школы. Дзякуючы тэорыі множнасці інтэлектаў, у прыватнасці, настаўнік пазбаўляецца неабходнасці быць інструментам пакарання для ўсіх, хто не валодае лагічна-матэматычным розумам (а ў сённяшняй школе гэта адзіны прызнаны тып розуму). Тут палягаюць вялікія магчымасці для матывацыі сённяшніх 75% «сераднякоў» і «двоечнікаў», для стварэння спрыяльнай шчаслівай атмасферы на ўроку, для ператварэння школы ва ўлюбёнае месца для любога дзіцяці і г. д., і г. д.

З тэорыяй множнасці інтэлектаў я пазнаёмілася ў рамках летняй школы для настаўнікаў англійскай мовы, якая на той час (2002 г.) працавала ва Украіне больш за 10 гадоў. Дзякуючы ініцыятыве Таварыства беларускай школы, нашыя настаўніцы таксама змаглі там павучыцца. Свой курс амерыканскія настаўнікі-метадысты называюць «Квантавае навучанне», маючы на ўвазе, што ў ім выкарыстоўваюцца элементы розных тэорый: паскоранага навучання Лазанава, множнасці інтэлектаў Гарднэра, нейралінгвістычнага праграмавання Грайндэра і Бэндлера, навучання праз досвед Хана, сумеснага навучання Джонсана і Джонсана. Такім чынам, «Квантавае навучанне» бярэ ўсё найлепшае, прапануючы свежы ды жывы, мультысэнсорны ды мультыінтэлектны, практычны ды лёгкі ў выкарыстанні падыход да навучання.

На той час методыка абапіралася на 18 гадоў даследаванняў і практыкі. Праз летнія школы ў ЗША прайшло 25000 навучэнцаў. У летнікі запрашалі ўдзельнікаў ад 9 да 24 гадоў. На працягу 10 дзён яны вучыліся рабіць канспекты, хутка чытаць і пісаць, трэніравалі памяць, развівалі творчыя здольнасці і камунікацыйныя навыкі. Вынікі паказалі, што ўдзельнікі школы павысілі свой акадэмічны рэйтынг, сталі больш актыўнымі і ўпэўненымі ў сабе.

Нам, настаўнікам англійскай мовы, прапанавалі ў летняй школе ў Данецку багатую падборку дасканала распрацаваных практыкаванняў, многія з якіх мы «прымерылі» на сябе ў ролі вучняў. Выконваць іх было лёгка і весела. Матэрыял засвойваўся без напружання ды хутка. Пазней, ужо ў працы са сваімі вучнямі, я атрымлівала той самы эфект. Па гэтай жа методыцы некалькі гадоў працавала нашае школьнае метадычнае аб'яднанне настаўнікаў англійскай мовы. На жаль, мая неаднаразовая прапанова знаёміць настаўнікаў раёна з новымі прыёмамі была цвёрда адхілена. А летняя школа, якую прывезлі на наступны год у Беларусь, адбылася толькі адзін раз. Я тады падумала, што за 3 гады ўсе настаўнікі раёна (іх 75 чалавек) маглі б пазнаёміцца з новымі прыёмамі працы. І ўзровень падрыхтоўкі вучняў па прадмеце быў бы іншым. Але, як слушна сцвярджае калега Міхась Булавацкі, сёння ніхто не зацікаўлены ў рэальным паляпшэнні працэсу навучання. Дык я заклікаю настаўнікаў пазнаёміцца з праграмай «Quantum Learning». Інтэрнэт і вашае веданне мовы даюць вам гэтую магчымасць. А ўзнагародай будзе радасць ад працы. Я ўпэўнена, што адсутнасць поспеху ў нашым прадмеце (пагадзіцеся, што выпускнік, які валодае замежнай мовай, – хутчэй выключэнне) абумоўлена, сярод іншага, тым, што настаўнік глыбока не верыць у саму магчымасць навучыць прадмету. А як шкада!

Скончыць хочацца яшчэ адным выслоўем: «Шмат якія рэчы здаюцца невыканальнымі да таго часу, пакуль іх не зробіш». Зычу ўсім поспехаў. Давайце не будзем чакаць, пакуль бацькі пачнуць разумець, чаго яны ад нас хочуць альбо кіраўнікі адукацыі пачнуць ствараць нам спрыяльныя ўмовы для працы. Цяжка быць шчаслівымі, калі служыш толькі волі іншых. Мы маем уладу над сваімі ведамі, уменнямі, сітуацыяй на ўроках. Над тым, якія стасункі мы маем са сваімі вучнямі. Мудрыя кажуць: недаравальна, калі маеш уладу – і не хочаш панаваць.

# Ці можа настаўнік адстойваць свае правы ў сённяшніх умовах?

*Наталля Ільініч*

Адна з вострых праблем, пра якую згадваюць амаль усе мае калегі у інтэрнэт-дыскусіях, – прыніжанасць настаўніка, яго бяспраўнасць перад адміністрацыяй, начальствам. ***Амаль усе, хто «пракрычалі» свой боль у інтэрнэце, не падпісалі свае прозвішчы, не назвалі сваю школу. Мае калегі баяцца.*** Яны нібыта ведаюць, што «кожны чалавек мае права на выказванне сваёй думкі», «мае права звяртацца ў вышэйшыя ўстановы з прапановамі, крытыкай» – гэтыя правы нам гарантуе Канстытуцыя Беларусі. Але яшчэ лепш яны ведаюць, што законы ў нашай краіне не дзейнічаюць, прафсаюзы – фікцыя, сапраўдных судоў няма. Як жа абараніць сябе ў гэтых умовах, што можна зрабіць негвалтоўным, людскім шляхам, каб захаваць сваю справу, сваю годнасць – і пры гэтым выжыць?

***Мне ўдалося захаваць гонар і застацца ў прафесіі. Можа быць, мой досвед (а ў ім ёсць і станоўчыя, і адмоўныя вынікі) дапаможа калегам ужо ў іх справе адстойвання ўласных правоў.***

**Звальненне і пошукі працы**

Я была звольнена 27 студзеня 2011 г. з працы настаўніцы гісторыі Талькаўскай СШ “у сувязі з заканчэннем кантракта”. ***На гэтым месцы я працавала дваццаць пяць з паловай гадоў, як прыехала па размеркаванні ў 1985 г. пасля сканчэння гістфака БДУ. Працу сваю люблю і да сённяшняга дня ўспрымаю звальненне як вялікае няшчасце.*** Стала шукаць працу. У Пухавіцкім раёне адказ: «вакансій няма». Пасля зваротаў у розныя інстанцыі ў маі прапанавалі месца ў дзіцячым садку ў Мар’інай Горцы ці ў групе падоўжанага дня ў Дубраўскай СШ. Я адмовілася. Выхавацель дзіцячага сада – спецыфічная праца, якая патрабуе спецыяльнай

падрыхтоўкі. У Дубраўку ж трэба ехаць з маёй Талькі на двух відах транспарту – спачатку на электрычцы да Мар'інай Горкі, а потым на маршрутцы. Каб выкладаць гісторыю, я бы паехала ў любую, хай сабе і ў далёкую, школу, а ў ГПД – не. Спрабавала ўладкавацца па спецыяльнасці ў Асіповіцкім раёне (гэта недалёка ад маёй Талькі), у Мінску. Там вакансіі ёсць – у першы дзень майго звароту. Але «знікаюць» на наступны дзень, пасля кансультацыі дырэктара з вышэйшымі органамі. Не ведаю, які механізм тут задзейнічаны: можа, ёсць нейкі загад ад высокага начальства; ці прызначаны канкрэтныя людзі, якія «апякаюць» апальную асобу, слухаюць тэлефоны і потым «рэкамендуюць» працадаўцам не браць гэтага канкрэтнага чалавека. У адной з тых устаноў, куды я ўладкавалася (не школа), быў рэалізаваны вось гэты апошні сцэнар: дырэктару патэлефанаваў «чалавек з органаў» (пра што дырэктар мне сам паведаміў) і прадэманстраваў "вялікую абазнанасць у маіх праблемах" – з выразу дырэктара ўстановы, пасля чаго мая праца стала непажаданай. Тры месяцы я працавала паштальёнам у Тальцы, пасля чаго мне прапанавалі сысці "паводле пагаднення бакоў". Зрэшты, дырэктары не бяруць на працу такіх «выгнаных», як я, нават без усялякага загаду зверху, проста каб перастрахавацца. Год я спрабавала ўладкавацца на настаўніцкую працу, пакуль нарэшце не зразумела: у сённяшніх умовах шлях у школу для мяне зачынены.

Я пераканалася на ўласным досведзе, што механізм выштурхоўвання непажаданых працуе без збояў. А калі дзе-небудзь адбываецца збой, то хутка выпраўляецца. ***Мэта гэтага механізма – зламаць маральна, знішчыць фізічна тых, хто наважыўся ўзняць галаву, запалохаць астатніх, зрабіць іх маўклівымі гледачамі.*** А бывае, і саўдзельнікамі ганенняў.

**За што гэта ўсё ці гісторыя злачынстваў**

Калі мяне пытае нехта старонні, чаму са мной усё гэта здарылася, я нават не магу коратка адказаць. І праўда – чаму? ***Я зусім не рэвалюцыянер, маю памяркоўныя палітычныя погляды: нацыянальныя і дэмакратычныя.*** Паводле характару чалавек не ваяўнічы, не канфліктны, схільны хутчэй да кампрамісаў, чым да актыўнай барацьбы. Поглядаў сваіх ніколі нікому

не навязвала, на ўроку заўсёды старалася паказаць вучням розныя пункты гледжання на гістарычную з'яву ці сучасную падзею. Заахвочвала крытычна ацэньваць матэрыял, нічога не прымаць на веру. Заўсёды хацела жыць у краіне, дзе ад такіх звычайных, як я, людзей нешта залежыць. Таму ўдзельнічала ў выбарчых кампаніях: збірала подпісы за дэмакратычных кандыдатаў, назірала за выбарамі. Менавіта ў час гэтых кампаній далучылася да партыі БНФ і стала яе сябрам. Але ж усё гэта не злачынствы, усё гэта дазволена законам. Ці не так? ***Далей я раскажу пра падзеі, якія прывялі да звальнення, што я рабіла, каб выжыць. Чытач, які адолее гэта дачытаць да канца, зможа сам зрабіць выснову, чаму прагналі з працы звычайную школьную настаўніцу ў краіне Беларусь.*** Атрымаўся вельмі вялікі тэкст – гэта з-за таго, што ганіцелі абвінавачваюць мяне ў нейкім радыкалізме, у тым, чаго я не рабіла («Вось за нешта ж выгналі яе, а не іншых, значыць, было за што!» – кажуць мае аднавяскоўцы). Таму мне трэба выкласці ўсё па парадку, як было. Зрэшты, той, хто не мае жадання чытаць так шмат, але хацеў бы скарыстаць мой досвед адстойвання сваіх правоў і выжывання, можа прачытаць толькі вылучаны тэкст.

**Эпапея за захаванне талькаўскага сельсавета**

Мэтавы ціск на сябе я адчула ў канцы 2009 г. Восенню Пухавіцкі райвыканкам прыняў рашэнне аб ліквідацыі Талькаўскага сельсавета, далучэнні яго да Блужскага. Зроблена гэта было смешна і цынічна адначасова. Раённае начальства прыехала на сустрэчу з жыхарамі вёскі, быццам бы "*даведацца пра меркаванні людзей, выкласці сваю пазіцыю*". Усе людзі прагаласавалі супраць, прычым, зрабілі спіс удзельнікаў і пісьмова зафіксавалі: мы супраць! Праз 2 – 3 дні ў газеце «Пухавіцкія навіны» з'явілася паведамленне, што Талькаўскі сельсавет ліквідуецца і "*гэтае рашэнне падтрымала большасць жыхароў Талькі*". Людзі былі абураны такой нахабнай хлуснёй. Ніводзін чалавек на сходзе не выказаўся і не падпісаўся за ліквідацыю сельсавета! Адкуль узялася большасць? Старшыня сельвыканкама патлумачыў: назаўтра пасля сходу адбылася, маўляў, сесія дэпутатаў Талькаўскага сельсавета і яны ўсе нібыта падтрымалі прапанову райвыканкама аб далучэнні Талькі да Блужы. На пытанне людзей да дэпутатаў, чаму яны так зрабілі, тыя адказвалі: "*Усё ўжо вырашана, гэта прэзідэнцкі загад, нічога мы не зменім*". Вёска бурліла,

утварылася ініцыятыўная група жыхароў, якія сталі збіраць подпісы пад зваротам супраць аб'яднання. Было сабрана каля 200 подпісаў (сабралі б і ўсе, але збор быў спынены, бо стала ясна, што нікому меркаванне людзей не патрэбна). Местачкоўцы пратэставалі супраць паніжэння статусу свайго населенага пункта, а яшчэ больш супраць таго, як прымалася рашэнне. Ініцыятыўная група напісала зварот у райсавет, аблсавет і газету «Звязда» з пратэстам супраць ліквідацыі Талькаўскага сельсавета, крытыкай працы мясцовага начальства. Таксама была напісана заява на адкліканне дэпутатаў сельсавета, якія здрадзілі сваім выбаршчыкам. ***Сярод 5 падпісантаў звароту было і маё прозвішча, усе астатнія – пенсіянеры. Праз некалькі дзён дырэктара школы выклікала намеснік старшыні райвыканкама па ідэалогіі і загадала ёй не падпісваць кантракт з настаўніцай Ільініч.*** За што? Папярэдні кантракт быў на 5 год, за 24 гады працы ў школе у мяне не было ніводнай вымовы. Наадварот: была грамата аблвыканкама, стос дыпломаў, грамат за перамогі маіх вучняў у розных конкурсах, у тым ліку агульнабеларускіх. Некалькі маіх вучняў, што прайшлі праз краязнаўчы гурток, выбралі прафесіі, навучальныя ўстановы, звязаныя з гісторыяй, сацыялогіяй, фальклорам, музеязнаўствам. Выдадзена кніга «Талька і наваколлі», створаны краязнаўчы сайт. ***"Як не падпісаць кантракт з гэтай настаўніцай?" – спытала дырэктар.*** Яна разумела, што сапраўднай прычынай гневу начальніцы быў подпіс пад зваротам супраць ліквідацыі сельсавета, з крытыкай мясцовых улад, заява пра адкліканне дэпутатаў. Раённая начальніца сказала, што кантракт трэба не падпісваць з-за таго, што на краязнаўчым сайце ёсць фота з бел-чырвона-белым сцягам. Другая правіна – сяброўства настаўніцы ў партыі БНФ. ***Я патлумачыла дырэктару, што гэтыя прычыны незаконныя***: бел-чырвона-белы сцяг, хоць і не з'яўляецца сёння дзяржаўным сцягам Беларусі, не перастаў быць гістарычным нацыянальна-культурным сімвалам нашага народа. Няма закона, які б забараняў гэты сімвал, а тым больш ён не можа быць прычынай звальнення з працы. Сяброўства ў партыі БНФ таксама не забаронена для настаўнікаў. Партыя БНФ не з'яўляецца экстрэмісцкай арганізацыяй, яна зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі РБ, яе праграма і статут адпавядаюць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Назаўтра мяне выклікаў дырэктар Пухавіцкага раённага цэнтра дзіцячага і юнацкага турызму і экскурсій (РЦДзЮТЭ). Паводле дамовы з гэтым цэнтрам я вяла ў Талькаўскай школе 3 гадзіны краязнаўчага гуртка. Яшчэ зусім малады чалавек, новы на сваёй пасадзе, адчуваў сябе няёмка. Ён сказаў, што быў выкліканы ў райвыканкам той самай намесніцай старшыні, якая загадала яму звольніць з працы настаўніцу Талькаўскай школы Наталлю Ільініч за бел-чырвона-белыя сцягі на сайце. “*Нам падабаецца, як Вы працуеце, мы цэнім тое, што зроблена Вамі, але я вельмі прашу Вас напісаць заяву аб звальненні паводле пагаднення бакоў. Інакш цэнтру не дадуць працаваць, затрасуць праверкамі. Гэта ненадоўга: як бура пройдзе, праз пару месяцаў мы возьмем Вас зноў, бо мы цэнім Вашу працу і хацелі, каб Вы ў нас працавалі*”. Я напісала заяву аб звальненні “паводле пагаднення бакоў”. Але бура працягваецца і сёння, больш на працу ў цэнтр турызму мяне не клікалі.

**Вымова №1**

Дырэктар школы апынулася ў цяжкім становішчы. Трэба выконваць загад начальства (выгнаць настаўніцу), хоць ён і незаконны. Але як выгнаць чалавека, які нармальна працуе, не парушае ніякіх законаў, зрабіў нямала добрых справаў для школы? Такому становішчу не пазайздросціш. ***Дырэктар прымае «саламонава» рашэнне: дае мне вымову*** *“за выкарыстанне школьнага краязнаўчага сайта ў асабістых карыслівых мэтах”* ***(першая вымова за 24 гады маёй працы ў Талькаўскай школе) і, матывуючыся гэтай вымовай, як вялікую ласку, падпісвае 11 студзеня 2010 г. са мной кантракт на 1 год.*** Згодна з калектыўнай дамовай Талькаўскай школы, дырэктар абавязаны падпісаць з паспяховым працаўніком, які добрасумленна выконвае свае абавязкі, кантракт на 3 ці 5 гадоў, не менш. Каб дагадзіць начальству і абысці гэтае палажэнне калектыўнай дамовы, была выдумана бязглуздая вымова за сайт. Сайт мой асабісты, не школьны: загада дырэктара пра яго стварэнне не было, гэта была мая асабістая ініцыятыва, за хостынг я плаціла свае грошы. Так, там размяшчаліся краязнаўчыя матэрыялы пра вандроўкі, народныя святы, даследаванні краязнаўчага гуртка, інфармацыя пра краязнаўчыя справы Талькаўскай школы – але з-за гэтага ён не перастаў быць маім. Акрамя таго, фатаграфіі са сцягамі віселі на сайце больш за 2 гады, убачылі ж іх толькі пасля звароту

талькаўскіх людзей супраць ліквідацыі сельсавета з крытыкай улад. Астатніх падпісантаў звароту «укусіць» складаней, бо яны пенсіянеры, дык уся помста начальства абрынулася на мяне. Сталі шукаць «кампрамат» – на іх разуменне, ім стаў бел-чырвона-белы сцяг.

***Вымова была несправядлівая і абсурдная. Яе трэба было абскардзіць у судзе, але я гэтага не зрабіла.*** Чаму? ***Па-першае, не ведала, што гэта вельмі важна***, я даведалася пра гэта пазней, калі праз год мяне звольнілі, не працягнулі кантракт і пры гэтым адміністрацыя (і суд прыняў такое абгрунтаванне ) спасылалася на тую вымову. Маўляў, кантракт быў падпісаны на 1 год, бо была вымова. Мае тлумачэнні потым, што вымова была несправядлівая, злепленая спецыяльна, каб выканаць загад раённай начальніцы, разбіліся аб пытаннне: “А чаму ж Вы яе адразу не аспрэчылі?” Адвакат мне патлумачыў, што ўжо сам факт аспрэчвання несправядлівых спагнанняў вельмі важны для будучых крокаў па адстойванні сваіх правоў. А раз ты не аспрэчыў несправядлівую вымову, значыць ты з ёй пагадзіўся, значыць, у адміністрацыі будзе падстава потым не заключыць з табой працоўны кантракт. ***Па-другое***, чаму я адразу не абскарджвала высмактанае з пальца спагнанне: ***я разумела цяжкае становішча дырэктара школы***. Каб адбіцца ад нападаў райвыканкамаўскай начальніцы, ёй трэба было неяк пакараць мяне. Звальняць мяне яна не хацела, таму зляпаць такую вымову – гэта было як бы меншае зло, кампраміс, пасля якога школу быццам бы пакінулі ў спакоі.

Робячы высновы з гэтых падзей, ***раю ўсім калегам, хто адстойвае свае правы, заўсёды абскарджваць спагнанні, вымовы, якія вам далі несправядліва. Таксама надзвычай важна ўважліва вывучыць умовы вашай калектыўнай дамовы.*** Калі б я раней ведала, што у нашай дамове ёсць палажэнне, што дырэктар абавязаны падпісаць з паспяховым працаўніком, які не мае спагнанняў, дамову не менш чым на 3 ці 5 гадоў, я б, вядома, аспрэчыла тое несправядлівае спагнанне.

## Выклік у абласное ўпраўленне адукацыі: “Настаўнік школы сталічнай вобласці не можа быць сябрам апазіцыйнай партыі”

11 студзеня 2010 г. дырэктар падпісала са мной кантракт, а 15 студзеня мяне раптоўна выклікалі ў Мінскае абласное ўпраўленне адукацыі на прыём да начальніка Таісы Іванаўны Данілевіч. Вусны загад, што заўтра мне трэба ісці не на ўрокі ў школу, а ехаць у Мінск ў АУА, я атрымала ад дырэктара школы, якая патэлефанавала мне вечарам напярэдадні. На пытанне пра прычыну выкліку, дырэктар адразу адказала: “*Ваша сяброўства ў партыі БНФ*”. У прыёмную мы з’явіліся з выканальніцай абавязкаў начальніка Пухавіцкага РАА Аленай Шастаковай. Там ужо было чалавек дзесяць незнаёмых людзей (як высветлілася – шэсць настаўнікаў з розных раёнаў Мінскай вобласці і начальнікі РАА гэтых раёнаў). Нас выклікалі па двое: настаўнік – і начальнік адпаведнага РАА. Мяне паклікалі апошняй, таму хоцькі-няхоцькі давялося выслухаць гутаркі Данілевіч з кожным настаўнікам. ***Я не магла паверыць сваім вушам: няўжо такое можа быць у наш час?! Гэта былі крыкі, папрокі і пагрозы, якія добра чуліся нават праз падвойныя дзверы.*** Асабліва ўгнявіла начальніцу маладая настаўніца з Любанскага раёна: акрамя таго, што была ў Аб’яднанай грамадзянскай партыі, яна яшчэ і надумалася вылучацца ў дэпутаты мясцовага савета! На думку кіраўніцы АУА, гэта было страшэннае злачынства, несумяшчальнае з прафесіяй настаўніка. «*Я пакажу табе дэпутацтва! Будзеш пешшу бегчы ў сваё Урэчча і пра заканчэнне аспірантуры можаш забыць!*» Дарэчы, потым Надзея Агафонава і Сяргей Клімёнак сапраўды выйшлі з АГП, «бо Надзея выбрала прафесійную кар’еру» (Народная воля).

Калі мы зайшлі ў кабінет з Аленай Шастаковай, там, акрамя Т.Данілевіч, былі яшчэ 3 асобы, напэўна, яе намеснікі. Мне Таіса Іванаўна прад’явіла шэраг правінаў: сяброўства ў партыі БНФ – «*учителя столичной области не могут быть членами оппозиционных партий*»; правядзенне Талькаўскага фэсту – «*праздник, на который приезжают известные оппозиционные деятели*», напісанне звароту супраць ліквідацыі Талькаўскага сельсавета – «*пісать вы умеете*». ***Я спрабавала адказаць, што ўсе гэтыя справы дазваляе грамадзянам Канстытуцыя Рэспублики Беларусь, але гэта***

***выклікала ў прысутных начальнікаў смех.*** Потым Данілевіч ва ўльтыматыўнай форме загадала мне выйсці з партыі БНФ ці напісаць заяву на звальненне з працы. На гэта быў прызначаны тэрмін – 3 дні. Дакумент аб выхадзе з партыі (пратакол сходу партыйнай арганізацыі) было даручана Шастаковай даставіць Данілевіч не пазней, чым праз пяць дзён.

Агаломшаная, я выйшла з высокай установы. Што рабіць? ***Страціць працу ў вёсцы, дзе немагчыма знайсці нічога па маёй спецыяльнасці, – а што будзе з маёй дачкой-студэнткай? Выйсці з партыі з-за незаконнага патрабавання начальніцы – гэта страціць годнасць і самапавагу.*** Як пасля гэтага вучыць дзяцей прынцыповасці і грамадзянскай пазіцыі – калі сама так збаялася? Рашэнне было пакутлівым. “Чаму гэтая жанчына так зрабіла?” – думала я. Калі я назірала за ёй на той сустрэчы, мне падалося, што яна не проста выконвае чыйсьці загад, а сапраўды верыць: настаўнік сталічнай вобласці не можа быць сябрам апазіцыйнай партыі. Але як жа законы? Няўжо яна не чула пра Канстытуцыю, Працоўны кодэкс? Чаму ёй не падказалі юрысты-кансультанты? І як тады такі малаадукаваны чалавек мог апынуцца на такой высокай пасадзе? А калі яна ведала, што гэта незаконна, і дэманстратыўна так рабіла – то гэта ж прэцэдэнт! Змоўчым, выканаем злачынны, амаральны загад – значыць, мы згодны з такім жыццём, то і надалей можна рабіць з намі такія беззаконні. Страціць працу цяжка, але страціць сваё сумленне – невыносна зусім. ***Пасля пакутлівых роздумаў я вырашыла напісаць скаргу ў пракуратуру, выклаўшы апісанне гэтай падзеі і прасіла даць прававую ацэнку таму, што адбылося ў кабінеце начальніка АУА.*** Я лічыла, што была парушана Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (арт. 4, 5, 33, 36: «Грамадзяне роўныя перад законам, маюць права на свабоду аб’яднанняў»), Працоўны кодэкс ( арт. 14: «Дыскрымінацыя, г. зн. абмежаванне ў працоўных правах у залежнасці ад … палітычных поглядаў, удзелу ці няўдзелу ў прафсаюзах ці іншых грамадскіх аб’яднаннях, … забараняецца», закон «Аб палітычных партыях» (арт. 3: «Прыналежнасць або непрыналежнасць грамадзяніна не могуць служыць падставай для абмежавання ягоных правоў і свабодаў»). Адначасова да Мінскага абласнога пракурора звярнуўся са сваёй скаргай калега з Нясвіжа Алесь Язвінскі.

**Пакаранне: "Цяпер з-за яе нашу школу зачыняць"**

Калі я сказала пра сваё рашэнне не выходзіць з партыі, а напісаць заяву ў пракуратуру, дырэктару школы, яна была вельмі напалохана. «*Цяпер нашу школу дакладна зачыняць, мы і да канца года не дапрацуем. Нашлюць праверак – санстанцыю, пажарных – і ўсе мы страцім працу, а вучні школу. І ўсё гэта дзякуючы Ільініч,*» – такі быў сэнс прамовы дырэктара на сходзе настаўнікаў. Калегі маўчалі, але адчувалася, што яны таксама асуджаюць мяне. Рэч у тым, што размовы пра закрыццё нашай школы ўжо вяліся апошнія пару год, бацькі звярталіся ў РАА з просьбай захаваць школу, праводзілі сход з начальнікам РАА – і нас тады паслухалі, школа засталася. Наколькі, невядома. І вось цяпер гэтае пытанне стала сродкам ціску на настаўнікаў, вучняў і бацькоў. ***Мне тэлефанавалі «апрацаваныя» дырэктарам бацькі, сустракалі на вуліцы і нават прыходзілі да мяне ў хату і казалі: «Што за злачынства вы зрабілі, што з-за вас зачыняюць нашу школу? Не рабіце гэтага!»*** Распаўсюджвалі па вёсцы чуткі, што «*яна так зрабіла, бо ёй БНФ плаціць даляры, а іначай чаго не выйшла з гэтай партыі?*».

**Вымова №2**

21 студзеня, на шосты дзень пасля таго выкліку настаўнікаў да Данілевіч, яна паклікала да сябе на прыём дырэктара Талькаўскай школы. Едучы ў Мінск, літаральна, ужо апранаючы паліто, ***дырэктар паказала мне кнігу загадаў з новай вымовай, толькі што напісаную ёю, са зняццем прэміі***. Аказваецца, яна праверыла дзённікі вучняў майго 9 класа і знайшла там недаробкі: за мінулы тыдзень не было подпісаў класнага кіраўніка, у некага не было подпісаў у выніковым табелі за другую чвэрць. Я спрабавала патлумачыць, што той вучань хварэў і ў канцы чвэрці не быў у школе, калі выстаўляліся гэтыя адзнакі ў дзённікі вучняў. Мы толькі выйшлі з канікулаў і ўсе недаробкі я планавала дарабіць у пятніцу, як мы звычайна гэта з дзецьмі робім, на класнай гадзіне. Але ў пятніцу не па сваёй волі я была вымушана ехаць у Мінск – ні ўрокаў, ні класнай гадзіны мне правесці не давялося. Таму дзённікі і засталіся неправеранымі. Меркавала гэта зрабіць на чарговай класнай гадзіне, якая адбудзецца ў наступную пятніцу. Але бедная дырэктар, раптоўна выкліканая да высокай начальніцы,

хацела запэўніць тую, што яна на яе баку, і вось доказ – вымова. ***Гэтая вымова, разам з той, за сайт, праз год стануць аргументамі не працягнуць са мною працоўны кантракт.***

І гэтую вымову я не аспрэчвала, хоць аргументы былі. У настаўніка так шмат абавязкаў, у кожнага можна знайсці хібы. Пагатоў, з пятніцы15 студзеня я знаходзілася пад цяжкім псіхалагічным ціскам, у стане пакутлівых роздумаў. Выклік Данілевічда , сход настаўнікаў у школе і абвестка дырэктара пра тое, што “*школу цяпер зачыняць з-за Ільініч*”, скарга ў пракуратуру – нядзіва, што да дзённікаў вучняў справы не дайшлі... Але ці я стварыла такую ліхаманку?

**Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі: “У вашых паслугах больш не маем патрэбы”**

Яшчэ ў пачатку студзеня я атрымала запрашэнне з МАІРА 27 студзеня правесці чарговы семінар для настаўнікаў гісторыі Мінскай вобласці пра сістэму краязнаўчай працы ў школе. Папярэднія два семінары прайшлі вельмі паспяхова, нават быў дасланы з інстытута падзячны ліст у РАА і школу. Але пасля «візіту» да Данілевіч, з МАІРА патэлефанавалі мне і сказалі, што мой семінар адмяняецца, напэўна, «да лепшых часоў». З іншых крыніц ведаю, што тыя метадысты, загадчык кафедры былі выкліканы Данілевіч і «атрымалі» ад сваёй начальніцы, за тое, што так страцілі пільнасць і запрасілі ў яе «вотчыну» нядобранадзейную настаўніцу. Больш у інстытут мяне не запрашалі.

**«Бура над Талькай»: забарона правядзення метадычнага аб’яднання настаўнікаў гісторыі Пухавіцкага раёна**

3 лютага 2010 г. у Талькаўскай СШ павінна было праходзіць метадычнае аб’яднанне (МА) настаўнікаў гісторыі Пухавіцкага раёна. Такія заняткі праводзяць настаўнікі кожнага прадмета з мэтай абмену досведам. Даюць адкрытыя ўрокі, мерапрыемствы, абмяркоўваюць іх, апавядаюць, што новае прачыталі ці даведаліся на курсах падвышэння кваліфікацыі – атрымліваецца цікавае поле фармальных і нефармальных зносін. Асабіста я заўсёды з прыемнасцю наведвала МА, каб павучыцца чаму-небудзь у калег.

Сустракаць у сябе калег, праводзіць у сваёй школе МА гісторыкаў – такое бывае нячаста. У мяне за 25 гадоў працы, здаецца, гэта было ўсяго тры разы, а вось 3 лютага 2010 г. павінна было адбыцца маё чацвёртае МА. Ці трэба казаць, што гэта адказнае мерапрыемства, да якога рыхтуюцца, каб паказаць свой майстар-клас. Я планавала паказаць працу нашага школьнага краязнаўчага музея і гуртка. Мы штогод праводзім у Тальцы народныя святы: Каляды, Гуканне вясны, Юр'я; свята народнай і бардаўскай музыкі «Талькаўскі фэст», таму сталі з вучнямі-гурткоўцамі думаць, які абрад пакажам, якую экскурсію правядзем для гасцей. ***Але за шэсць дзён да мерапрыемства дырэктар школы сказала мне, што МА гісторыкаў у нашай школе адмяняецца. Як? Чаму?*** «*У гэты дзень, 3 лютага, у Пухавіцкім раёне абвешчана штармавое папярэджанне, бура, снежныя заносы, таму ўсе мерапрыемствы ў раёне адмяняюцца, у тым ліку і ваша МА.*» Я разрагаталася: хто можа ведаць пра буру і даваць штармавое папярэджанне за шэсць дзён? Патэлефанавала Шастаковай у РАА. Гэта самае пра буру і штармавое папярэджанне на поўным сур'ёзе па тэлефоне мне пацвердзіла выканальніца абавязкаў начальніка Пухавіцкага РАА Алена Шастакова.

***Насамрэч РАА разам з дырэктарам адмянілі МА, каб не сабраліся разам настаўнікі, каб, крый Божа, не пабачылі нядрэнную працу настаўніцы, якую гоняць з-за сяброўства «не ў той партыі».*** Як паказваць, прапагандаваць досвед настаўніцы, якую сама Данілевіч загадала выгнаць? Не знайшлі нічога лепшага, як прыдумаць для мяне байку пра «буру над Талькай». Настаўнікам-калегам проста патэлефанавалі і сказалі, што МА адмяняецца, у Тальку ехаць не трэба. Ніякай буры ні ў Тальцы, ні ў Пухавіцкім раёне 3 лютага не было, быў сонечны зімовы дзянёк з невялікім марозікам і без ападкаў. Дарэчы, другое МА гісторыкаў Пухавіцкага раёна ў гэты дзень прайшло ў Рудзенскай школе. Пра буру над Пухавіцкім раёнам там ніхто не чуў.

Чаго не зробіш, каб дагадзіць начальству: трэба называць белае чорным, складаць «ліпавыя» вымовы і нават можна прыдумаць «буру і штармавое папярэджанне» ў адной асобна ўзятай вёсцы.

**Адмена метадычнага дня**

Усе дваццаць пяць гадоў працы ў школе я мела сераду метадычным днём, калі няма ўрокаў, калі настаўнік можа заняцца самаадукацыяй, наведаць бібліятэку, архіў, метадычнае аб'яднанне. Займаючыся краязнаўствам, я мела патрэбу ў наведванні гістарычных архіваў у Мінску. Знойдзеныя мною ў НГАБ, Мінскім абласным архіве дакументы пра гісторыю нашага краю пралілі святло на «белыя плямы»: калі і як узнікла Талька, адкуль у Суціне палякі, чаму менавіта тут разгарнуліся падзеі паўстання 1863 г., спіс 22 сем'яў, сасланых у Томскую губерню за ўдзел у паўстанні, дакумент пра адкрыццё Талькаўскай школы ды інш. Знойдзеная інфармацыя была выкарыстана для абнаўлення школьнага музея, пры напісанні кніжкі «Талька і наваколлі», для вучнёўскіх даследаванняў. Але пасля «візіту» да Данілевіч адміністрацыя ліквідавала мой метадычны дзень! Проста два першыя ўрокі з аўторка былі перастаўленыя на сераду на другі і трэці ўрокі – каб я не магла выехаць у архіў нават электрычкай на 11 гадзін. Ніякай метадычнай, навучальнай мэтазгоднасці гэты крок не меў, тыднёвая нагрузка мая была не большая, чым звычайна (здаецца, 23 гадзіны). Пры такой нагрузцы ў нашай школе настаўнікі заўсёды мелі метадычны дзень. ***Я звярнулася ў прафкам з просьбай паспрыяць змяненню раскладу, бо хацела працягваць заняткі краязнаўствам, але з такім раскладам не мела магчымасці працаваць у архівах.*** Старшыня прафкама патлумачыла мне сітуацыю: «*Скасаванне вашага метадычнага дня – не ўласная ініцыятыва дырэктара, яна проста выканала загад Данілевіч. Нічога мы зрабіць не можам*».

**Пракуратура мінскай вобласці: «У дзеяннях службовых асоб аув парушэнняў дзейнага заканадаўства не выяўлена»**

Я звярнулася ў пракуратуру Мінскай вобласці з заявай аб тым, што адбылося ў кабінеце начальніка ўпраўлення адукацыі 15 студзеня 2010 г., з просьбай даць прававую ацэнку дзеянням Т. І. Данілевіч. Пракуратура адказала, што «з тлумачэнняў Данілевіч Т. І., яе намеснікаў Семенчука А. А. і Малец Л. Э. вынікае, што настаўнікі былі запрошаны 15 студзеня на размову, падставай для якой паслужыла недастатковая якасць працы. Данілевіч не патрабавала

ад Вас і іншых настаўнікаў выхаду з партыі альбо звальнення з працы і не рабіла якіх-небудзь уладных распараджэнняў».

Вось так! Значыць, настаўнікі выдумалі гэта? Чаму ж тады іх не прыцягнулі да адказнасці за паклёп? Чаму ж тады выйшлі з АГП Сяргей Клімёнак з Вілейкі ды Надзея Агафонава з Любані? Чаму не апыталі ў пракуратуры астатніх настаўнікаў, што былі выкліка:ны Данілевіч і сталі сведкамі дзікунства ва ўладным кабінеце? Вядома, усе мы ведаем адказы на гэтыя пытанні. Пракуратура, суды ў нашай краіне не бароняць закон, не бароняць чалавека – а бароняць начальства, якое гэты закон парушае.

Не знайшоўшы парушэння закону ў дзеяннях абласной начальніцы, ***пракуратура чамусьці знайшла неабходным*** «*патлумачыць Данілевіч Т. І. канстытуцыйныя і працоўныя правы грамадзян, у тым ліку на свабоду думкі, перакананняў, на свабоду аб'яднання ў палітычныя партыі*». Цікава, для чаго гэта, калі законы не былі парушаны?

Зварот у пракуратуру не дапамог пакараць злачынцу. Парушальніца Канстытуцыі ды іншых законаў засталася сядзець у сваім фатэлі і працягвае «кіраваць адукацыяй сталічнай вобласці» да сённяшняга дня. Мы, настаўнікі, пастаўленыя перад дылемай «партыя або праца» захавалі тады сваю працу. Двое настаўнікаў – сяброў АГП выйшлі з партыі, ***астатнія, здаецца, захавалі ўсё, як было. Іх ніхто не чапае, іншых настаўнікаў не чуваць, каб так брутальна гналі за партыйнасць. Я лічу, што гэта калі не перамога, то маленькая перамога. Хаця б над уласнай бояззю і згодніцтвам.***

**Плошча,ператрус, звальненне**

Увосень 2010 г. перад выбарамі я ўдзельнічала ў перадвыбарчай кампаніі – збірала подпісы за кандыдата ад партыі БНФ Р. Кастусёва і за А. Міхалевіча. 19 снежня разам са сваімі сябрамі была на мітынгу і мірным шэсці. Гвалтоўнай часткі мітынгу мы не бачылі, бо нам трэба было ехаць на апошняй электрычцы дамоў, недзе ў 22 гадзіны мы пакінулі ўсё яшчэ мірнае і прыгожае шэсце. 5 студзеня 2011 г. у мой дом прыйшлі з ператрусам 5 асоб з міліцыі і КДБ –

“шукаць зброю і наркотыкі”, а забралі камп’ютар. 11 студзеня новая дырэктар школы Наталля Меркуль (прызначана з 1 верасня 2010 г.) абвясціла мне, што ***не працягвае са мной працоўны кантракт, бо*** «*даведалася, што ў маім доме быў вобыск, а настаўнік павінен быць законапаслухмяным чалавекам*». Нягледзячы на звароты і просьбы бацькоў вучняў, былых вучняў, калег-настаўнікаў, прафкама школы працягнуць кантракт з Ільініч, дырэктар была няўмольная. Сама прапрацавала ў нашай школе чатыры месяцы, а звольніла чалавека з 25-гадовым стажам у гэтай школе, амаль што апошнюю з настаўнікаў, што жывуць у Тальцы (астатнія і сама Меркуль ездзяць на працу з Мар’інай Горкі). Кантракт скончаўся 27 студзеня, згодна з працоўным пагадненнем дырэктар абавязана была папярэдзіць мяне пра намер не працягнуць кантракт за месяц – да 27 снежня. Чаму ж яна не зрабіла гэтага? Бо яна і не збіралася мяне звальняць. Ператрус напалохаў яе – гэта звязана з Плошчай, заадно згадалі і ранейшыя «злачынствы»: сяброўства ў БНФ, адмову выконваць загад Данілевіч аб выхадзе з партыі, заяву ў пракуратуру, каб прыцягнуць яе да адказнасці. Тады і выявілі, што кантракт хутка сканчаецца – і машына запрацавала. Звальненню таксама паспрыяла вельмі цяжкая атмасфера, што ўсталёўвалася ў краіне пасля 19 снежня 2010 г.: каля 700 чалавек былі арыштаваны ў тую ноч на плошчы Незалежнасці, амаль усе кандыдаты ў прэзідэнты сядзелі ў турмах, кожны дзень па тэлевізары паказвалі кадры з прапагандысцкага фільма «Железом по стеклу», у якім пераконвалі гледачоў у тым, што выбары былі нармальныя, а людзі, што выйшлі на Плошчу, – бандыты. Многія людзі верылі гэтаму, таму і асуджалі тых, хто быў на Плошчы. Думаю, дырэктар і РАА пры звальненні кіраваліся менавіта аргументам «яна была на Плошчы», інфармацыяй КДБ пра ўдзел ў мітынгу. Пра гэта казала начальнік Пухавіцкага РАА Таццяна Чарнышова, адказваючы на пытанне журналісткі газеты «Народная воля» Марыі Эйсмант пра прычыну незаключэння кантракта. «*У всего есть причина и следствие… Почему она не скажет честно о той причине. Она знает о ней. По этому вопросу надо не ко мне обращаться. А к тому органу, который этим занимается. Взять у них интервью. У тех, кто ведёт следствие какое-то. Если бы я что-то знала, я не имею права ничего говорить. Обращайтесь в эти структуры…*» (Народная воля 28–31 студзеня 2011 г.).

***Між іншым, хочацца нагадаць тым, хто забыў ці не ведаў зусім: права на ўдзел у мірных шэсцях і мітынгах гарантавана грамадзянам Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Настаўнікі гісторыі таксама не з'яўляюцца выключэннем з гэтага закону. А ўдзел у мітынгу, нават у мітынгу пратэсту, не можа быць прычынай для незаключэння працоўнага кантракта.***

**Пошукі справядлівасці**

Першая арганізацыя, куды я звярнулася па дапамогу, быў ***прафсаюз школы***. Я прасіла старшыню ПК склікаць прафсаюзны сход, спадзеючыся, што змагу расказаць калегам пра сітуацыю і яны мяне падтрымаюць, публічна скажуць дырэктару, што так рабіць нельга. Старшыня прафкама спачатку згадзілася на правядзенне сходу, а потым адмовілася: «Вы хочаце зрабіць мяне крайняй». Прафкам ціха засядаў і вынес рашэнне: звярнуцца з просьбай да дырэктара працягнуць кантракт з Ільініч на 1 год. Вусна мне было сказана: «*Мы не можам бараніць Вас, а раптам Вы зрабілі якое-небудзь злачынства. Бараніцеся самі, едзьце ў Мінск, шукайце юрыста. Мы нічым больш дапамагчы не можам*». Пісьмовая просьба да дырэктара ад прафкама была пададзена, здаецца, у апошні дзень маёй працы і ніякай рэакцыі на яе не было.

У ***раённым прафсаюзным камітэце настаўнікаў*** мне параілі паехаць на прыём да Данілевіч, прасіць яе працягнуць кантракт, але ўрэшце, відаць, адтуль паступіў нейкі сігнал і выснова была такая: «Вельмі хацелі б Вам дапамагчы, але нічога не можам зрабіць».

З просьбай аб дапамозе я звярнулася ў ***Цэнтральны камітэт прафсаюза работнікаў адукацыі*** і да нядаўна прызначанага ***міністра адукацыі Маскевіча***. З ЦК прафсаюза хуценька прыехала юрыст Ларыса Манюк. Яна і патлумачыла мне, што я зрабіла памылку, не аспрэчыўшы тыя вымовы, што былі дадзены мне дырэктарам за апошні час, вывучыла дакументы і дапамагла мне напісаць заяву ў раённы суд аб аднаўленні на працы. Юрыст таксама звярнула ўвагу на тое, што, перш чым звяртацца ў суд, трэба звярнуцца ў ***камісію па працоўных спрэчках школы***. Аказваецца, такая камісія згодна з Працоўным кодэксам павінна ствараецца ў кожным

калектыве з роўнай колькасці прадстаўнікоў адміністрацыі і наёмных работнікаў. У нашым калектыве такой камісіі не было і пра яе нават ніхто не чуў. Яе хуценька стварылі і я звярнулася з заявай туды. ***Разгледзеўшы маю заяву аб незаконным звальненні***, «*камісія не згадзілася з рашэннем кіраўніка Н. В. Меркуль аб непрацягу кантракта згодна з пунктам 4.3.13 калектыўнай дамовы (кіраўнік абавязаны працягнуць кантракт тэрмінам ад 3 да 5 гадоў з працаўніком, які паспяхова і добрасумленна выконвае абавязкі і не дапускае парушэнняў дысцыпліны, мае вялікі стаж працы па спецыяльнасці) і рэкамендавала Ільініч Н. В. аспрэчыць рашэнне кіраўніка ў судовых органах*».

***Міністэрства адукацыі*** даслала «змястоўны» адказ з аднаго радка за подпісам намесніка міністра К. Фарыно аб тым, што мая скарга перасланая «для разгляду і адказу ва ўпраўленне адукацыі Мінаблвыканкама», гэта значыць да Т. І. Данілевіч, той самай асобы, якая гнала мяне і яшчэ 5 настаўнікаў з працы ці з партыі год таму. Таіса Іванаўна адказала, што звольнена я законна, «у сувязі з заканчэннем кантракта», і парэкамендавала звярнуцца ў суд.

У сакавіку ў Блужскі сельсавет (да яго ўжо далучылі Тальку) на сустрэчу з жыхарамі прыехаў памочнік прэзідэнта па Мінскай вобласці ***М. М. Іванчанка***. У сельскім клубе сабралася шмат народу, праўда, добрая палова былі супрацоўнікі райвыканкама. Я звярнулася да яго ў поўнай зале са сваімі дзвюма праблемамі: звольнена з працы са школы и не магу нікуды ўладкавацца паводле спецыяльнасці; у гэтым годзе ў нас у Тальцы начальства так пастаралася «акультурыць ландшафты» пасля нашай скаргі ў вышэйшыя інстанцыі, так зааралі ўсе палі (да гэтага не араныя год 15!), што цяпер мы не маем выгану для нашых кароў. Высокі чыноўнік адказаў літаральна наступнае:

*«С выгоном мы вам, тальковским людям, конечно, поможем, а вот работы для Вас в школе нет. Я объясню, почему. Мы победили на выборах, народ поддержал нашу программу. Чтобы осуществить её, мы подбираем команду менеджеров, которые будут претворять её в жизнь. В других странах, в том числе западных, демократических, также партия, которая победила на выборах, подбирает людей, которые ей подходят. Ваша партия*

*БНФ не принимает всё то, что делает наш Президент, делаем мы, критикует нас. Поэтому для Вас нет места в этой системе. Вы нам не подходите. Вы хотите быть против существующей власти и одновременно получать зарплату от неё. Нельзя одновременно заниматься политикой и быть учительницей».*

Фактычна, гэта было тое самае, што я чула год таму ў кабінеце Данілевіч, толькі яшчэ і з прэтэнзіяй на нейкую навуковасць, са спасылкай на тое, што гэтак жа робяць у дэмакратычных краінах! Калі нават прыняць (сумнеўны для мяне асабіста) тэзіс Іванчанкі, што "*яны перамаглі на выбарах*" – тут у кожным сказе падмена паняццяў. Настаўнікі не адносяцца да катэгорыі менеджараў, якіх падбірае партыя-пераможца для кіравання краінай. Нідзе ў свеце іх не выганяюць з працы, калі на выбарах перамагла іншая партыя. ***Заробак настаўнікі атрымліваюць не ад Данілевіч, Іванчанкі ці Лукашэнкі, а ад дзяржавы і працуюць яны для беларускага народа, а не для партыі ўлады.*** А Лукашэнка, Данілевіч і Іванчанка не ёсць Рэспублікай Беларусь (хоць яны так думаюць, напэўна), а ўсяго толькі зменныя чыноўнікі, якіх народ, у тым ліку і я, наняў, каб яны часова выконвалі нейкія функцыі.

Калі Іванчанка называе палітыкай сяброўства ў партыі БНФ, збор подпісаў за апазіцыйных кандыдатаў, удзел у назіранні за выбарамі – і адмаўляе мне ў праве займацца гэтымі справамі, бо я настаўніца, то ***чаму тады маіх калег «бізуном і пернікам» прымушаюць уваходзіць у ГА «Белая Русь», збору подпісаў за дзейнага прэзідэнта, удзелу ў выбарчых камісіях?***

Пісьмовага адказу ад памочніка прэзідэнта я не атрымала, хоць тады ж даслала сваю скаргу і матэрыялы на яго адрас.

У пракуратуры Данілевіч адраклася ад сваіх слоў і сказала, што яна выклікала настаўнікаў абмеркаваць якасць працы і з партый іх не гнала. Выкруціцца ёй дапамаглі яе падначаленыя, даючы хлуслівыя звесткі следству (на допыце ў пракуратуры следчы паказаў мне пратакол допыту в. а. начальніка РАА). Памочнік прэзідэнта Іванчанка праз год пасля гэтай падзеі, ужо пасля майго звальнення, публічна ў Блужскім клубе аб'явіў, што для мяне, настаўніцы, сябра БНФ «нет места в этой системе». Пры гэтым ва ўсіх судах і

сёння адмаўляюць той факт, што звальненне мела палітычны характар, сцвярджаюць, што “доказаў палітычнай дыскрымінацыі з-за прыналежнасці да партыі не знойдзена”. Падаецца мне, чым вышэйшы начальнік, тым менш ён абцяжарвае сябе неабходнасцю выканання законаў. ***Адкуль Вы, сп. Іванчанка, ведаеце што я прымаю, а што не? Вы што, мае думкі чытаць умееце? Між іншым, у кожнага грамадзяніна Беларусі ёсць права нешта прымаць, а нешта не прымаць нават з палітыкі дзейнага прэзідэнта.*** У нас толькі няма права на гвалтоўныя дзеянні, але ж я заўсёды адмоўна ставілася да гвалтоўных метадаў у палітыцы і ў жыцці. Маім ганіцелям хочацца зрабіць з мяне такую радыкальную антысацыяльную асобу, якая таму і не мае права працаваць у школе. Ну і ў чым  мой радыкалізм?

Звярнулася я таксама з просьбай аб спрыянні ў працаўладкаванні да старшыні Пухавіцкага райвыканкама ***Ф. П. Каралені***. Была ў яго на прыёме асабіста і пакінула сваю пісьмовую скаргу. Менавіта пасля гэтага мне прапанавалі ў РАА працу выхавальніцай у дзіцячым садку ці выхавальніцай групы падоўжанага дня. Гэтыя прапановы я не прыняла (чаму, ужо казала вышэй). Пісьмовага адказу ад раённага старшыні я таксама не атрымала.

Некалькі разоў звярталася ў ***Пухавіцкі РАА*** з просьбай аб спрыянні ў працаўладкаванні, але адказ быў стандартны: «*вакансий нет*».

**Суды**

***Пухавіцкі раённы суд*** разглядаў маю скаргу два дні (10 – 11 сакавіка 2011 г.). ***Не пабаяліся прыйсці на яго сведкамі мае калегі:*** Валянціна Антонаўна Аўдошчанка і Людміла Альбертаўна Місуна – сказаць добрае слова пра мяне як настаўніка і як чалавека. ***Прыйшлі таксама былыя вучні, бацькі вучняў. Усе сведчылі, што я не горшая за іншых настаўніца***, але іх сведчанні не былі пачуты суддзёй С. Р. Акуліч. У аднаўленні на працы суд адмовіў, але чамусьці пастанавіў, каб РАА кампенсаваў мне маральныя страты ў суме 200 тыс. рублёў і паслугі адваката ў памеры 175 тыс. рублёў. Больш падрабязна пра гэту падзею можна прачытаць у артыкуле «Глухі суд» Марыі Эйсмант (Народная воля 11–14 сакавіка 2011 г.).

***Судовая калегія па грамадзянскіх справах Мінскага абласнога суда*** ў складзе старшыні Т. Е. Кулаковай, суддзяў Н. Н. Вайніла і А. Н. Аўдзейчыка 25 красавіка 2011 г. пакінула рашэнне раённага суда без змянення, а касацыйную скаргу не задаволіла.

***Пракуратура Мінскай вобласці*** таксама адказала, што «*падставаў для аспрэчвання судовых рашэнняў няма*». Аб гэтым я атрымала адказ у ліпені за подпісам пракурора Мінскай вобласці А. М. Архіпава.

У снежні 2011 г. я звярнулася з касацыйнай скаргай у ***Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь. Намеснік старшыні Вярхоўнага суда А. А. Забара*** 1 сакавіка 2012 г. адказаў, што ўсё зроблена ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам і мая скарга не можа быць задаволена.

**Развітанне з марай пра аграэкатурызм**

З 2007 г., калі пачаліся размовы пра закрыццё Талькаўскай школы, я пачала займацца аграэкатурызмам. Для гэтага ў маім мястэчку Талька ёсць усе ўмовы: прыгожая і багатая прырода, цікавая гісторыя. Распрацаваны зялёны маршрут «Талькаўскія скарбы», які ўключае 3 пешыя ці веласіпедныя пятлі з наведваннем нашых цікавых мясцін – Коласава стража, возера Грымячае, рэкі Таль і Свіслач, крыніца Кіпячка, курганы, гарадзішча Замачак, яўрэйскае мястэчка Талька, шляхецкая аколіца Суцін, радзіма музыканта Іосіфа Жыновіча ў Арэшкавічах ды інш. Разам са школьным краязнаўчым гуртком адрадзілі абрадавыя святы Каляды, Гуканне вясны, Юр'я, Купалле. Пра гэтыя святы можна пачытаць і паглядзець на краязнаўчым сайце www.talka.info. Пра ўражанні ад талькаўскіх турыстычных магчымасцей пісала газета «Звязда» (артыкул Вольгі Мядзведзевай «Адчуць дух беларускага мястэчка»).

Ёсць лазня, малако, яйкі з уласнай гаспадаркі, садавіна ды гародніна. Але хата наша малая, няма дзе прымаць ахвотных адпачыць у нас. Не ўсе, асабліва сем'і з дзецьмі, могуць начаваць у намёце. У 2008 г. пачалі рэканструкцыю свайго старога дома, каб прымаць на начлег у сядзібе 5 – 8 турыстаў: абклалі яго цэглай, павялічылі і зрабілі мансарду. Для ажыццяўлення праекта ўзялі крэдыт, але яго не хапіла, каб давесці рэканструкцыю да канца,

новая частка сядзібы не ўзведзена. Прасіла спецыяльны льготны крэдыт на аграэкатурызм, што дае Белаграпрамбанк. Тры гады Пухавіцкі райвыканкам адмаўляў у спрыянні, матывуючы адмову рознымі, нават фантастычнымі, прычынамі. Нарэшце, 24 снежня 2010 г. я атрымала станоўчы адказ рабочай групы па развіцці аграэкатурызму ў Пухавіцкім раёне. ***Якая радасць! Цяпер мы зможам зарабляць у сваёй вёсцы***, нават, калі зачыніцца школа і не будзе настаўніцкай працы. Але радасць была нядоўгай. Пасля падзей, якія адбыліся на працягу наступнага месяца: ператрус у маім доме, звальненне з працы, – ужо 21 лютага 2011 г. той жа аддзел фізкультуры, спорта і турызму рэзка памяняў сваё рашэнне і паведаміў мне: “рабочая група лічыць ажыццяўленне дзейнасці ў сферы аграэкатурызму на Вашай аграэкасядзібе малаэфектыўнай у сувязі з адсутнасцю ў цяперашні час умоў па аказанні паслуг размяшчэння і харчавання турыстаў, а таксама лічыць мэтазгодным хадайнічаць перад Пухавіцкім райвыканкамам адмовіць у садзеянні выдачы крэдыту з прычыны высокай рызыкі неэфектыўнага ўкладання крэдытных рэсурсаў на льготных умовах…”.

Сёння я працягваю займацца аграэкатурызмам: праводжу экскурсіі па зялёным маршруце, рэалізую прадукцыю гаспадаркі і сада. Але гэта мізэрны даход. Паўнацэнна працаваць сядзіба не можа, бо стаіць недабудаваная, прымаць турыстаў мы не можам. Укладзеныя сродкі не працуюць, новы звычайны крэдыт для сканчэння я ўзяць не магу, бо не маю цяпер сталай працы, і ніякіх перспектыў з завяршэннем рэканструкцыі пакуль не бачу. Звальненне з працы разбіла маю мару заняцца аграэкатурызмам.

**Салідарнасць**

Пасля звальнення я апынулася ў цяжкім стане: захварэла, выхаду з тунэля не было відаць ні з працай, ні з аграэкатурызмам, ні з краязнаўствам (каму яно трэба цяпер?). Мой свет перакуліўся. Трэба было пачынаць усё ад самага пачатку, а сіл не было.

***Выратавала мяне людская дапамога.*** Мне пашанцавала, што пра гэта звальненне напісала Марыя Эйсмант у «Народнай

Волі». Інфармацыю таксама далі БелаПАН (паведамленні Марата Гаравога), «Наша Ніва», «Свабода» ды інш.

Калега са Слуцку Зінаіда Цімошык звярнулася да чытачоў з прапановай дапамагчы чалавеку ў бядзе, сама прыехала са сваімі сябрамі на мой суд у Мар'іну Горку, першая даслала грашовы перавод. Дзясяткі знаёмых і зусім незнаёмых людзей працягнулі руку – мне тэлефанавалі, пісалі лісты, паштоўкі, дасылалі грошы і бандэролі. Немагчыма назваць у гэтым артыкуле ўсе прозвішчы добрых людзей: адных пераводаў я атрымала каля 170! Я да сённяшняга дня працягваю разважаць над гэтым феноменам. Чаму гэтыя людзі так зрабілі? ***Я чытала, што ў Польшчы, калі быў арыштаваны электрык Лех Валенса, палякі літаральна завалілі яго шматдзетную сям'ю дапамогай. Але ж я добра ведала, што беларусы не палякі, а вясковая настаўніца зусім не падобная да лідара польскай «Салідарнасці». Таму маштаб дапамогі маіх суайчыннікаў уразіў мяне.*** Што кіравала гэтымі людзьмі, калі яны ўзняліся і рушылі на пошту даслаць ліст ці перавод незнаёмаму чалавеку?

Людзей абурыла несправядлівасць і беззаконне чыноўнікаў над маленькім чалавекам?

Яны разумеюць, што з кожным можа адбыцца такая расправа і на месцы звольненай "у сувязі са сканчэннем кантракта" можа апынуцца любы з іх?

Людзі падзяляюць мае каштоўнасці, маю справу па адстойванні сваіх прафесійных і чалавечых правоў ды годнасці?

Я ўбачыла, што я не адна, што шмат людзей падтрымліваюць мяне. Гэтая хваля салідарнасці паказала мне, што я маю рацыю і што беларусы вартыя лепшага жыцця. Падтрымка людзей паказала, што ў Беларусі ёсць ці зараджаецца грамадзянская супольнасць, а гэта дае надзею на лепшае.

Аказалася, што у нас ёсць шмат грамадскіх арганізацый, ініцыятыў, ёсць і партыя БНФ, якая можа не толькі дзяліцца на часткі, але і дапамагаць выгнаным. Некалькі сяброў КХП-БНФ, БНФ у цяжкія

часы нават прыехалі да мяне, каб падтрымаць. Таварыства Беларускай Школы хадайнічала ў судзе, а Тамара Мацкевіч не прапусціла ніводнага судовага паседжання, каб падтрымаць мяне. Якая была радасць, што ТБШ дапамагло мне не згубіцца прафесійна – прапанавалі рэдагаваць настаўніцкі метадычны сайт www.aacenka.by! Ніхто з тых, да каго звярталася, не адмовіў у дапамозе. А большасць прыйшла сама, не чакаючы просьб. Грамадскія арганізацыі і ініцыятывы «Вясна», «Наш Дом», «Салідарнасць» таксама дапамагалі, хто чым мог, – юрыдычнай кансультацыяй, парадай, адвакатам, падтрымкай у судах.

Я выжыла і таму, што перад вачыма быў прыклад людзей, якім было яшчэ цяжэй, чым мне. У турмах сядзяць ні ў чым не вінаватыя, найлепшыя сыны беларускай нацыі. Яны пазбаўлены волі, церпяць здзекі, катаванні, іх могуць нават знішчыць фізічна. Гледзячы на гэтае беззаконне і пакуты, бачыш, што твая праблема нашмат менш балючая.

**Не бойцеся!**

Цэлы год я хадзіла па зачараваным коле – усё шукала працу ў школе. У Мінску, Асіповічах. Думалася, а раптам які-небудзь дырэктар не пабаіцца ды насуперак загаду зверху возьме мяне настаўніцай гісторыі? Я ж не самая горшая настаўніца, я змагу даказаць гэта сваёй працай! Дарэмныя спадзяванні. Толькі 12 студзеня 2012 г. я спыніла безвыніковыя пошукі і зарэгістравалася рэпетытарам у падатковай. Дала абвесткі – і хутка знайшліся вучні. ***Цяпер я зарабляю на хлеб «дарэктарствам»: хаджу па вучнях, якім трэба мая дапамога, праводжу ўрокі ў іх дома. Мне падабаецца. Тут вынік залежыць ад твайго прафесіяналізму, майстэрства, любові да дзяцей, а не ад умення лоўка складаць паперы, патрэбныя начальству. Як вольны чалавек я змагла прыняць удзел у навучальных праграмах за мяжой – раней мяне не адпускалі са школы. Стажыроўка па тэме «Эфектыўныя метады выкладання і ацэнкі» ў Варшаве была вельмі карыснай і дапамагае мне ў маёй настаўніцкай працы.*** Шкадую, што не распачала гэта год таму, адразу пасля звальнення, баялася ўзяць свой лёс у свае рукі, прывыкла ўсё жыццё хадзіць у стройных шэрагах. Баялася,

што не змагу знайсці вучняў, пагатоў, у маёй вёсцы такой працы няма, а трэба шукаць у горадзе. Дзякуй Богу, усё наладжваецца, цяпер я ўжо ўпэўнена, што не загіну і сваёй настаўніцкай працай змагу зарабіць сабе на хлеб.

**Высновы: дык ці можам мы, настаўнікі, адстойваць свае правы ў сённяшніх умовах?**

Нехта, прачытаўшы ці пачуўшы маю гісторыю, зробіць выснову: не, не можам. Глыбей уцягне галаву ў плечы і пойдзе рабіць тое, што патрабуе ад яго начальства: уступаць у «Белую Русь» ці дзяжурыць на дарогах замест святлафора. “Я не хачу страціць працу, а значыць, кавалак хлеба для сваіх дзяцей, я не хачу парваць свае нервы і здароўе, б’ючыся галавой аб каменную сцяну, я не хачу стаць адрынутым у грамадстве”, – думае мой калега. І ў гэтым, вядома, ёсць жудасная логіка сённяшняга беларускага жыцця, логіка прыстасаванства. І гэта ёсць сёння выбар большасці з нас.

Я кажу цяпер толькі за сябе. Сёння, аналізуючы тыя падзеі, што адбыліся са мною на працягу апошніх двух гадоў, я не жадаю такіх выпрабаванняў нікому з добрых людзей. Я не адчуваю сябе пераможцай. ***Але з упэўненасцю магу сказаць, што, калі б усё вярнулася назад, я б зрабіла ўсё так, як зрабіла. Улічыла б тыя памылкі, пра якія кажу вышэй, але прынцыповыя крокі б засталіся ранейшымі. Мне нясорамна перад сваімі вучнямі і сябрамі, а гэта дарагое пачуццё.*** А тым калегам, хто не адчувае сябе камфортна ў такой школе, якой ёсць сёння нашая беларуская школа, я хачу сказаць: не бойцеся!

***Я зразумела, што выйдзем мы з гэтай заганнай сітуацыі, калі перастанем баяцца сваіх крыўдзіцеляў.*** Я сама больш за ўсё баялася, што я і мая дачка не будзем мець грошай на хлеб, заплаціць за тэлефон і электрычнасць, купіць дровы. ***Прапрацаваўшы ўсё жыццё ў адной дзяржаўнай школе, вясковы чалавек, мала прыстасаваны да рынкавых умоваў, не маючы ніякіх «блатаў», знаёмстваў, – я змагла выжыць і пачаць усё спачатку.***

Дапамажыце таму, хто пакутуе. Большасць з настаўнікаў маўчаць і церпяць беззаконне, бо не ўпэўнены, ці змогуць выжыць, калі будуць выгнаныя са сваёй працы, ці дапаможа ім хто, ці падтрымае. Салідарнасць – гэта самае важнае для нас сёння. ***Мы пераможам, калі падтрымаем тых, хто трапіў у жорны сістэмы. А наступныя, тыя, што ўздымуць галаву, лягчэй пераможуць свой страх і прыстасаванства, калі будуць ведаць, што іх не кінуць добрыя людзі.*** Не мною сказана: для таго, каб зло перамагало, дастаткова, каб добрыя людзі нічога не рабілі.

***Не маўчыце, калі вас гоняць. Мне дапамаглі людзі і арганізацыі яшчэ і таму, што справа атрымала розгалас дзякуючы СМІ. Людзі даведаліся пра гэту бяду, таму і пранікліся маёй праблемай. Злачынцы-чыноўнікі таксама баяцца розгаласу пра свае непрыгожыя ўчынкі.*** Некаторыя нават спыняюцца ад галоснасці, праўда, могуць рабіць паскудствы таемна, чужымі рукамі. І пра гэта трэба казаць. Таму вельмі важна не маўчаць пра парушэнне вашых правоў! Дзякуй Богу, у Беларусі яшчэ ёсць вольныя СМІ, праваабарончыя арганізацыі. У нас, настаўнікаў, ёсць сайт www.nastaunik.info, які чуйна адлюстроўвае ўсё, што адбываецца ў школьнай сістэме, у тым ліку і факты парушэння правоў настаўнікаў.

***Толькі ад нас саміх залежыць, якой будзе наша школа і наша краіна. Гэта толькі здаецца, што ад аднаго чалавека нічога не залежыць. Усе справы пачынаюцца з першага кроку.***

# «Кніжка для беларуса» з дадаткамі

*П. Садоўскі*

***Спроба сфармуляваць праект папулярнага выдання пра нацыянальныя каштоўнасці ў сістэме сучасных гуманістычных каардынат***

Мэта нашай сустрэчы, як тое сфармулявана арганізатарамі, – абагульніць пазітыў з досведу настаўніцкай працы і па магчымасці даць рэальныя парады, як нам захаваць беларускую школу. Не ўдаваючыся ў крытыку (макра- і мікрапрычыны нам вядомыя) і не будуючы «рэвалюцыйных» сцэнароў, мы будзем рабіць спробу шукаць правільныя адказы на няправільнае становішча рэчаў. Аднак, трэба прызнаць, што, гаворачы пра нацыянальныя каштоўнасці, у сённяшняй сітуацыі не застаецца нічога лепшага як паралельна з распаўсюдам беларушчыны ў школе і па-за школай, ствараць пісьмовыя (ці электронныя) тэксты для шырокага кола карыстальнікаў. Напісанае, сапраўды, застаецца.

Аглядаючыся назад, я чэрпаю аптымізм з уласнай дзейнасці, калі яшчэ быў маладым і працаваў выкладчыкам педінстытута. Тады мы разам з Вінцуком Вячоркам, акрамя працы і лекцый на грамадскіх пачатках, вырашылі і за некалькі месяцаў зрабілі беларускую хрэстаматыю для дзіцячых садкоў. Гэтая кніжка пазней была перанесена на дыск намаганнямі ТБШ і «Цэнтра Супольнасьць».

Уяўляецца, што абагульненне метадычнага досведу і ўзаемнае ўзбагачэнне настаўнікаў навучальнымі матэрыяламі для беларускай школы, было б яшчэ больш паспяховым, калі б у настаўнікаў, вучняў і бацькоў была б нейкая настольная кніга, дзе б у папулярнай форме былі б сабраныя веды пра нашу Радзіму.

Можна прапанаваць умоўную назву накшталт «Хто мы і дзе мы знаходзімся?». Гэтая кніга ўяўляецца як нешта інтэграванае, што б аб’ядноўвала «нацыянальныя міфы» (у станоўчым еўрапейскім сэнсе)

з асноўных раздзелаў гуманістыкі: «гісторыі падзеяў», культурнай антрапалогіі, рэлігііі, фармавання этнасу і нацыі, фальклору і мастацкай літаратуры Аб’ём базавай кніжкі не павінен перавышаць 120 – 150 старонак. Да яе павінны належаць, напрыклад, пяць дадаткаў у адпаведнасці з раздзеламі.

Асноўныя тэксты павінны складацца з вывераных матэрыялаў, як у энцыклапедыях, але павінны быць напісаныя папулярна, як, напрыклад, «Зямля пад белымі крыламі» У. Караткевіча. Патрыятычна, але без абразаў у дачыненні да суседзяў і без «загарбніцтва» («Дастаеўскі – беларус»). Трэба разумець, што кожная краіна, кожны народ мае права быць такім, якім ён ёсць. Калі Расія перастане быць імперыяй, хай сабе і ліберальнай, яна знікне з мапы свету як гістарычны феномен. Задача малых народаў – супраціўляцца ці асіміляваца.

Гэта ўсё не прыйдзецца рабіць на пустым месцы. Ужо ёсць шмат кніжак ды аўтараў, якія могуць прыдасца для гэтага праекта. Ужо ўзгадвалася Караткевічава «Зямля пад белымі крыламі». Калісьці былі выдадзеныя «150 пытанняў і адказаў», у мінулым годзе Зміцер Санько напісаў цікавую брашуру «Асобы, якія тварылі гісторыю». Ёсць шмат кніжак з серыі «Нашы славутыя землякі». Можна пакарыстацца папулярнымі нарысамі К. Тарасава, У. Арлова ды Г. Сагановіча. Толькі трэба асцярожна ставіцца да сумніўных аўтараў тыпу Анатоля Тараса. У бясчассе з нораў выпаўзае шмат «беларусаведаў» ды самазваных гісторыкаў-кампілятараў. Ёсць у нас і дасведчаныя людзі ў галіне рэлігіі, фальклору, літаратуразнаўства. Галоўнае – выбраць дастатковы мінімум. Напрыклад, у літаратурным дадатку – 50 лепшых беларускіх вершаў, якія можна вучыць на памяць. Або кавалкі прозы... Даць узоры тэкстаў, па якіх можна адрозніць Чорнага ад Коласа. Так, як мы паводле першых акордаў адрозніваем Моцарта ад Бетховена.

Мы не павінны пераарыентоўвацца на мадэрных даследчыкаў нашай нацыянальнай ідэнтычнасці, што раяць нам развітацца з гістарычным «праектам» «“Наша Ніва” – Купала – БНР – Адраджэнне – БНФ канца 80-х пачатку 90-х гг. мінулага стагоддзя» ды будаваць дэмакратычную «грамадзянскую» дзяржаву без уласнай мовы, культуры, гісторыі. Глабалізацыя эканомікі і новыя ўмовы нашага

палітычнага хаўрусавання з «блізкароднасным» суседам прывядуць да трагічнага канца.

Мы ўжо звыкліся з нацыянальным прыніжэннем. Агідная мянушка «бульбаш» стала паспяховым брэндам алкагольных напояў. З Полацку, цэнтра беларускай дзяржаўнасці, у Мінск ходзіць маршрутны мікрааўтобус з фірменнай назвай «Западная губерния». За выкарыстанне гістарычнай нацыянальнай сімволікі грамадзян трактуюць як злачынцаў.

# «Крызіс у адукацыі – пошукі шляхоў выйсця»

***Матэрыялы круглага стала 10 сакавіка 2012 года, якія падвёў выніkі грамадскай дыскусіі, распачатай на сайце Настаўнік.інфо www.nastaunik.info/info/conference/***

Круглы стол сабраў вакол сябе як даследчыкаў педагагічнай думкі, так і практыкаў сучаснага адукацыйнага працэсу: настаўнікаў і рэпетытараў, нефармальных адукатараў і супрацоўнікаў навукова-метадычных установаў, дасведчаных экспертаў і пачаткоўцаў.

Мэтай сустрэчы сталася гутарка «не пра хібы, а пра магчымасці» – пра тое, якія шляхі і крокі даюць плён у пераадоленні праблем нашай адукацыі ў сённяшніх умовах.

**Удзельнікі:**

Уладзімір Колас, ТБШ.
Тамара Мацкевіч, сайт www.nastaunik.info.
Алесь Лозка, ТБШ.
Міхаіл Гусакоўскі, Цэнтр праблем развіцця адукацыі БДУ.
Аляксандр Палоннікаў, Цэнтр праблем развіцця адукацыі БДУ.
Мікалай Запрудскі , Акадэмія паслядыпломнай адукацыі.
Галіна Сухава, гімназія № 5 г. Віцебска, клуб «Крыштальны журавель».
Святлана Аксючыц, Акадэмія паслядыпломнай адукацыі.
Алена Радзевіч, Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі.
Вінцук Вячорка, ТБШ.
Наталля Ільініч, настаўніца гісторыі, сайт www.aacenka.by.
Міхась Булавацкі, настаўнік матэматыкі, рэпетытар, арганізатар «Беларускага пяціборства».
Пётра Садоўскі, мовазнавец, палітык і дыпламат, “Цэнтар Супольнасьць”.
Валер Мазынскі, рэжысёр, ГА «Цэнтар Супольнасьць».
Аля Дзяргай, ГА «Цэнтр Пост».
Лявон Карповіч, настаўнік матэматыкі.

Аляксандр Сядзяка, настаўнік, ТБШ.
Алена Палейка, настаўніца гісторыі, “Клуб еўрапейскіх настаўнікаў”.
Аляксандр Быстрык, настаўнік гісторыі.
Валянціна Быстрык, настаўніца англійскай мовы, рэпетытар.

## I. ЯКАСЦЬ АДУКАЦЫІ

**(мадэратар Аляксандр Сядзяка)**

**Аляксандр Сядзяка:**

– Якасць адукацыі – пытанне, якое заўсёды турбуе педагагічную грамадскасць. За апошнія змены ў сістэме адукацыі (маю на ўвазе скарачэнне тэрмінаў навучання з 12 год да 11, адпаведную змену навучальных планаў і праграм) дынаміка пагаршэння якасці адукацыі паскорылася. Гэта паказвае і цэнтралізаванае тэставанне. Што зараз можна зрабіць, каб спыніць гэты працэс?

**Мікалай Запрудскі:**

– 20 год таму якасць адукацыі адназначна разумелася як веды плюс уменні плюс навыкі.

Сёння сюды дадаюцца актуальныя кампетэнцыі для паспяховага жыцця ў Еўропе і нашай Беларусі. Мае сэнс экспертыза якасці адукацыі менавіта з гэтых пазіцый.

У такім выпадку ўзмацняецца значэнне інавацыйных методык: якраз яны найбольш працуюць на авалоданне вучнямі актуальнымі кампетэнцыямі. Больш-менш у гэтым напрамку праца ідзе. Вялікі ўнёсак зрабілі грамадскія арганізацыі (семінары і кнігі на працягу апошніх 10 – 15 гадоў). Гэта заўважна па выніках конкурсу «Настаўнік года».

Ёсць такая праграма Мінадукацыі: «Інструкцыя эксперыментальна-інавацыйнай дзейнасці ва ўстановах адукацыі Рэспублікі Беларусь»[1]. Менавіта ў гэты час завяршаецца напісанне школамі інавацыйных

1 Інструкцыяй аб эксперыментальнай інавацыйнай дзейнасці ва ўстановах адукацыі Рэспублікі Беларусь, зацверджана пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 08.12.2006 №121.

праектаў. Пры ўвядзенні праекта адміністрацыя будзе атрымліваць на 20 % зарплаты больш, настаўнік – на 15 %. Таму пішуць праекты, праходзяць экспертызы.

Таксама ёсць разуменне настаўнікам – таму крыніцы іннавацый усё ж не наверсе, а ў школах і ў настаўніках.

**Аляксандр Палоннікаў:**

– Якія прычыны таго, што змяншаецца якасць адукацыі?

**Мікалай Запрудскі:**

– Па першае, іншае разуменне таго, што такое якасць адукацыі. Па-другое, замена профільнага навучання на факультатыўныя заняткі (яны праводзяцца ў другой палове дня – як нешта другаснае) паўплывала на тую частку, якая веды-ўменні-навыкі.

**Аляксандр Сядзяка:**

– Адмена 12-гадовага навучання – рашэнне, па сутнасці, не педагагічнае, а палітычнае. Неабходна было прынамсі дачакацца выпуску праз год, паглядзець на вынікі профільнага навучання і прааналізаваць іх. Так званыя штрыхавыя класы – страчаныя дзеці, якія не атрымалі адукацыі. Са свайго досведу магу сказаць: сярэдні бал ЦТ па фізіцы – 18 балаў. Пры чым фізіку здаюць далёка не ўсе, толькі тыя, хто рыхаваўся спецыяльна, невыпадковыя дзеці. Гадоў пяць таму той жа сярэдні бал складаў 33 – 37 балаў.

У кожнай школе так званая якасць ведаў – рэгламентная лічба, якую павінен агучыць завуч, які займаецца навучальным працэсам (раней гэта былі вучні, якія вучацца на 4 і 5, цяпер – на 6 – 7 і вышэй). Яна, як была ў савецкі час – 40 %, так і засталася ў школе. А вось што тычыцца выхаду, ЦТ па-за школай – маем што маем.

**Алена Палейка:**

– Мне здаецца, мы адышлі ад таго, што абмяркоўвалі. Як можна параўноўваць ранейшыя і цяперашнюю сістэмы адукацыі, калі грамадства памянялася? Працягваем маніторыць сістэму па старых

прынцыпах. Нават той жа вынік ЦТ дае адносную карціну: узровень падрыхтаванасці адных вучняў адносна другіх.

Міністэрства адукацыі, аднак, кажа, што ўсё добра. Можа, варта правесці незалежны маніторынг (звярнуцца, напрыклад, да сістэмы PISA)?!

**Аляксандр Быстрык:**

– Вось у мяне з сабой вынікі тэставання па гісторыі Беларусі ад 2007 года. Праз 5 гадоў нічога не змянілася, усе вяршыні і падзенні засталіся. Міністэрства адукацыі баіцца ўзяць на сябе адказнасць за працу ў школе: «Адзнака ў балах, атрыманая на ЦТ, гэта не пацверджанне школьнай адзнакі, а ўзровень дасягнення ведаў у параўнанні з ведамі іншых абітурыентаў. Тэсты не выходзілі за рамкі абавязковага мінімуму гістарычнай адукацыі». Мінімум 2007 г. складанейшы за сённяшні, а графік вынікаў тэставання нязменны…

У большай ступені інавацыі да нас не дайшлі: неабходныя новыя падручнікі, новыя настаўнікі, новая структура школы. Сённяшняя структура школы дапускае ў выпускныя класы тых, хто не здольны пайсці далей у вышэйшую адукацыю.

**Алена Радзевіч:**

– Нашая краіна не ўдзельнічала ў даследаванні PISA. Але паказальныя вынікі Расіі, якая апынулася ў аўтсайдарах, а Расія традыцыйна лічылася ў нас адной з мацнейшых. На першыя пазіцыі выйшла Фінляндыя. Даследаванні паказваюць, што нашыя вучні не ўмеюць чытаць, узаемадзейнічаць з інфармацыяй. Яны добра ўзнаўляюць факталагічны матэрыял, добра падрыхтаваныя, але не ўмеюць працаваць з інфармацыяй, прадукаваць уласныя ідэі.

Усе рэформы ў адукацыі датычылі пэўных формаў: на працягу шматлікіх гадоў мы змянялі падручнікі, распрацоўваліся метадычныя дапаможнікі, зусім не надаючы ўвагі асобе самога настаўніка. Якім настаўнік быў у 70-я гады (традыцыйны настаўнік, які павінен ўкладаць веды ў галовы дзяцей), такім ён і застаўся і сёння. А цяпер ужо новыя патрабаванні, мы жывём у новай інфармацыйнай

прасторы, ведаў робіцца болей і болей. Напэўна, трэба ўжо паглядзець інакш на сам працэс адукацыі – не столькі на вынік, колькі менавіта на працэс адукацыі. Тут я б хацела расказаць пра тэхналогію развіцця крытычнага мыслення праз чытанне і пісьмо. Тэхналогія пачала актыўна развівацца з 1996 года амерыканскімі навукоўцамі і знайшла добрае якаснае пацверджанне ў шмат якіх краінах. У Беларусі яна стала ўкараняцца з 2000 года і пачыналася з навучання настаўнікаў, іх падтрымкі. Г.зн. мы пайшлі знізу, навучылі некалькі пакаленняў настаўнікаў, якія на сённяшні дзень ужо з'яўляюцца мультыплікатарамі, працуюць у шматлікіх галінах. Сама па сабе тэхналогія з'явілася ў адказ на інфармацыйныя выклікі, яе мэта – навучыць працаваць з інфармацыяй. Гэтую інфармацыю сартаваць, выбіраць галоўнае для сябе. Я лічу, што гэтая тэхналогія вельмі важная для аздараўлення і развіцця грамадства, пабудовы грамадзянскай супольнасці. Чалавекам, які крытычна мысліць, вельмі цяжка маніпуляваць. Ён узброены аргументаванымі довадамі, можа зразумець, якая інфармацыя для яго важная. Можа яе сартаваць і выбіраць на грунце свайго ўласнага досведу. У заходнееўрапейскіх краінах вельмі шмат падручнікаў. Настаўнік мае права выбару альтэрнатыўных падручнікаў. Ён можа ўвогуле падручнікамі не карыстацца, а можа ведаць, як знайсці інфармацыю, як ёй скарыстацца. Ёсць інтэрнэт-рэсурсы, сучасныя электронныя падручнікі і проста артыкулы навукоўцаў, педагогаў, псіхолагаў. Такім чынам, я лічу, акцэнт павінен рабіцца на развіццё настаўніка, яго падтрымку з розных бакоў. І тыя ж тэхналогіі трэба ўкараняць праз настаўнікаў. Можа, эфект будзе не такі хуткі, як нам хацелася, але тым не менш вынік будзе.

**Святлана Аксючыц:**

– Вядома, шмат у нашай адукацыйнай прасторы залежыць ад асобы выкладчыка. Якога настаўніка мы маем, такі і вынік адукацыйнага працэсу. Хто сёння ідзе ў школу?

Паводле вынікаў тэставання, у педагагічныя ўстановы ідуць тыя, хто не паступіў літаральна нікуды. Рэйтынг педагагічных установаў даволі нізкі. Але хочацца акцэнтаваць тое, што ў адукацыйнай прасторы (буду казаць пра пачатковую школу, у сувязі са сваім

навуковым даследаваннем) ёсць вялікі працэнт настаўнікаў высокаадукаваных. Так, у сённяшняга настаўніка забралі сродак навучання – падручнік па развіццёвым навучанні, які забаронены Міністэрствам адукацыі як асноўны падручнік.

Але: калі настаўнік навучаны тэхналогіям і ён дасведчаны педагог, падручнік як сродак яму і не патрэбны. Такі працэнт педагогаў маленькі – але тым не менш. Так, у рамках майго эксперымента ўдзельнічаюць 10 установаў адукацыі рэспублікі – гэта і Горкі Магілёўскай вобласці, і Магілёў, і Маладзечна, і ў Мінску чатыры ўстановы. І я бачу даволі высокі ўзровень настаўнікаў. У рамках свайго навуковага даследавання «Задачны падыход як сродак фармавання пазнавальнай актыўнасці малодшых школьнікаў» мы стараемся акурат навучыць настаўнікаў, даць ім інструментар, якім яны могуць скарыстацца і фармаваць у пачатковай школе калектыўнага суб'екта навучальнай дзейнасці, каб настаўнік старэйшай школы ўжо канкрэтна працаваў на фармаванне індывідуальнай дзейнасці навучэнца. На жаль, нашая школа працуе толькі на тое, каб навучэнец атрымаў пэўны аб'ём ведаў. Яна не вучыць вучыцца. І атрымліваецца, што з гэтым вялізным аб'ёмам інфармацыі і ведаў дзіцё не прыстасавана да жыцця ў сучасным грамадстве. І вось канкрэтна ў пачатковай школе мы ў эксперыментальнай дзейнасці выкарыстоўваем праектныя задачы, якія скіраваны на ўменне карыстацца вядомымі спосабамі дзеяння, але не ў стандартнай, а ў жыццёвай сітуацыі. Гэта дазваляе за чатыры гады ў пачатковай школе сфармаваць даволі моцнага суб'екта навучальнай дзейнасці. Але ці гатова нашая сярэдняя школа прыняць такіх дзяцей – гэта вялікая праблема. Я ўдзячна, што ўлетку прайшла навучанне па актыўнай ацэнцы, з'ездзіла ў Польшчу і хачу сказаць, што на ўсіх 10 пляцоўках працую на ўкараненне метаду актыўнай ацэнкі. У снежні настаўніца 22 гімназіі атрымала грант Мінгарвыканкама – вось такія вынікі па ўкараненні і развіццёвага навучання, і актыўнай ацэнкі.

**Аляксандр Быстрык:**

– Дарэчы, казалі пра поспехі Фінляндыі. Дык вось, у фінаў няма адзнак увогуле.

**Святлана Аксючыц:**

– Ведаеце, я ўвогуле за адмену адзнакі як такога канчатковага выніку ацэньвання. Адзнака – гэта свайго кшталту пуга, якая ўплывае на дзяцей. Мы разумеем, што так ці інакш наш вучань у школе матываваны: я вывучу верш, рашу задачу, бо я атрымаю адзнаку ў 10 балаў, 8 ці 7… Калі ў дзіцяці будзе ўнутраная матывацыя да навучання, то патрэбы ў адзнацы як такой у яго не будзе. У першым і другім класе ў нас безадзнакавае навучанне, мы імкнемся, каб яно было якаснае. У трэцім-чацёртым класе ўсё ж такі ўводзіцца адзнака як вынік ацэньвання і яна нівелюе тыя перамогі, закладзеныя ў першым і другім класах.

**Аляксандр Быстрык:**

– На маю думку, на сённяшні дзень сістэма, якая павінна была актывізаваць матывацыю вучняў, не працуе. Вось афіцыйныя звесткі па Навагрудскім раёне: у 2006 г. сярэдні бал – 6,86. Потым ідзе 7,01, потым 7,26, у 2009 г. ужо – 7, 32. Адзнака вышэй за 7 стала агульная, але вучнем незаробленая і яго не стымулюе.

**Тамара Мацкевіч:**

– Хачу вярнуцца да крытэрыяў якасці. Крытэрыі якасці ацэнкі і адукацыі распрацаваныя ў Еўропе ўжо даўно. Гэтак званыя 8 груп базавых кампетэнцый зацверджаны ў 2006 г. Саветам Еўропы і выступаюць як рэкамендцыйныя для ўсіх еўрапейскіх краін. З іх нашая школа развівае толькі матэматычныя кампетэнцыі (фармаванне навуковай карціны свету). Астатніх няма. Напрыклад, прадпрымальнасць – уменне пралічваць і браць на сябе рызыку. Чаму нашая школа не вучыць гэтаму? Ці ўменне вучыцца на працягу ўсяго жыцця… Дык ці можам мы неяк данесці гэтыя базавыя кампетэнцыі, паўплываць на сістэму, каб да нас прыслухаліся? Другое пытанне: грамадскія арганізацыі не могуць уплываць на змест адукацыі. Фармаваць кампетэнцыі мы можам толькі праз методыкі. Пытанне да прысутных: ці нашая праца па метадычнай адукацыі настаўнікаў прынесла плён?

**Мікалай Запрудскі:**

– Кампетэнтнасны падыход сапраўды ў свеце папулярны, і «моцна» працуе ў Фінляндыі. Артыкул 91 Кодэкса аб адукацыі[2] якраз згадвае кампетэнтнасны падыход. І працуючы з дырэктарамі і намеснікамі, мы якраз абмяркоўваем: як зрабіць, каб гэты артыкул 91 запрацаваў. Яны пачынаюць разумець: каб дзецям было ў Беларусі добра, і з гэтымі дзецьмі астатнім беларусам было добра, трэба ведаць не толькі тое, што напісана ў падручніках. Лепш за ўсё засвоены інфармацыйна-камп'ютарныя кампетэнцыі. З астатнімі кампетэнцыямі праблемы ёсць (напрыклад, з прававымі, грамадзянскімі). У праграмах і падручніках гэта не закладзена. Яны фармуюцца праз актыўныя метады навучання, дзякуючы працы таго ж «Цэнтра Супольнасьць». Але хуткім такі плён быць не можа.

Ну і профільнае навучанне – не панацэя. Вучань жадаў бы паступаць у тэхналагічны ўніверсітэт, дзе здаюць хімію і матэматыку. Ніводная школа краіны не мела хімічна-матэматычнага класа. Былі фізічна-матэматычны, хімічна-біялагічны. Ці на геафак: здаюць геаграфію і матэматыку. Калісьці быў геаграфічна-матэматычны клас у Багамолавай (дырэктар ліцэя) ў ліцэі № 2, дык яна збірала дзяцей з усяго Мінска…

Я шэсць гадоў займаўся так званым мультыпрофільным навучаннем, калі дзеці выбіралі для навучання на павышаным узроўні тры прадметы (напрыклад, хімія – матэматыка – беларуская мова). Гэтую мадэль мы выпрабоўвалі з 2001 г. А ўжо ў 2008 г. па ёй працавалі афіцыйна, у адпаведнасці з загадам міністра. Былі напісаныя метадычныя рэкамендацыі па масавым выкарыстанні гэтай мадэлі. Гэта найлепшая мадэль, якая дае вучням магчымасці выбару. Пасля 2008 г. яна была адменена, але мне падаецца, мы да яе вернемся.

**Аляксандр Сядзяка:**

– Падвядзем высновы секцыі. Наколькі я зразумеў, праблема якасці адукацыі факусуецца на якасці падрыхтоўкі настаўніка.

2 Артыкул 91. Асноўныя патрабаванні да арганізацыі адукацыйнага працэсу.

## II. АЛЬТЭРНАТЫЎНЫЯ АДУКАЦЫЙНЫЯ АСЯРОДКІ

**(мадэратар Тамара Мацкевіч)**

**Тамара Мацкевіч:**

– Мы вялі гаворку пра якасць і «астраўкі нармальнасці». Пытанне да дырэктара беларускага гуманітарнага ліцэя: ці ўдаецца ліцэю ў такіх умовах выхоўваць чалавека з якаснымі ведамі ў еўрапейскім сэнсе?

**Уладзімір Колас:**

– Альтэрнатыўная адукацыя – не толькі прыватныя школы. Альтэрнатыўная адукацыя – гэта і вуліца, і самаадукацыя, і тое, што прыходзіць праз медыя... Ці можа тут перамагаць афіцыйная школа? Наўрад ці. Ствараюцца падпольныя стандарты. Цяпер школа культывуе энцыклапедычны падыход да ведаў, у ёй не вучаць працаваць з інфармацыяй.

Галоўнае – які заказ дае дзяржава сістэме адукацыі. Той жа АМАП – людзі, якія неяк ведаюць і гісторыю, і грамадазнаўства.

**Тамара Мацкевіч:**

– Ці ўдаецца ліцэю ў такіх умовах выхоўваць чалавека з якаснымі ведамі ў еўрапейскім сэнсе?

**Уладзімір Колас:**

– Мы працавалі ў дзяржаўнай сісэме адукацыі. І ў прынцыпе, гэта досвед не ва ўсім адмоўны. Прафесіяналы ў адукацыі разумелі ролю і ліцэя, і эксперыментальных пляцовак. Усю сістэму адразу мяняць немагчыма, непрафесійна. Трэба выпрацоўваць нейкі досвед.

На сапраўдную спецыялізацыю вучняў старэйшых класаў сістэма не пайшла. Савецкі антыгуманітарны і антыбеларускі сіндром пераадолець не атрымалася.

Што да ўзроўню ведаў – ён павінен адпавядаць адзнацы. У афіцыйнай сістэме дырэктар прымушае настаўнікаў маляваць адзнакі. У нас

рэальныя веды адпавядаюць рэальным адзнакам. Гэта выяўляецца на ўступных іспытах і на экстэрнах. Па тым, як працуюць нашыя выпускнікі ў самых розных сферах.

**Аляксандр Палоннікаў:**

– Я неяк запытаў у знаёмай настаўніцы: што ты робіш на ўроках? Адказвае: збіраю тэлефоны. Сёння ў Мінску амаль 70% сем'яў маюць камп'ютар. Гадоў пяць таму гэта было недзе 50%. Амаль 70% інфармацыі сённяшнія маладзёны атрымліваюць з інтэрнэту – не з



тэлебачання! Школа як крыніца інфармацыі займае апошнія месцы. 50% польскіх вучняў больш кампетэнтныя ў камп'ютарных рэаліях, чым іх выкладчыкі. Выходзіць, у настаўнікаў яны вучацца, як дастасавацца да сістэмы і пасля пра яе забыць. Атрымаць рэйтынгі, здаць іспыты – і ўсё. Адукацыя адбываецца ў іншым месцы. Мае знаёмыя з Польшчы кажуць: польская мова сыходзіць. Нашыя юнакі размаўляюць па-англійску. На маю думку, настаўнік павінен рабіць нешта іншае ў іншым месцы. Магчыма, трэба гуртавацца тым настаўнікам, для якіх не інстытут адукацыі, а адукацыя з'яўляецца

сэнсам жыцця. Мой асноўны тэзіс – грамадзянская супольнасць павінна адыграць сваю ролю ў гэтых альтэрнатыўных працэсах, у медыйных адукацыйных асяродках.

**Тамара Мацкевіч:**

– Такім чынам, нашыя дзеці ходзяць у школу, а адукацыю атрымліваюць у іншым месцы. Напрыклад, у рэпетытараў. Спадар Міхась, спадарыня Валянціна, якія плюсы ў гэтай альтэрнатывы?

**Міхась Булавацкі:**

– Рэпетытарства выпраўляе школьныя праблемы. Рэпетытар павінен даць чалавеку тое, што яму трэба. Школьны прынцып роўнасці пераўтвараецца ў прынцып аднолькавасці. Мару пра школу з гнуткімі тэрмінамі.

**Мікалай Запрудскі:**

–Ці могуць рэпетытары вучыць кампетэнцыям?

**Міхась Булавацкі:**

– Гэта ўжо не нашая справа, а справа грамадства, стварыць такі попыт. Калі з'явіцца попыт на кампетэнцыі – з'явяцца і рэпетытары.

**Валянціна Быстрык:**

– У мяне двaістае стаўленне да рэпетытарства. Першы мінус – неабходнасць дзіцяці плаціць за ўрок. Бацькі вучня плацяць за тое, за што ўжо заплацілі падаткамі. Другая праблема – у індывідуальнай працы ці працы малымі групамі няма той інтрыгі, таго драматызму. Да таго ж, няма пачуцця перамогі. Школа – жывая. А тут заўсёды ёсць схема, і час абмежаваны. І на лірычныя адступленні няма часу…

Старшэнны мінус – жахлівая занятасць дзяцей. Ім ужо ў старэйшых класах робіцца ўсё роўна, бо цяжка вытрымаць нагрузку. Абавязковыя прымусова-выхаваўчыя мерапрыемствы. Дзіця кажа: мяне не будзе два дні, рыхтуюся да вучнёўскай канферэнцыі. Што такое рыхтуюся? Настаўнік знаходзіць і дае дзіцяці тэкст. Значыць,

першая задача – навучыцца гэта агучыць. А як ты на пытанні будзе адказваць? Кажа: не ведаю… У дзяўчынкі з Брэста і дзяўчынкі з Наваградка – адна і тая ж тэма і яны адзін у адзін аднолькавыя тэксты агучваюць.

Ці праходзіў у гімназіі конкурс «Знаёмства з гісторыяй»: дзяцей дрэсіруюць мінімум месяц. Прыходзіць «судны дзень». А ў журы сядзяць людзі, якім патрэбны пэўны вынік. І настаўнік даходзіць да таго, што не саромеецца на вачах рабіць такія падтасоўкі, што дзеці кажуць: якая брыда. Таму на конкурс не пускаюць нікога! Журы і ўдзельнікі – усё. Ні іншыя школьнікі, ні бацькі не могуць прысутнічаць.

Яшчэ мінус – падтрымліваецца ідэя няроўнасці, сацыяльнай напружанасці.

З плюсаў: з'яўляецца магчымасць для развіцця настаўніка. Настаўнік зацікаўлены ва ўдасканаленні, каб прыцягваць вучняў. У выніку сярод настаўнікаў адбыўся натуральны адбор і найбольш паспяховыя атрымалі нейкі дадатак да заробку. Добры настаўнік – ужо не гарадскі жабрак, ён можа пракарміць сябе сваёй прафесіяй.

Дзіця атрымлівае больш грунтоўныя веды, можа здзейсніць сваю мару паступіць куды хоча і стаць кім хоча.

Ну і магчымасці самаарганізацыі прысутнічаюць. Мая знаёмая, напрыклад, пачынала як рэпетытар, цяпер арганізавала ў Лідзе рэпетытарскі цэнтр «Прыватнае вучэбнае ўнітарнае прадпрыемства»: працуе яна і яшчэ тры настаўнікі. Мы, з падтрымкай нашага ліцэя, маем магчымасць даць нашым дзецям бясплатную дапамогу. На пытанне чаму адказваем: бо беларусы павінны дапамагаць беларусам.

**Міхась Булавацкі:**

– Звяртаючыся да пытання навучання грамадзянскім кампетэнцыям. У мяне пытанне мовы вырашаецца праз выбар вучня, але на беларускай мове заняткі каштуюць вучню істотна ніжэй. Калі вучань і адказвае па-беларуску – яшчэ ніжэй.

**Пётра Садоўскі:**

– Была сказана пра PISA, пра кампетэнцыі. Я даволі добра ведаю нямецкі досвед. Любіў хадзіць па ўроках, па школах. Супрацоўнічаў пяць гадоў. Ёсць ў Браўншвейгу Інстытут даследавання падручнікаў усяго свету. Завёз туды 46 кілаграм беларускіх падручнікаў. У іх там школьныя парламенты арыентаваны на мясцовыя праблемы. Гэтак званы прынцып рэгіянальнай сацыялізацыі. Вучням прапаноўваецца: вось вам праграма па беспрацоўі, рыхтуйце. Чатыры гадзіны на гэты семінар адводзіцца, на спрэчкі. Хто хоча, урадавую пазіцыю адстойвае, хто хоча – прафсаюзную.

**Тамара Мацкевіч:**

– Наталля Ільініч – настаўнік вышэйшай катэгорыі, якога пазбавілі працы ў афіцыйнай сістэме адукацыі за перакананні, якая два гады вядзе барацьбу за права застацца ў прафесіі. Што Вы можаце сказаць калегам пра альтэрнатывы і магчымасці?

**Наталля Ільініч:**

– Я падрабязна апісала свой шлях у артыкуле, які знаходзіцца на сайце www.nastaunik.info. Але пераможцай сябе не адчуваю.

**Алена Палейка:**

– Наташа, назаві тры плюсы твайго цяперашняга стану.

**Наталля Ільініч:**

– Па-першае, я засталася ў прафесіі, зарэгістравалася рэпетытарам і маю пяць вучняў, шкадую, што не загэгістравалася адразу пасля звальнення, павышаю сваю кваліфікацыю, супрацоўнічаю з Таварыствам беларускай школы, вяду метадычны сайт www. aacenka.by. Па-другое, я адчула моцную салідарнасць з боку калег і грамадства – толькі грашовых пераводаў атрымала 201, ну і па-трэцяе, маю больш вольнага часу і мая гаспадарка дагледжана нашмат лепш.

## III. НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА І АДУКАЦЫЯ

**(мадэратар Вінцук Вячорка)**

**Вінцук Вячорка:**

– Нацыянальная культура і адукацыя – трэцяя тэма нашай сустрэчы. Хаця, безумоўна, паводле важнасці яна мусіла б быць першай.

Тэкст[3], у прадмове якога гаварылася: "Найважнейшай асаблівасцю канцэпцыі нацыянальнай школы ёсць сістэматычна ажыццёўлены творчы сінтэз педагагічнага ўсясветнага досведу і роднай культурнай традыцыі. Практычна адзіным цывілізаваным сродкам адраджэння новай Беларусі можа стаць стварэнне такой сістэмы адукацыі, асноўнаю задачаю якой стане ўкараненне індывіда ў яго роднай культурнай традыцыі, якая ператвараецца ў духоўную крыніцу сённяшняга і будучага развіцця". Інакш кажучы, нацыянальнае беларускае – гэта не факультатыўны кампанент, а сутнасць, падстава, прызма, праз якую пераламляецца і ўсясветны досвед. (*Да Гусакоўскага*) Ну дык, спадар Міхась, ці не зашмат рамантызму было тады? Гэта быў вельмі добры час, усе думалі, што збудаванае тады становіцца падмуркам і вельмі хутка на падмурку будзе будавацца дом, будыніна, са сценамі, і вокнамі (абавязкова вялікімі), і дахам, каб не ліло. Але далоў сантыменты. Як вы цяпер глядзіце на той досвед? Ці не страціла актуальнасці тая праца?

**Міхась Гусакоўскі:**

– Я вельмі ўдзячны, што запрошаны на размову. І вельмі задаволены тым, што пачуў. Тэкст вельмі добра сфармуляваны і наўрад ці будзе патрэба ў ім нешта перарабляць (*Трымае ў руках брашуру з Канцэпцыяй нацыянальнай адукацыі 1993 года*).

Я мяркую, што каб нацыянальная сістэма адукацыі жыла, яна павінна мець сваю філасофію. І над гэтым трэба адмыслова працаваць. Сістэматычна, не ад выпадку да выпадку. Вельмі складаныя працэсы ў свеце, і вельмі складана ўладкаваная адукацыя. У гэтым

3 Канцэпцыя нацыянальнай школы Беларусі // Адукацыя і выхаванне. – 1995. – №10. – С. 89 – 126. Па-рас. гл. http://charko.narod.ru/tekst/konc/vnik.htm .

сэнсе нават сёння шмат хто спрабуе апеляваць да філасофскіх развагаў, каб знайсці нейкія аргументы. І гэта невыпадкова.

Задача, сфармуляваная тут – фармаванне сацыякультурнай ідэнтычнасці, заснаванай на беларускай нацыянальнай традыцыі, – гэтая задача застаецца. Мне здаецца, яна яшчэ будзе дастаткова доўга актуальнай. Гэты працэс, які абазначаны як базавы для беларускай нацыянальнай сістэмы адукацыі, беларускай нацыянальнай школы, базавы працэс ідэнтыфікацыі ў прынцыпе наўрад ці можа цяпер патрапіць пад нейкі радыкальны сумнеў. Хутчэй за ўсё, яго трэба цяпер ускладняць. Яго трэба мультыплікаваць, разрозніваць. У гэты працэс трэба ўвесці дадатковыя разрозненні, каб стала больш зразумела, што ж рабіць.

Тады было досыць агульнае ўяўленне, што такое ідэнтыфікацыя: гэта фармаванне нейкага ўмення, каб можна было адрозніць сваё ад чужога. Для таго часу гэтага было дастаткова.

Сёння працэсы значна ўскладніліся. Сёння мы маем сваіх беларусаў, якія прысвоілі сабе права біць іншых па галаве – беларусы! Толькі таму, што ў іх тут (*паказвае на грудзі*) нешта напісана. Сёння закладаюцца нейкія іншыя структуры, якія выбухнуць заўтра. І зноў, можа быць, павядуць нас не туды. Трэба ўважлівей прыгледзецца: што складваецца, якія структуры? Як у гэтым удзельнічаць, як адрозніць пшаніцу ад куколя, набываць нейкія сродкі, каб можна было ўсведамляць гэтыя адрозненні і больш свядома паводзіцца? Большай задачы філасофія ніколі не ставіла: разумець, у якой сітуацыі ты знаходзішся, і рашаць, што можна зрабіць.

Учора я выпадкова знайшоў у інтэрнэце спасылку на кніжку нобелеўскага лаўрэата па эканоміцы Акерлофа і яго вучаніцы Крэнтан (George Akerlof, Rachel E. Kranton) «Эканоміка ідэнтычнасці». Пафас гэтай працы ў тым, што ідэнтычнасць сёння ёсць фактар, які вызначае эканамічныя паводзіны індывіда. Цалкам неэканамічная, здавалася б, ідэя. Аказваецца, ідэнтычнасць можа фармаваць структуры паводзінаў і структуры патрэбаў, якія могуць развіваць грамадства…

**Пётра Садоўскі:**

– Пратэстанты жывуць багацей, чым каталікі…

**Міхась Гусакоўскі:**

– …у гэтым сэнсе каштоўнасць ідэнтычнасці вельмі вялікая. Мы яе ў той далёкі час, калі пісалася канцэпцыя, разумелі як сацыяльна-псіхалагічную ўстаноўку, цяпер жа вядзецца пра тое, што гэты важны культурны феномен мае яшчэ большае значэнне.

Сёння ў культуры адбываюцца некалькі працэсаў, на якія я хацеў бы звярнуць увагу і крытычна да іх паставіцца. Што мяняецца ў разуменні ідэнтычнасці і ў працэсах фармавання ідэнтычнасці? Я абазначу тры працэсы.

Першы – індактрынацыя: навучанне некага дактрыне без уключэння крытычнага ўспрыняцця. Па дарозе сюды я ўбачыў у парку два бігборды: «Я люблю Беларусь» і «Разам мы – Беларусь». Увесь час, як мой позірк на іх натрапляе, у мяне паўстае адно і тое ж пытанне: хто гэты «я»? І як гэта ён «любіць»?

Я не хачу да гэтага лозунга далучацца; да гэтага «я», якое на бігбордах, я не належу! У мяне іншае «я». Тэма індактрынацыі (ідэалогія, якая ўводзіцца ў навучальныя курсы) аперуе вельмі важным пачуццём – пачуццём патрыятызму. Але я б хацеў, каб у гэтым пачуцці былі адрозненні, адрозненні свайго, спецыфічнага стаўлення да Беларусі. Сёння неабходна, каб узнікала свая сімволіка, якая б нараджала іншае стаўленне да сваёй традыцыі. Не афіцыйна-фармальная. Бо тая, якая на бігбордах – прафануе само патрыятычнае стаўленне.

Другі працэс: кансьюмерызм. Спажывецтва. Таксама мае шмат розных значэнняў, адно з іх станоўчае: рух грамадзян ці дзяржаўных арганізацый за пашырэнне правоў спажыўцоў і ўзмацненне іх уздзеяння на прадаўцоў і вытворцаў. Г. зн. спажыўцы маюць права выказваць прэтэнзіі вытворцу. Гэта ідэя, закладзеная і ў паняцці якасці адукацыі. Але тут адбываецца падвойная аперацыя: з аднаго боку, адукацыя пагражае пераўтварыцца ў паслугу, г.зн. быць прададзенай. І ў той жа час адукацыя – гэта такая сухая рэшта, якая ніколі не можа быць трансфармаваная ў грошы. Ці

вымераная колькасным чынам, эканамічнымі сродкамі. Сёння ў апісанні адукацыі спрэс назіраецца эканамічны слэнг, прычым адкрыты. Ён прысутнічае ў тэрміне «якасць». Якасць адукацыі – чыста эканамічнае, менеджарскае слова. Фармаванне стаўлення да адукацыі як да нечага важнейшага, чым набыццё любой кампетэнцыі, – больш моцны, на маю думку, тэзіс у нацыянальнай школе, чым фармальныя нормы, да якіх мы заклікаем.

Трэці працэс – віртуалізацыя ідэнтыфікацыі. Віртуалізацыя ў слоўніках апісваецца цікавым чынам: стварэнне пэўнага кшталту ўяўленняў пра свет з дапамогай тэхнічных сродкаў. У сувязі з гэтым паўстае досыць цікавы феномен (пра гэта казаў калега А. Палоннікаў) – спроба фармавання ідэнтычнасці, якая носіць характар камп'ютарнай. Тэрмін, на які я хацеў бы звярнуць вашую ўвагу, – воблачная ідэнтычнасць. Каб было зразумела, магу прывесці прыклад: калі адзін камп'ютар дасылае запыт іншаму камп'ютару – ён яго здзяйсняе праз самы кароткі шлях. Знаходзіць вольны сервер і праз яго перадае інфармацыю. На наступны дзень гэта можа быць зусім іншы шлях. Воблачная ідэнтычнасць гэтаксама кожны раз іншая. Яна ёсць, але яна складаецца з цалкам розных элементаў, і межы яе няпэўныя.

Апошняе, чым бы я хацеў скончыць: калі мы пісалі канцэпцыю нацыянальнай школы, мы пісалі яшчэ і канцэпцыю ліцэя, яго мадэль. Там вялася гутарка пра тое, што задача ліцэя – сфармаваць лідараў. Мы спрабавалі апісаць якасці, якія павінны мець гэтыя лідары. Сёння да гэтых якасцей можна дадаць яшчэ адну важную ўласцівасць – уменне ствараць фарматы, якія аб'ядноўвалі б як мага большую колькасць людзей, здольных да сацыяльнай актыўнасці.

**Вінцук Вячорка:**

– Дзякуй, спадар Міхась. Яшчэ ў той прадмове гаварылася: выяўленне і вызначэнне ўласнай мэты і ўласнага інтарэсу становіцца сёння дзейсным чыннікам самаарганізацыі і адраджэння нацыі, прынцыпам сацыяльнай палітыкі дзяржавы Беларусі. У гэтым рэчышчы таксама трактавалася і ўзгадаванне свабодных грамадзян, якія сваю свабоду рэалізоўвалі дзеля сваёй дзяржавы Беларусі. Відаць, праблема, пра якую гаварыў спадар Гусакоўскі – праблема

«ідэнтыфікацыі з чым» – таксама і лінгвістычная, семантычная. Дзяржава Беларусь і краіна Беларусь сёння аказваюцца розныя. Дзяржава Беларусь зусім не абавязкова атаесамляе сябе з краінай Беларуссю. І адсюль праблема ва ўспрыманні вось тых публічных лозунгаў: што такое гэтая Беларусь, якую я люблю… З дзяржавай Беларуссю і краінай Беларуссю атаесамляў і атаесамляе сябе Беларускі гуманітарны ліцэй.

**Уладзімір Колас:**

– У працяг тэмы пра альтэрнатыўнасць ліцэя. І калі мы пісалі канцэпцыю, і сёння – мы з'яўляемся лакмусам стаўлення дзяржавы да пэўных каштоўнасцей, на якіх і ліцэй грунтаваўся, і ў прынцыпе і дзяржава павінна была будавацца. На вялікі жаль, сёння гэтыя каштоўнасці не тое каб адмаўляюцца, але стаўленне да іх такое савецкае. Ужываюцца падвойныя стандарты. І без палітыкі тут не абысціся. Ёсць кан'юнктура, якая мае пад сабой эканамічны грунт: хочаш нафты – гучы «по-русски». Людзі, пазбаўленыя таго, пра што мы кажам, у якіх адбілі самаідэнтыфікацыю, могуць абсалютна абыякава рэагаваць на ўсе гэтыя трансфармацыі на дзяржаўным узроўні: ад «саюзнай дзяржавы» да губерняў урэшце рэшт.

Што такое нацыянальная дзяржава? Усё павінна ў ёй быць як у людзей. І стаўленне да мовы, і статус дзяржаўнай мовы, мовы тытульнай нацыі. На вялікі жаль, у нас на дзяржаўным узроўні гэтага няма, у сістэме адукацыі гэтага няма. Менавіта таму ліцэй цяпер – гэта альтэрнатыва, прычым абсалютна нефармальная, якую немагчыма нават зарэгістраваць.

Мы з вуліцы прыйшлі ў сістэму адукацыі. Пачыналі як проста нядзельны ліцэй пры Таварыстве беларускай мовы. Гэта была цалкам прыватная грамадзянская ініцыятыва. І тое, што паступіла прапанова ад Міністэрства адукацыі, сведчыць, што там таксама былі пэўныя працэсы. І мы тады далі сабе абяцанне: як толькі пачнецца ціск, не будзе магчымасці рабіць тое, у што мы верым, – мы сыдзем зноў на вуліцу. Так яно і атрымалася. Мы ведаем, што самыя фантастычныя, неверагодныя перамены ў гэтым жыцці магчымыя. І мы спадзяемся, што яшчэ ўсё памяняецца. Але зараз гэтая сістэма сапраўды трансфармуе наступнае пакаленне. Яна не

толькі вучыць, яна і сацыялізуе. Кансервуе пэўныя мадэлі. І задача нашая засталася: рыхтаваць лідараў, тых, хто будзе нешта мець, мець альтэрнатыву, у бок якой павінна мяняцца ўсё грамадства.

**Вінцук Вячорка:**

– І, напэўна, будзе мець каштоўнасную матывацыю. Што ні кажы, за дваццаць гадоў змянілася пакаленне і тэхнічна-інфармацыйны кантэкст. Магчыма, трэба даследаваць змены ў фізіялогіі ўспрымання ў дзяцей. Асаблівасці перцэпцыі мяняюцца тысячагоддзямі і дзясяткамі тысячагоддзяў – а тут літаральна на вачах. Калі чалавек з трох гадоў валодае «мышкай» лепей, чым уласным языком – гэта не можа не адлюстроўвацца на яго псіхіцы, гэта азначае, што традыцыйныя вербальныя спосабы і матрыцы ўплыву перастаюць працаваць. За дваццаць гадоў адбыліся і грамадска-палітычныя змены. І ўсё гэта разам узятае не магло не паўплываць на настроі, філасофію, якая пануе сярод сённяшніх дзяцей, іхных бацькоў. Пытанне: ці выхаванне – гэта функцыя школы? Выхаванне наагул і нацыянальна-культурнае ўзгадаванне. Я ўзяў падручнік геаграфіі для восьмага класа (дачка вучыцца): «краіны замежнай Азіі» – патлумачце мне, калі ласка, гэта што для беларуса?

Настаўнікі-практыкі, калі ласка, канкрэтызуйце. Спадарыня Алена Палейка.

**Алена Палейка:**

– Сярод адміністрацыі школ, настаўнікаў, дзяцей і іх бацькоў пануе спажывецка-канфармісцкая, цалкам прагматычная псіхалогія. Яна праяўляецца адначасова як у патрабаваннях, так і ў прыстасоўванні да сітуацыі, але цалкам выключае актыўную жыццёвую пазіцыю. Прычым такая псіхалогія цалкам задавольвае настаўніка, які адчувае сябе ахвярай, але нічога не робіць дзеля таго, каб змяніць сітуацыю. Адсюль і сентэнцыі кшталту «А што я магу зрабіць? Вы ж самі ўсё вельмі добра разумееце». Згодна з сацыялагічным даследаваннем, якое штогод праводзіцца ў школе сярод дзяцей і настаўнікаў, галоўнымі каштоўнасцямі былі названыя сям'я, стабільнасць і справядлівасць. Пры гэтым такія каштоўнасці, як салідарнасць і прыватная маёмасць, не набралі ніводнага голасу, а свабода

заняла толькі чацвёртае месца ў рэйтынгу. Гэтыя вынікі сведчаць пра ўнутраны дысананс паміж абыякавасцю і голасам сумлення, паміж жаданнем быць, як усе, і цікавасцю да нармальнага, добрага і нацыянальнага, якое змагаецца. Ёсць настаўнікі, якія і адзін у полі воін – яны змагаюцца далей. Ёсць установы, якія вучаць інтэрактыўным метадам. Сёння нам не хапае маладых, не хапае студэнтаў, аспірантаў, якія б тут прысутнічалі. Кропка біфуркацыі наступае. Нашая галоўная мэта – яе не прапусціць.

**Вінцук Вячорка:**

– Калі спадарыня Галіна Сухава адкрывала для сваіх, і не толькі для сваіх, вучняў Максіма Гарэцкага, яна сфармулявала ягоны прарыўны пасыл: беларус не гаротны і няшчасны, ён з тых, хто ведае, што яму патрэбна, ён кемлівы і ўпарты. Выбіраць нацыянальную ідэнтычнасць – сёння значыць кідаць пэўны выклік.

**Галіна Сухава:**

– Хто такі настаўнік ва ўяўленні традыцыйных беларусаў? Чалавек, які лёгка прымае інфармацыю і яе перадае. У сучаснай школе большасць настаўнікаў мае комплекс выдатніка. Настаўнік ведае, як правільна. А ўсё, што правільна, яму прадпісалі. І ён разумее, што выканаць гэта – практычна немагчыма. І што рабіць прыстойнаму чалавеку, выдатніку?

Праблема, мне здаецца, у гэтым: ёсць як трэба, ведаем, што парушаць нельга ні ў якім разе, і настаўнік – такі зашуганы конь. Хаця ўся сітуацыя вакол патрабуе мяняцца. Я прайшла конкурс «Настаўнік года» і цяпер магу сказаць, што перамагае толькі той чалавек, які не такі, як усе. Я люблю беларускую літаратуру, мне падабаецца здзіўляць. Цяпер я ў клубе «Крыштальны журавель», мы выязджаем і нашая асноўная фунцыя – не вучыць, а здзівіць, паказаць: вось так – нельга, але калі вам падабаецца, то рабіце!

Ёсць сучасная прафесія – іміджмэйкер. Іміджам настаўніка ніхто не займаўся, толькі савецкі кінематограф, дзе настаўнік заўсёды быў такі прыдуркаваты чалавек: прытрымліваўся нейкіх правілаў, жыццё мяняецца, а ён на гэтыя змены ў жыцці не рэагуе. Кансерватар. 50% грамадства лічыць: гэта і ёсць настаўнік. Ён ведае, як трэба, і гэты

мінімум данясе. І ёсць яшчэ 50 %, яны лічаць, што настаўнік – гэты той, хто вучыць «як». Дзякуючы нефармальнай адукацыі і для мяне нарэшце гэта прыйшло: важна вучыць не «чаму», а «як». Дзякуючы семінарам, актыўным метадам навучання. Калі калегі-настаўнікі гэта зразумеюць, то, мне здаецца, сітуацыя зменіцца. Цяпер у педагогі ідуць абітурыенты – далёка не выдатнікі. Магчыма, у гэтым няма катастрофы. Бо школа – спецыфічны асяродак. Калі настаўнік там зачапіўся, ён будзе настаўнікам. Незалежна ад дыплома, бо тут больш практычныя, чалавечыя навыкі задзейнічаны. Калі ствараць імідж настаўніка – ён павінен быць разнапланавым. На добры лад, прадзюсарам настаўніка павінны быць бацькі. А мы гэты кампанент вельмі моцна губляем, грамадскасць не задзейнічаем. Школа – закрыты інстытут. Любая спроба знаёмства звонку ўспрымаецца як чарговая праверка.

**Аляксандр Сядзяка:**

– У 2010 г. у мінскай школе адбываўся маніторынг. Глядзелі, як у школе пасля ўсіх гэтых рэформаў. Размаўлялі ў класе з дзецьмі. Дырэктарка дала інспектарцы найлепшы клас. Было пытанне: калі была б магчымасць працягваць навучанне за мяжой – ці вучыліся б вы ў Беларусі? 100% найлепшага класа адказалі: мы б паехалі. Дзяржава не павінна выпускаць адукацыю са сваіх рук, бо галоўная задача адукацыі – выхаванне грамадзяніна сваёй краіны. Калі нашая дзяржаўная адукацыя гэтую справу не робіць, гэта павінна рабіць адукацыя альтэрнатыўная. Не можа быць выхавання патрыётаў на грунце чужой мовы і зневажання нацыянальных каштоўнасцей.

**Вінцук Вячорка:**

– Дзякуй, спадар Аляксандр. Такім чынам: нацыянальныя інтарэсы, нацыянальныя каштоўнасці – з гледзішча ў тым ліку еўрапейскага досведу. Наколькі мы адсталі ў гэтым сэнсе? Якая мадэль дзяржавы ў нас выбраная? Спадар Пётра Садоўскі.

**Пётра Садоўскі:**

– Пафас майго прысуду такі: давайце мы разам напішам кніжку! Нам патрэбна папулярнае выданне пра нацыянальныя каштоўнасці

ў сістэме сучасных гуманістычных ведаў – настольная кніга для настаўнікаў, вучняў і іх бацькоў з умоўнай назвай «Хто мы і дзе мы знаходзімся?»

**Алесь Лозка:**

– Не будзем удавацца ў падрабязнасці, на якой дакладна стадыі знішчэння і самазнішчэння знаходзіцца нацыянальная культура, мова беларусаў, але тое, што яна знаходзіцца ў даволі крытычным стане і набліжана да клінічнай мяжы – не выклікае сумнення.

Са школьнай праграмы знік прадмет «Айчынная і сусветная культура», які прадугледжваў вывучэнне спецкурсаў і факультатываў фальклорна-этнаграфічнага кірунку. Акрамя таго, школы цяпер пазбаўленыя паглыбленага і профільнага навучання, г. зн. зніклі этнакласы, дзе можна было развіваць мастацкія навыкі, нацыянальную свядомасць. Закрываюцца адпаведныя факультэты і кафедры ва ўніверсітэтах. Развіваецца іншая ідэалогія.

Прааналізуем дапаможнік «Народная педагогика», рэкамендаваны рэдакцыйна-выдавецкай радай БДПУ і выпушчаны ў 2007 г.[4]. Дапаможнік напісаны на рускай мове і рэкамендаваны настаўнікам-прадметнікам, класным кіраўнікам, выкладчыкам ВНУ, студэнтам педагагічных спецыяльнасцей, аспірантам.

Ва ўступным артыкуле робіцца абстрактная спроба абгрунтаваць псіхалагічна-педагагічныя перадумовы фармавання нацыянальнай свядомасці асобы. Дэкларуецца, што аўтары абапіраюцца на высновы беларускіх вучоных, якія займаюцца праблемай нацыянальнай самасвядомасці (і ўказваюцца сапраўды беларускія крыніцы), але асноўны раздзел «Методика формирования национального сознания школьников на материале народной педагогики» ім супярэчыць.

У дапаможніку пададзена праграма з дзесяці тэм і метадычна-тэхналагічнае забеспячэнне. У першай з іх («Народная педагогика: ее воспитательный потенциал») аўтары ўмудрыліся абысці няёмкае наўпростае пытанне: свядомасць якой нацыі яны будуць фармаваць у беларусаў, чыю культуру будуць ім насаджаць? У сцэнарыі занятку

4 Воронецкая, Л. Н., Мелешко, Ю. В. Народная педагогика. – Минск : Красико-Принт, 2007.

прысутнічаюць звычайныя пытанні пра Радзіму, продкаў у трэцім калене, народныя святы і культуру, а таксама прыводзіцца выраз: «Народ осуждал тех, кто по своей воле очутился на чужой стороне – Кто язык и веру менял, тот мать предавал» [с. 44].

У другой тэме «Славянский фольклор как средство воспитания личности» нават са спіса літаратуры можна прыйсці да высновы, што славяншчына – гэта толькі руская культура.

У тэме пра гісторыю рускага этыкету, які, як вядома, адрозніваўся ў розных фармацыях і эпохах, педагог даведаецца пра сенсацыйныя падзеі: Кастрычніцкая рэвалюцыя адмяніла этыкет… і рэабілітаваны ён у савецкую эпоху ў 30-я гг. – гады «адлігі», калі пачалі наладжвацца міжнародныя сувязі… [с. 74].

Іншыя тэмы наўпрост скіроўваюць да рускай народнай музыкі, харэаграфіі і г. д. Усё гэта падаецца як роднае.

Зразумела, што вывучэнне чужой культуры не з'яўляецца заганай, а наадварот, мераю выхаванасці, але насаджэнне праз адукацыю ў свядомасць дзяцей чужой культуры і свядомае перавыхаванне ў іншую нацыянальнасць – гэта і ёсць гвалтоўная асіміляцыя.

**Вінцук Вячорка:**

– Тэм, якія сёння загнаныя ў парадак дня, хопіць на дзесяць калегій Міністэрства адукацыі. Некаторыя з іх павінны быць сумесныя з Міністэрствам культуры ці Міністэрствам эканомікі. Трэба разглядаць прагаворанае сёння як анонс на больш звужаныя тэматычныя круглыя сталы.

**Тамара Мацкевіч:**

– Дыскусія будзе працягвацца ў інтэрнэт-прасторы. Калі спатрэбіцца, будзем збірацца і ў іншым складзе, з іншымі пытаннямі.

